А. СЛУЦКІ, С. АМОСАЎ, М. ЖАРНІКАЎ

# ПРОЦІБРАНЯВАЯ БАРАЦЬБА

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК 1933

**А. Слуцкі, С. Амосаў, М. Жарнікаў—„Процібранявая барацьба“.** Праца выходзіць 2-м выданьнем, значна пераапрацаваным і дапоўненым. У прыватнасьці нанова напісаны ўвесь першы і другі разьдзелы кнігі. У першым разьдзеле даюцца зьвесткі па арганізацыі і тактыцы мэханізаваных і танкавых часьцей, а таксама разглядаюцца сродкі барацьбы з імі. У другім разглядаецца процібранявая барацьба ў абароне. Трэці разьдзел—процібранявая барацьба на маршы, за выключэньнем нязначных паправак, застаўся бяз зьмен. Кніга разглядае актуальныя пытаньні і напісана з улікам усіх сучасных дасягненьняў у галіне процібранявой барацьбы, таму знаёмства з ёй шырокіх колаў начсаставу РСЧА трэба лічыць вельмі пажаданым.

---

Падрыхтавалі да друку:
Рэдактар *М. Калента.*
Пераклад. *П. Барсукоў.*
Карэктар *Б. Фрыдлянд.*
Тэхрэдактар *А. Невяровіч.*
Здана ў друк 8/V—33 г.
Падпісана да друку 20/VIII—33 г.

Уп. Галоўлітбелу № А 224, Заказ 3015—3000 экз. Гомель, „Палесдрук“.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

## ПРАДМОВА ДА 1-га ВЫДАНЬНЯ

Пытаньні процібранявой і ў прыватнасьці проціtанкавай абароны знаходзяцца ў нас ў некаторым занядбаньні.

За выключэньнем перакладных кніг П е р э і Х э й г л ь, кніжкі т. Л і з ю к о в а, часткова т. Г л а д к о в а і асобных артыкулаў, мы ня маем колькі-небудзь сур'ёзнай спробы сыстэматычна ў тактычным разрэзе апісаць прыёмы і мэтады барацьбы з танкамі і мэханізаванымі злучэньнямі тымі сродкамі, якія мы рэальна маем на сёнешні дзень.

Значным недахопам гэтых кніжак зьяўляецца іх вядомая застарэласьць. Між тым сучаснае разьвіцьцё танка, набыцьцё ім новых і палепшаных уласьцівасьцяй (апэратыўная і тактычная рухомасьць, падвышэньне сапраўднасьці агню, палепшаньне спосабаў сувязі і назіраньня), шырокія і настойлівыя досьледы за граніцай па вывучэньні ўласьцівасьцяй і тактыкі мэхчасьцей, бязумоўнасьць іх праяўленьня на палёх бою будучай вайны ў вялікай колькасьці—усё гэта прымушае ставіць пытаньне аб процібранявой абароне ў такой-жа плоскасьці, як гэта прынята зараз у адносінах паветраных сродкаў нападу.

Любая армія, нават маючая вялікую колькасьць танкаў і мэхчасьцей, павінна ў цяперашні час уключыць процібраняву́ю абарону неадымальным элемэнтам у сваю баявую падрыхтоўку.

Любы род войск, асабліва пяхота і коньніца, павінен быць гатоў у любой абстаноўцы адбіць напад мэхчасьцей. Падтрымка танкаў і сваіх мэхчасьцей можа толькі палегчыць гэту задачу, адначасова палягчаючы ім барацьбу з роўнакаштоўным (у асноўным) сабе праціўнікам.

Вось чаму мы лічым неабходным вітаць спробу трох маладых аўтараў даць сыстэматычную працу па пытаньнях ПБА, зварачваючы на процібранявую абарону на маршы асаблівую ўвагу.

Заслуга аўтараў заключаецца ў тым, што яны даюць канкрэтны матэрыял для меркаваньняў, разважаньняў і практычнага ўжываньня. Бязумоўна, што ў працы ёсьць недахопы і нават, магчыма, памылкі, але наяўнасьць іх ні ў якай ступені

не зьмяншае карыснасьці гэтай саячасовай працы. Гэтыя недахопы і памылкі бязумоўна зьяўляюцца вынікам неўстаноўленых яшчэ цьвёрдых поглядаў на ПБА. Аднак жаданьне накапіць матэрыял азначала-б адтэрміноўку на доўгі час, чаго нельга было-б цярпець. Арміі патрэбна ў гэты час хоць-бы набліжанае рашэньне.

Калектыўнае абгаварэньне і выпраўленьне працы на аснове далейшых досьледаў зьяўляецца задачай бліжэйшага будучага.

К. Каліноўскі.

## АД АЎТАРАЎ ДА 2-га ВЫДАНЬНЯ

Два гады, якія прайшлі з часу напісаньня кнігі (1-га выданьня), у асноўным не далі нічога такога, што магло-б прымусіць карэнным чынам зьмяніць і зьмест і ўстаноўкі кнігі. Таму з пункту погляду ацэнкі мэтадаў арганізацыі ПБА мы нічога ня можам ні дадаць, ні зьмяніць да таго, што было сказана ў 1-м выданьні, за выключэньнем аднэй найбольш прыкрай і буйнай памылкі, якая мелася ў кнізе 1-га выданьня, улічанай і выпраўленай у гэтым выданьні: гэта няправільнае ўскладаньне на начарта і наогул артылерыста ўсіх функцый процібранявой барацьбы. Праўда, артылерыя мае найбольшае значэньне з усіх сродкаў барацьбы з танкамі, аднак ёсьць і іншыя сродкі. Арганізаваць усе гэтыя сродкі (танкі, артылерыя, міны, інжынэрныя загароды), разьмеркаваць паміж імі задачы павінен агульнавайсковы (пяхотны) камандзір і яго штаб. Артылерыйскі камандзір зьяўляецца толькі адным з выканаўцаў. Гэта ў кніжцы было падкрэсьлена слаба, а ў некаторых задачах (абарона) была дадзена трактоўка з „артылерыйскім ухілам“.

Тэхніка за мінулыя два гады зрабіла вялікія крокі наперад. У гэты час у большасьці буйных армій разгортваюцца мэханізаваныя часьці, прычым тэндэнцыі да арганізацыі буйных чыста мэханізаваных злучэньняў зьяўляюцца характэрнай рысай данага пэрыяду. Стварэньне-ж больш буйных і чыста бронявых злучэньняў значна ўскладняе баявую работу пяхотных і кавалерыйскіх часьцей, перашкаджаючы іх манэўру, абмяжоўваючы свабоду іх дзействаў ня толькі ў тактычных, але і ў апэратыўных адносінах.

Такі колькасны рост мэханізаваных злучэньняў і баявых машын наогул прымушае ўзмацняць пяхотныя і кавалерыйскія злучэньні артылерыяй ПТА ўсіх тыпаў і калібраў. Аднак апрача гэтага неабходна ўлічваць яшчэ ўдасканаленьне баявых машын і зьяўленьне новых, напрыклад танкаў-амфібій, якія зьмяншаюць у цэлым залежнасьць бронясіл ад мясцовасьці і могуць ператварыць у актыўныя вучасткі ПБА тыя, якія да гэтага часу лічыліся (і па нашай кніжцы лічацца) пасыўнымі з-за наяўнасьці глыбокай воднай перашкоды. Больш шырокае распаўсюджаньне такіх танкаў, як Крысьці, уладаючых вялікай скорасьцю руху і па дарогах і без дарог, таксама зьмяняе маштабы разьлікаў.

Бязумоўна, гэтыя новыя дасягненьні ў мэханізацыі зьмяняюць тактыку бронясіл, якая ў сваю чаргу зьмяняе і тактыку ПБА, але мэтады арганізацыі ПБА, якія рэкамэндуюцца ў кнізе і якія апраўдалі сябе на вопыце манэўраў і вучэньняў, бязумоўна застаюцца ў сіле, ня гледзячы на вялікія дасягненьні ў проціtанкавых сродках. Гэтыя мэтады мы паказваем на прыкладах, у якіх ўзяты пэўныя канкрэтныя ўзоры і злучэньні бронясіл і сродкаў ПБА, якія, як мы бачылі, бесьперапынна зьмяняюцца. Дапамагчы ўсвоіць гэтыя мэтады, сыстэму і арганізацыю ПБА, ролю камандзіра і штаба, узаемадзейства сродкаў ПБА і адносную каштоўнасьць іх і зьяўляецца мэтай гэтай кніжкі.

Падрабязны-ж разбор саміх сродкаў процібранявой барацьбы, і іх будовы і тэхнікі ўжываньня ў гэтай кнізе не даецца, бо па гэтых пытаньнях ёсьць адпаведная літаратура, у прыватнасьці нядаўна вышаўшая кніга Г. Бэргфэльда, М. Рэўкоўскага і Д. Бранеўскага „Противоброневая оборона за рубежом“.

Аўтары.

---

# ТАНКАВЫЯ І МЭХАНІЗАВАНЫЯ ЗЛУЧЭНЬНІ

## ТАНКІ

Сусьветная вайна паказала значна ўзросшую абароназдольнасьць пяхоты і сілу яе агню. Але гэта-ж вайна стварыла і новыя сродкі барацьбы—танкі.

Ня гледзячы на тое, што з таго часу, як на полі бою зьявіліся першыя танкі, прайшло ўсяго 15 год, тэхнічныя дасягненьні гэтага новага сродку барацьбы, а адсюль і тактычныя магчымасьці настолькі ўзрасьлі, што паставілі яго на адно з першых і важнейшых месц у сыстэме ўзброеных сіл.

Калі параўнаць даныя танкаў 1918 г. і сучасных па двух важнейшых паказальніках—скорасьці руху і кілёмэтражу [1]), то мы ўбачым, што сучасны танк далёка пакінуў ззаду свае першыя ўзоры. Табліца на старонцы 12 паказвае гэтыя дасягненьні ў канструкцыях танкаў.

Асноўнымі паказьнікамі, характарызуючымі танк, і яго тэхнічныя дасягненьні, зьяўляюцца: праходнасьць, манэўранасьць і абароненасьць, хоць трэба адзначыць, што паняцьце праходнасьць і манэўранасьць блізкія адно да аднаго і манэўранасьць у большай меры залежыць ад праходнасьці; тое самае трэба сказаць і аб абароненасьці, куды ўваходзяць зразумела і сродкі нападу—узбраеньне.

Пры вызначэньні праходнасьці намі разглядаюцца ўдзельная нагрузка на *см*, магчымасьць перамаганьня гарызантальнай і вэртыкальнай перашкод і магчымасьць перамаганьня круцізны спаду.

Манэўранасьць намі вызначаецца з вагі машыны, магутнасьці матора, скорасьці руху, запасаў гаручага (а адсюль і радыус дзействаў) і кілёмэтражу.

Абароненасьць залежыць ад узбраеньня, броні і каманды.

Разгледзім больш падрабязна, ад чаго залежыць кожная з гэтых даных танка з тым, каб мець пэўную „мерку“ для ацэнкі яго магчымасьцяй.

**Праходнасьць.** *Удзельная нагрузка* залежыць ад вагі танка і плошчы вусеніц. Трэба адзначыць, што сучасныя тыпы машын

[1]) Кілёмэтраж—найбольшая даўжыня шляху ў кілёмэтрах, якую танк праходзіць без капітальнага рамонту рухавіка,

амаль усіх назначэньняў імкнуцца давесьці сваю ўдзельную нагрузку да ўдзельнага ціску на грунт пешага чалавека (напамінаем, што апошняя роўна 0,38—0,44 *кг/см²*).

Магчымасьць *перамаганьня гарызантальнай перашкоды* залежыць ад даўжыні танка. Звычайна апошні перамагае гарызантальную перашкоду шырынёй у 40—45 проц. сваёй даўжыні. Лёгкія танкі




Чарц. 1.

крыюць (як кажуць) роў 1,7—2 *м*, г. зн. акоп нармальнай шырыні і чым даўжэйшы танк, тым больш гэта магчымасьць павялічваецца, даходзячы ў францускім цяжкім танку 2 С да 4,5 *м*.

Перамаганьне *вэртыкальнай перашкоды* залежыць ад вышыні зачэпу [1]); сучасны танк бярэ перашкоду ад 0,7—0,8 (лёгкі тып) да 1,7 *м* (сярэдні і цяжкі).

[1]) Зачэпам называецца адлегласьць ад гарызонту танка да пярэдняй кропкі вусеніц.

Круцізна спаду, якую можа перамагчы танк, гэта значыць пры якой здольны працягваць рух, залежыць ад шчапленьня танка (яго вусеніцы) з глебай і ад грунту.

Пры сярэднім грунце танкі амаль усіх тыпаў бяруць пад'ём у 40—45°.

**Манэўранасьць.** Вага на манэўранасьць аказвае вялікі ўплыў, бо з ёй зьвязана пытаньне аб пераправах цераз масты. Нават на шасэйных дарогах масты звычайна разьлічаны на грузы ня больш 10 *т*, адсюль ясна, што найменш абмежаванымі ў сваіх дзействах зьяўляюцца танкеткі з вагой 2—3 *т* і танкі лёгкага тыпу, маючыя вагу 6—8 *т*.

Сярэднія і цяжкія танкі, вага якіх большая за 10 *т*, патрабуюць дадатковага ўзмацненьня мастоў або нават пабудовы новых.

*Магутнасьць матора* [1]) танка падбіраецца такой, каб даць дастатковую скорасьць руху. Апошняя ў сучасных танкаў у сярэднім роўна 20—25 *км* у гадзіну.

Для таго, каб танку даць такую скорасьць патрабуецца, каб на кожную тону вагі танка прыпадала каля 11-12 сіл матора.

Гэта мы і бачым на сучасных машынах, напрыклад 6-тонны Вікерс—11,5 сіл, амэрыканскі ТІЕІ—12 сіл.

*Скорасьць руху* залежыць, як ужо гаварылася, ад адносін магутнасьці матора да вагі і ад сыстэмы рухавіка. На пытаньне аб неабходнай скорасьці для танка існуе два пункты погляду: ф р а н ц у с к і, які лічыць, што танку неабходна тоўстая броня хоць-бы за лік зьмяншэньня скорасьці (з-за павялічэньня вагі), і а н г л і й с к і, які можа быць выказаны англійскім-жа афарызмам: „шпаркасьць варта броні". У адпаведнасьці з гэтым мы і бачым у французаў танк № С-27 з броняй, якая даходзіць да 30 *мм*, але з максымальнай скорасьцю ў 18,5 *км*, і ў англійцаў 6-тонны танк Вікерс, які дае скорасьць да 40 *км*, але з броняй, якая не перавышае 13 *мм*.

*Запасам гаручага* вызначаецца запас ходу, які ёсьць у танка, а гэта ў сваю чаргу аказвае вельмі важны ўплыў на манэўранасьць танка, бо паказвае, на якую адлегласьць танк можа адысьці без паўторнага напаўненьня бакаў гаручым. Запас гаручага вылічаецца звычайна ў гадзінах або ў кілёмэтрах. Ва ўсякім разе наяўнае гаручае ў сучасным лёгкім танку дае магчымасьць працаваць 6—10 гадзін і прайсьці адлегласьць у 120—150 *км*. Гэты лік у сярэдняга і цяжкога танка павялічваецца да 200—210 *км*.

*Кілёмэтражам* называюць адлегласьць, якую можа прайсьці даны танк без капітальнага рамонту свайго рухавіка, г. зн. вусеніц вядучага кола, сыстэмы падвескі і г. д. Іменна рухавік зьяўляецца аднэй з найбольш цяжкіх канструкцыйных задач танкабудаўніцтва. Трэба стварыць такую сыстэму, якая, папершае, была-б элястычнай, каб мець магчымасьць даць

---

[1]) Магутнасьць матора аказвае ўплыў таксама на праходнасьць, якая ў асноўным залежыць ад удзельнага ціску і магутнасьці матора.

| Тып і марка | Праходнасьць | | | | Манэўранасьць | | | | | | Абароненасьць | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Удзельная нагрузка ў $кг/см^2$ | Гарызантальныя пера шкоды ў *м*. | Вэртыкальныя пера шкоды ў *м* | Круцізна спаду ў градусах | Магутнасьць матору ў конскіх сілах | Вага ў тонах | Скорасьць: Найбольшая | Скорасьць: Сярэдняя | Запас гаручага | Кілёмэтраж | Броня (у *мм*) | Каманда | Узбраеньне |
| **Лёгкі** | | | | | | | | | | | | | |
| NC-27 (Францыя) . . . . | 0,46 | 2 | 0,65 | 40° | 60 | 8,3 | 18,5 | 15 | 10 гадз. | 1500 | 30 | 2 чал. | 1 кулямёт або 1—37-*мм* пушка |
| Вікерс (Англія) . . . . . | 0,6 | 1,9 | 0,76 | 40° | 87 | 7,8 | 35 | 25 | 6 гадз. | 3000 | 13 | 3 „ | 1—37-*мм* пушка і 1 кулямёт |
| Т. І. Е. І. (ПАЗШ) . . . . | 0,4 | 1,67 | 0,6 | 40° | 80 | 6,6 | 32 | 16 | 8,6 гадз. | — | 9,5 | 2 „ | 1 спаран. ўстаноўка |
| **Сярэдні** | | | | | | | | | | | | | |
| Вікерс 16 тон. (Англія) . . | — | 2,7 | 1,0 | 45° | 180 | 16 | 50 | 25 | — | — | 20 | 4 „ | 1—47 *мм* пушка і 5 кулямётаў |
| Крысьці 1940 (ПАЗШ) . . | — | 2,1 | 0,9 | 45° | 338 | каля 10 | 56/74 | 30/40 | 1,2 гадз. | — | 10 | — | 1 пушка і 1 кулямёт |
| **Цяжкі** | | | | | | | | | | | | | |
| 2С (Францыя) . . . . . | — | 4,5 | 1,7 | 45° | — | 68 | 20 | 8 | 12 гадз. | — | 45 | 11 „ | 1—155-*мм* пушка, 1—75-*мм* пушка і 4 кулямёты |
| Вікерс (Англія) скараходны | — | 3,5 | 1,2 | 40° | 380 | 32 | 30 | 15—20 | — | — | 25 | 10 „ | 1 пушка і 4 кулямёты |

вялікую скорасьць, па-другое, была-б добра падрысоранай, каб паглынаць супраціўленьні на штуршкох, і разам з тым даволі цьвярдой, каб пры невялікіх штуршкох не выклікаць вялікіх хістаньняў, што вельмі адбіваецца на стральбе з танка. Па-трэцяе, канструкцыя падрысорваньня, захоўваючы неабходную элястычнасьць, павінна быць настолькі моцнай, каб вытрымліваць вялікую нагрузку на магчыма большай адлегласьці.

Рухавік зьяўляўся на першых стадыях разьвіцьця танка самым слабым месцам. Але разам з тым нідзе ня відаць такога тэхнічнага прагрэсу танкабудаўніцтва, як на гэтым важным вучастку. Так, калі найбольшая скорасьць руху ўзрасла з 1918 г. да нашага часу з 8 *км* да 40 і максымум 50 *км*, г. зн. дала рост у 5—6 раз, то кілёмэтраж узрос з 230 *км* ў 1918 г. (Рэно 18 г.) да 3000 *км* цяпер (6-тонны Вікерс, чарц. 1), г. зн. рост у 13 раз, прычым 3000-ны кілёмэтраж трэба лічыць ужо перавышаным. Трэба думаць, што рухавік такога танка (як 6-тонны Вікерс) можа даць кілёмэтраж блізкі да 5000.

**Абароненасьць.** Трэцім асноўным паказьнікам, характарызуючым танк, зьяўляецца яго абароненасьць. Да апошняй трэба аднесьці броню, каманду і ўзбраеньне.

*Броня.* З паданай на 14 старонцы табліцы прабівальнасьці броні відаць, што абарону ад знараду 37—47-*мм* процітанкавай пушкі на дыстанцыі каля 1000 *м* дае броня таўшчынёй каля 30 *мм*; ад куль-жа бранябойных абараняе броня ў 10—13 *мм*[1]).

Такім чынам, калі хочуць мець танк, абаронены на дыстанцыю да 1000 *м* ад дробнакалібравых процітанкавых знарадаў, то яго трэба прыкрываць броняй да 30 *мм* (напрыклад NC-27), і калі хочуць абмежавацца абаронай толькі ад куль, то броню робяць тонкай (як напрыклад 6-тонны Вікерс або TIEI).

*Узбраеньне.* Сусьветная вайна стварала танкі, якія былі ўзброены або пушкамі—самцы, або кулямётамі—самкі. Гэта адносілася ня толькі да малых танкаў. Нават вялікія танкі як марка „У", былі такіх узораў, якія мелі ў сябе на ўзбраеньні толькі кулямёты,—праўда ў колькасьці 6.

Цяпер лічаць, што лёгкі танк павінен быць узброены абавязкова пушкай і кулямётам, лепш—пушкай і двума кулямётамі.

Такое ўзбраеньне патрабуецца для таго, каб мець магчымасьць змагацца з бронясіламі, жывой сілай і агнявымі кропкамі. Наяўнасьць двух кулямётаў забясьпечвае надзейнасьць іх работы ў выпадку папсуцьця аднаго з іх.

Узбраеньне цяжкіх танкаў ідзе па шляху ўстаноўкі на іх гармат больш буйных калібраў, нават да 155 *мм* (француcкі 2С) і павялічэньня колькасьці кулямётаў да 5—6, каб мець магчымасьць адначасова сканцэнтраваць масу агню па аднэй цэлі.

---

1) У залежнасьці ад якасьці броні.

**Табліца прабіваль насьці броні процітанкавымі гарматамі рознага калібру на розных дыстанцыях**[1]

| №№ п. ч. | Калібр у *мм* | Марка | Дыстанцыя (у мэтрах) 500 | 1000 | 1500 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Таўшчыня броні у *мм* | | | |
| 1 | 20 | Эрлікон лёгкага ўзору . . . | каля 17[2] | 12 | — | — |
| 2 | 20 | „ цяжкага „ . . . . | „ 30 | — | — | — |
| 3 | 20 | Галяндзкага таварыства (бяз дульнага тормазу) . . . . | „ 13 | — | — | — |
| 4 | 20 | Галяндзкага таварыства (з дульным тормазам) . . . . . | „ 20 | — | — | — |
| 5 | 37 | Амэрыканская МІ . . . . . . | — | кал. 22 | — | — |
| 6 | 20 | Бафорс са знарадам у 0,8 *кг* . | — | 20 | — | 15 |
| 7 | 47 | Бафорс . . . . . . . . . . . | — | 38/30 | 30 | 25/20 |
| 8 | 47 | Шкода . . . . . . . . . . . | 40[3]/25 | 353/20 | 30/17,3 | 27,5/17,5 |
| 9 | 47 | Бірдмор . . . . . . . . . . | — | кал. 22/кал. 16 | кал. 18/кал. 13 | — |
| 10 | 47 | Вікерс . . . . . . . . . . . | 26 | 20 | 17 | — |
| 11 | 76 | Англійская 13-фунтовая . . . | — | — | — | 25 (на дыст. 1800 *м*). |

*Каманда* танка павінна даваць магчымасьць адначасова весьці з яго агонь у час руху і кіраваць танкам. Гэта патрабуе, каб камандзір танка меў магчымасьць часам ня весьці агню, а сачыць за старшым начальнікам і камандаваць сваім танкам. Адсюль неабходнасьць у лёгкім танку мець каманду ня менш 3-х чалавек. Наяўнасьць у танках такой каманды дае яшчэ і тую выгаду, што ў выпадку выбыцьця аднаго чалавека танк мае магчымасьць і рухацца і весьці агонь.

Імкненьне стварыць такую баявую машыну, якая абслугоўвалася-б адным чалавекам, цяпер лічыцца зусім немагчымым нават для найбольш лёгкіх баявых павозак—танкетак, якія цяпер робяцца амаль выключна двухмясцовымі.

## ТАКТЫКА ТАНКАВЫХ ЧАСЬЦЕЙ

Баявое выкарыстаньне танкаў, як і любога іншага сродку барацьбы, вызначаецца іх тэхнічнымі данымі. У сусьветную вайну танкі дзякуючы сваёй тэхнічнай неўдасканаленасьці (максымальная скорасьць 8 *км*, кілёмэтраж 230 *км*) маглі ўжывацца толькі як сродак суправаджэньня пяхоты, зьяўляючыся яе зброяй.

---

[1]) Складзена па даных кнігі Бэргфэльд і іншых „Противотанковая оборона за рубежом“ і даных, сабраных аўтарамі з іншых крыніц.

[2]) Тут і ніжэй пры пападаньні пад вуглом у 90°.

[3]) Усюды лічнік пры пападаньні пад вуглом 90°, назоўнік—пад вуглом у 60°.

Але і тады ўжо пачалі намячацца два асноўныя пункты погляду на пытаньні баявога выкарыстаньня танкаў і іх месца ў баявым парадку.

Францускі пункт погляду, які ў асноўным застаўся амаль нязьменным да гэтага часу, лічыў і лічыць танкі зброяй пяхоты, маючай прызначэньнем суправаджаць яе на полі бою і змагацца з агнявымі кропкамі праціўніка ў цеснай сувязі са сваёй пяхотай.

Англійцы ўжо тады лічылі, што бой вырашаюць танкі, а пяхота рэалізуе посьпех, дасягнуты імі.

Гэтыя два розныя погляды ў час сусьветнай вайны лепш за ўсё выказаны словамі францускага генэрала Шадэвіль, які ў 1929 г. у часопісе „Французское военное обозрение" сказаў: „вядзеньне бою пяхотай, якая падтрымліваецца калясьніцамі, засталося асновай францускай дактрыны, у той час, як англійская армія захавала перавагу да вядзеньня бою пры дапамозе танкаў, падтрыманых пяхотай".

Пасьляваеннае разьвіцьцё танкабудаўніцтва дало магчымасьць прад'явіць танкам больш сур'ёзныя патрабаваньні. Узросшыя тэхнічныя дасягненьні танкаў ператварылі танкі [1]) ў самастойны род войск, даўшы ім магчымасьць выконваць задачы ня толькі па суправаджэньню пяхоты, але і самастойныя—у саставе груп дальняга дзейства і ў саставе мэханізаваных часьцей, аснову якіх яны складаюць.

Разьвіцьцё танкабудаўніцтва ня зьнішчыла розных поглядаў у пытаньнях выкарыстаньня танкаў. Наадварот, яны зараз пайшлі яшчэ далей. Французы па-ранейшаму лічаць танкі зброяй пяхоты, якая павінна выконваць работу па яе суправаджэньні. Англійцы пайшлі далей па шляху выкарыстаньня танкаў для рашэньня самастойных задач. Аднак амаль ва ўсіх арміях танкі могуць ўжывацца як у сустрэчным баі, так і пры наступленьні на праціўніка, які абараняецца.

У гэтай кнізе мы разьбіраем процітанкавую барацьбу ў абароне і на маршы, таму мы павінны будзем коратка разгледзець пытаньні выкарыстаньня танкаў як у сустрэчным баі, так і ў наступленьні, каб мець уяўленьне аб тым праціўніку і яго мэтадах дзействаў, якія процібранявая абарона сустрэне ў тым або іншым выпадку.

Асноўнымі прынцыпамі ўжываньня танкаў зьяўляецца масавасьць, раптоўнасьць і ўжываньне на шырокім фронце.

Пры наступленьні на праціўніка, які абараняецца, апрача гэтых асноўных патрабаваньняў абавязкова эшалёнаваньне.

Апошняе можа быць назад, г. зн. у глыбіню і ўперад. Француская армія, а за ёй і польская, лічаць, што танкі падобна баявому парадку пяхоты павінны быць эшалёнаваны ў глыбіню.

---

1) Пад танкамі мы разумеем бронясілы, бо разьвіцьцё апошніх у асноўным залежыць ад разьвіцьця танкаў, якія зьяўляюцца асновай бронясіл.

Кожны новы эшалён пяхоты падтрымліваецца сьвежай хваляй танкаў. Агрымліваецца паступовае прагрызаньне абарончай паласы праціўніка. Гэты пункт погляду на выкарыстаньне танкаў нічым ад часоў сусьветнай вайны не адрозьніваецца.

Ёсьць другі пункт погляду, які лічыць, што сучасныя танкі даюць магчымасьць не паступовага прагрызаньня абарончай сыстэмы праціўніка, а адначасовага яе падаўленьня на ўсёй глыбіні. Гэта дасягаецца шляхам таго, што танкавыя групы ў асноўным эшалёнуюцца не назад, а наадварот выкідваюцца ўперад [1]).

Армія ПАЗШ пры наступленьні на праціўніка ў абароне як правіла выкідвае ўперад „вядучыя танкі", якія падаўляюць глыбіню; адначасова разам з пяхотай, але бяз цеснай сувязі з ёй, працуюць танкі суправаджэньня, падаўляючы агнявыя кропкі, якія перашкаджаюць прасоўваньню пяхоты.

Аднак, як-бы ні ўжываліся танкі, ясна, што яны будуць імкнуцца пранікнуць на ўсю глыбіню абароны, прычым гэта праніканьне магчыма або паступова нарастаючы, або адначасова ва ўсёй глыбіні.

**Табліца разьмеркаваньня танкаў па задачах**

| Прызначэньне | Тып танка | Характэрны прадстаўнік |
|---|---|---|
| Суправаджэньне пяхоты | Лёгкі танк | 6-тонны Вікерс NC-27 |
| Прарыў абарончай паласы | Цяжкі танк | 2С (Францыя), Вікерс цяжкі (Англія) |
| Дальняе дзейства (ДД) | Сярэдні танк | 16-тонны Вікерс |
| Зьнішчэньне танкаў | Скараходны танк | Крысьці-1940 |
| Суправаджэньне танкаў | Артылерыйскі танк | 75-*мм* пушкі на шасі Т1 і інш. |
| Абслугоўваньне танкаў | Танк сувязі,<br>„ забесьпячэньня<br>„ інжынэрны | |

Адсюль вывад, што проціўбранявая абарона павінна быць абавязкова арганізавана на ўсёй глыбіні абароны, пачынаючы ад баявога ахаваньня і канчаючы артпазыцыямі і потым тыламі, і той хто абараняецца, павінен быць гатоў да сустрэчы танкаў адначасова на ўсёй глыбіні адразу.

У с у с т р э ч н ы м б а і танкі могуць ужывацца з галаўнымі часьцямі і галоўнымі сіламі. У абодвых гэтых выпадках яны могуць

[1]) Гэта вядома не азначае, што група суправаджэньня пяхоты, або як мы называем НПП, не павінна быць эшалёнавана ў глыбіню. Чырвоная армія ў пытаньні адначасовага падаўленьня ўсёй глыбіні абароны зайшла далей, чым усе арміі, уперад, маючы на гэта цьвёрдыя ўстаноўкі і чоткія тактычныя погляды выказаныя ў патрабаваньні арганізоўваць групы ДД, ДПП, НПП, але мы тут пытаньняў ўжываньня танкаў у РСЧА не разьбіраем.

быць выкарыстаны самастойна, як група дальняга дзейства або больш правільна свабодна манэўруючы эшалён, і ў цесным узаемадзействе з пяхотай.

Гэта паказвае, што, пачынаючы ад галаўных часьцей і канчаючы галоўнымі сіламі і тылам, усё будзе падлягаць нападу танкаў, таму і тут, г. зн. на маршы, процібронявая барацьба павінна быць арганізавана на ўсёй глыбіні калёны.

## ТАКТЫКА МЭХАНІЗАВАНЫХ ЧАСЬЦЕИ

Як на ўжываньне танкаў, так і на выкарыстаньне матора ўнутранага згараньня існуюць два асноўныя пункты погляду:

— англійскі, дзе асноўнае значэньне надаецца мэханізацыі, г. зн. стварэньню самастойных мэханізаваных злучэньняў, вельмі рухомых, уладаючых вялікай наступальнай сілай, і

— францускі, які не разглядае мэханізацыю як дамініруючы фактар, а лічыць матор галоўным чынам сродкам транспарту, г. зн. сродкам матарызацыі, якая павялічвае апэратыўную і часткова тактычную рухомасьць войск. Пры гэтым ня выключаецца зразумела магчымасьць стварэньня асобна дзейнічаючых мэханізаваных злучэньняў.

У асноўным усе краіны ўжываюць матор па адным з гэтых варыянтаў або камбінуючы (злучаючы) іх. У прыватнасьці польская армія мае і чыста бронявыя злучэньні і зьмешаныя злучэньні, г. зн. мата-мэхчасьці і матарызаваныя злучэньні.

Мы ўжо спаміналі, што танкі могуць ужывацца для выкананьня самастойных задач. Гэтыя задачы будуць выконвацца ў большасьці выпадкаў у саставе мэханізаваных або матарызаваных злучэньняў, дзе танкі зьяўляюцца асновай гэтых злучэньняў. Што называць мэханізаваным і што называць матарызаваным злучэньнем?

*Мэханізаванае злучэньне.* Усе байцы ў машынах, злучаючых агонь, рух і броневую абарону.

Такое злучэньне характарызуецца вялікай рухомасьцю, высокай праходнасьцю, вялікай ударнай сілай, але абмежаванай здольнасьцю ўтрымліваць мясцовасьць.

Апэратыўны манэўр пераходзіць непасрэдна ў тактычны ўдар-атаку, бо для гэтага трэба зьмяніць толькі паходныя парадкі на баявыя.

Такім чынам мы бачым, што ў мэханізаваным злучэньні матор унутранага згараньня ў злучэньні са зброяй, рухавіком і ўзбраеньнем зьяўляецца асноўным баявым сродкам.

Але цалкам мэханізаваных злучэньняў да 1931 г. нідзе ў сьвеце ня было. Стварэньню такіх злучэньняў перашкаджала адсутнасьць машыны незалежнага дзейства, г. зн. такой машыны, якая была-б скораходная, усюдыходная і з вялікім запасам ходу. Ня вырашана здавальняюча пытаньне кіраўніцтва хуткарухомымі мэханізаванымі часьцямі. Апрача таго апошнія каштуюць вельмі

дорага, і вырабляюць іх у мірны час, у пэрыяд, калі ўзоры машын хутка зьмяняюцца, вельмі цяжка для бюджэту. Таму існаваўшыя злучэньні гэтага тыпу зьяўляліся толькі часткова мэханізаванымі.

У гэты час ужо ёсьць чыстыя мэханізаваныя або бронявыя злучэньні, як напрыклад англійская бронябрыгада, якая цалкам складаецца з танкаў (216).

Побач з мэханізаванымі злучэньнямі існуюць мата-мэх-злучэньні, якія ўключаюць у сябе элемэнты і мэханізацыі і матарызацыі. Апошнія дапаўняюць у такім злучэньні тыя ўласьцівасьці, якіх па сваіх тэхнічных і канструкцыйных недахопах ня можа




Чарц. 2. Схэма арганізацыі мэханізаванай брыгады, прынятай у дасьледваньні.

яшчэ даць танк. Узорам такога злучэньня зьяўляецца англійская мата-мэхгрупа 1927 г.

*Матарызаванае злучэньне.* У значна лепшым становішчы знаходзіцца арганізацыя матарызаваных часьцей, у якіх „машыны толькі сродак для перавозкі байцоў".

Адрозьнімальнымі рысамі матарызаванага злучэньня зьяўляюцца: вялікая апэратыўная рухомасьць і абмежаваная праходнасьць, абмежаваная ўдарная сіла, дастатковая здольнасьць утрымліваць мясцовасьць. Разам з тым паміж апэратыўным і тактычным манэўрам значны перарыў: выгрузка байцоў з машын для разгортваньня і збліжэньня—па пяхотнаму. Агонь і рух на полі бою-пяхотныя.

Тут матор ужо не асноўны баявы сродак, а дапаможны, які дае магчымасьць хутка рухацца па-за полем бою.

Паколькі гэта кніга разьбірае пытаньне процідзейства мэханізаваным часьцям, то мы разьбярэм тактыку апошніх, не за-

кранаючы дэействаў матарызаваных часьцей, тым больш, што процідзейнічаць мэханізаваным часьцям значна цяжэй, чым матарызаваным.




Чарц. 2а. Арганізацыя англійскай бронявай брыгады.

Арганізацыя мэханізаванага злучэньня і мата-мэханізаванага злучэньня будуецца па функцыянальных адзнаках; г. зн. такім чынам, што кожная часьць данага злучэньня мае сваё баявое прызначэньне: выведка, скоўваньне, галоўны ўдар і г. д.

Сучаснае мэханізаванае злучэньне складаецца з групы забесьпячэньня і групы ўдару.

Да групы забесьпячэньня адносяцца часьці выведкі, ахаваньня, забесьпячэньня маршу і адпачынку і часьці сувязі. Да групы ўдару адносяцца танкавыя ўдарныя батальёны і артылерыя ўзмацненьня.

*Мата-мэхзлучэньні* складаюцца з наступных груп (чарц. 3): лёгкай—з задачамі выведваць, ахоўваць і прасьледваць, ударнай—для галоўнага ўдару, скоўваючай—для скоўваньня праціўніка, дапаможнай—для абслугоўваньня і забясьпечнай—для аднаўленьні часьцей мэханізаванага злучэньня і забесьпячэньня іх.

## ДЗЕЙСТВЫ МЭХАНІЗАВАНЫХ ЗЛУЧЭНЬНЯЎ

**Марш** мата-мэханізаванага злучэньня як правіла будзе рабіцца па дзьвюх дарогах. Па аднэй пойдуць сродкі скоўваньня, а па дру-




**Чарц. 3. Схэма сучаснага мэханізаванага злучэньня.**

гой ударная група. Рух па дзьвюх дарогах неабходны, каб паменшыць глыбіню калёны, якая даходзіць з дыстанцыямі паміж часьцямі да 20—35 *км*.

Для перамаганьня перашкод, якія сустракаюцца на маршы, ёсьць інжынэрная часьць, якая можа папраўляць дарогі, узмацняць пераправы і будаваць новыя даўжынёй да 100 *м*. для грузаў у 3 *т* і да 50 *м*.—для грузаў у 6 *т* на працягу аднэй гадзіны.

Увогуле трэба лічыць, што злучэньні, маючыя ў сваім саставе. і колавыя і вусенічныя машыны, якія рухаюцца ў калёне ў колькасьці каля 100 штук, дадуць сярэднюю скорасьць: па шашы каля 20 *км*., па гасьцінцы каля 15 *км*. і па прасёлку каля 12 *км* (зразумела ў сухое надвор'е). Дождж надзвычайна зьніжае гэту скорасьць, прычым для вусенічных машын яна падае на $^1/_3$—$^1/_2$, а для колавых у залежнасьці ад сілы дажджу і грунту можа ўпасьці да 2—3 *км*, у гадзіну. Начны марш як правіла робіцца з патушанымі фарамі (без агнёў) і хоць сьцішаецца, але зусім магчымы. Скорасьць руху зьмяншаецца прыблізна ў два разы.

Аднэй з галоўных перашкод для мэханізаванай часьці трэба лічыць водную перашкоду, якую па яе памерах нельга перайсьці

без дапамогі інжынэрнай часьці [1]). Для мэханізаванай брыгады, якая падаецца тут, гэта будзе рака глыбінёй больш за 0,50 *м* для танкетак і 1,2 м. для танкаў або рака, маючая крутыя берагі. Апрача таго для мэханізаванай часьці наводка маста—больш складаная задача, чым для стралковых часьцей, бо мост для першай павінен быць больш цяжкім. Інжынэрная рота мэханізаванай брыгады наводзіць мост даўжынёй у 100 *м.* на працягу аднэй гадзіны. Але калі процілеглы бераг заняты хоць-бы слабымі часьцямі праціўніка, то наводка маста надзвычайна ўскладняецца, зацягваецца і патрабуе для сваёй падтрымкі вялікай колькасьці артылерыі. Таму мэханізаванай часьці больш выгодна абысьці перашкоду, а калі яе абысьці нельга і яна занята хоць-бы слабымі часьцямі праціўніка, то, дэманструючы на шырокім фронце, згрупавацца дзе-небудзь воддаль, нават за 50—100 *км.*, і там зрабіць пераправу.

Іншымі вельмі сур'ёзнымі перашкодамі для мэханізаванай часьці могуць зьявіцца лес, больш правільна, лясныя дарогі, на якіх лёгка могуць быць пабудаваны перашкоды і газавыя пробкі, потым балоты бяз цьвёрдага дна і рознага роду цясьніны.

З прычыны вялікай рухомасьці мэханізаванай часьці ўсё гэта павінна ёю абыходзіцца. Калі-ж умовы мясцовасьці або абстаноўка не дазваляюць зрабіць абходу, то гэтыя цясьніны, пераправы і да т. п. павінны загадзя захопліваецца выведчымі часьцямі і ўтрымліваецца да падыходу галоўных сіл.

**Выведка і ахаваньне.** Мэханізаваныя часьці вядуць ахавальную і тактычную выведку: першая на адлегласьці да 10 *км*, другая на 25—30 *км*. Глыбіня бліжняй авіявыведкі роўна 125—150 *км*.

Сродкамі выведкі зьяўляюцца самалёты, танкеткі, броняаўтамабілі. Зямная выведка заключаецца ў высылцы выведчых атрадаў, якія высылаюць ад сябе выведчыя групы, апошнія высылаюць ад сябе дазоры. Выведчым атрадам могуць дадавацца аўтакулямётныя часьці на выпадак неабходнасьці ўтрымаць мясцовасьць або пераправу.

Даволі глыбокая выведка [2]) і здольнасьць хутка зьмяняць кірунак даюць магчымасьць ухіліцца ад удару або шляхам адпаведнага манэўру заняць выгоднае палажэньне.

Дзействы выведкі павінны быць шпаркія і рашучыя. Галоўная задача органаў выведкі—здабываньне зьвестак для старшага камандзіра, прыкрыцьце галоўных сіл ад выведкі праціўніка і забясьпечаньне свабоды руху. Для атрыманьня зьвестак патрабуецца бой; выведчыя часьці павінны рашуча атакаваць праціўніка, нанесьці яму ўдар для атрыманьня неабходных даных.

**Узаемадзейства з авіяцыяй.** Мэханізаваная брыгада зьяўляецца армейскім сродкам і таму яна бязумоўна будзе абслугоўвацца баявой авіяцыяй, якая можа ўваходзіць арганізацыйна ў яе састаў.

---

[1]) Калі данае мэханізаванае злучэньне ня ўзброена танкамі-амфібіямі.

[2]) Авіявыведка, якая дапаўняецца наземнай, або наадварот у залежнасьці ад характару мясцовасьці і мэтэаралёгічных умоў.

Задачамі авіяцыі, працуючай разам з мэханізаванай брыгадай, будуць:

—дасягненьне мясцовай перавагі над авіяцыяй праціўніка з мэтай даць магчымасьць мэханізаванай брыгадзе рухацца свабодна ў найбольш кампактных парадках для манэўру і ўдару;

— атака масавых цэляй;

— утварэньне дымавой заслоны;

— бесьперапынная выведка і данясеньне аб праціўніку, аб стане дарог, перапраў, цясьнін;

— Пры прасьледваньні—выяўленьне кірунку адыходу галоўнай масы праціўніка.

**Разгортваньне для бою і бой.** Мэханізаванае злучэньне, аб якім мы тут гаворым, з прычыны няпоўнай мэханізацыі патрабуе папярэдняй падрыхтоўкі свайго галоўнага ўдару. Таму яго дзействы складуцца з выведкі, скоўваньня праціўніка, падрыхтоўкі ўдару і нанясеньня ўдару.

Гэта падрыхтоўка ўдару ні ў якім разе не зьяўляецца тэй агнявой падрыхтоўкай, якую мы прывыклі бачыць у стралковых часьцях. Тут гэта падрыхтоўка будзе заключацца ў скоўваньні праціўніка на пэўным кірунку, нацэльваньні ўдарнай часьці (узяцьце кірунку і фронту) і прыняцьці пастраеньня для атакі. Працяглая-ж агнявая падрыхтоўка тут не павінна мець месца, бо яна пазбавіла-б мэханізаваную брыгаду магчымасьці выкарыстаць свае асноўныя дадатныя якасьці: раптоўнасьць і шпаркасьць.

Нармальнае разгортваньне для бою і бой сучаснага мэханізаванага злучэньня будуць праходзіць наступным чынам.

Авіяцыя, заўважыўшы калёну праціўніка, данясе аб гэтым выведчай групе і галоўным сілам. Пэўна неўзабаве пасьля гэтага, а часам і раней данясеньня авіяцыі выведка мэханізаванай брыгады сустрэнецца з пешай або коннай выведкай праціўніка і, трэба думаць, адкіне яе, хоць асобным разьездам магчыма і ўдасца пранікнуць за заслону мэханізаванай часьці. Пасьля сутычкі дальняй выведкі мэханізаваная часьць вышле дадатковую выведку, якая зьявіцца і ахаваньнем. Адбудзецца сутычка бліжняй выведкі з перадавымі часьцямі праціўніка, напрыклад дывізіі. К гэтаму моманту камандзір мэханізаванай часьці прыме канчатковае рашэньне адносна кірунку ўдарнай групы. Перадавыя часьці праціўніка будуць скаваны выкінутым уперад кулямётным батальёнам, а ўдарная група ў гэты час нанясе ўдар у тыл і флянг паходнай калёны або баявога парадку праціўніка. У гэты час частка выведчых груп сьцягваецца назад для ўтварэньня групы прасьледваньня. Галоўным ворагам мэхчасьці зьяўляецца артылерыя, таму дзействы першай будуць накіраваны ў першую чаргу на падаўленьне гэтага ворага.

Наогул мэхчасьць будзе дзейнічаць на шырокім фронце, ахопліваючы праціўніка з усіх бакоў, але наносячы галоўны ўдар дзе-небудзь у пэўным месцы на фронце ў $1^1/_2$—2 *км*.

Ва ўсіх дзействах мэхчасьць павінна імкнуцца да раптоўнасьці. Апошняй у апэратыўным маштабе цяжка дасягнуць.

Вопыт паказвае, што стралковыя часьці заўсёды выяўлялі прысутнасьць мэханізаванага праціўніка, якога да таго-ж заўсёды выдае наяўнасьць яго ўласнай выведкі. Але раптоўнасьць на полі бою можа быць і павінна быць дасягнута. Гэтаму садзейнічаюць умелае карыстаньне мясцовасьцю, шпаркасьць руху і ўсюдыходнасьць. Мэханізаванае злучэньне дзейнічае хутка і рашуча, каб ня даць артылерыі праціўнага боку падрыхтавацца да сустрэчы бранірованага праціўніка.

---

## СРОДКІ БАРАЦЬБЫ З ТАНКАВЫМІ І МЭХАНІЗАВАНЫМІ ЧАСЬЦЯМІ

У гэтым разьдзеле мы будзем гаварыць галоўным чынам аб сродках барацьбы з танкамі як найбольш моцным праціўнікам, бо той сродак бою, які зможа вывесьці са строю танк, бязумоўна зможа пасьпяхова змагацца і з іншымі мэханічнымі павозкамі.

Сродкі барацьбы з танкамі маюць задачу затрымаць танкі, сьцішыць іх рух і потым зьнішчыць іх. Адсюль усе сродкі барацьбы можна падзяліць на затрымліваючыя і зьнішчальныя. Часта сродкі барацьбы падзяляюць на пасыўныя і актыўныя, прычым першыя гэта тое-ж, што затрымліваючыя, а другія—што зьнішчальныя.

## КЛЯСЫФІКАЦЫЯ СРОДКАЎ БАРАЦЬБЫ

**Затрымліваючымі** сродкамі барацьбы мы называем такія, якія здольны затрымаць прасоўваньне танка[1]), прымусіць яго павярнуцца і зьмяніць свой кірунак руху або хоць-бы сьцішыць яго.

Гэтыя сродкі барацьбы ў сваю чаргу падзяляюцца на натуральныя і штучныя.

**Натуральныя:** лясы, рэкі, азёры, балоты, горы з крутымі пад'ёмамі і да т. п.

*Лес* зьяўляецца перашкодай толькі ў тым выпадку, калі танк сустрэне на сваім шляху дрэва або дрэвы агульнай таўшчыні такой, што сваім цяжарам ён паваліць іх ня здолее. Прычым тут нас цікавіць ня толькі таўшчыня асобных дрэваў, але і іх гушчыня, г. зн. агульная таўшчыня перашкоды.

Як правіла лёгкі танк валіць дрэва або некалькі дрэваў, сума таўшчыні якіх роўна 20—30 *см*, і цяжкі—80 *см*. Хмызьняк перашкодай не зьяўляецца, наадварот ён маскіруе прасоўваньне танка.

---

[1]) Тут і далей, дзе гутарка будзе аб танку, маюцца на ўвазе і іншыя мэханічныя павозкі.

*Рэкі і азёры* глыбінёй больш за 1 *м* для лёгкіх танкаў і $1^1/_2$—2 *м* для астатніх танкаў зьяўляюцца перашкодамі [1]). Таксама зьяўляюцца перашкодай і больш мелкія рэкі, але з крутымі берагамі.

*Балоты і дрыва*, цьвёрдае дно якіх перавышае клірэнс [2]) танка, зьяўляюцца перашкодай. Забалочваньне ўжываецца ў тым выпадку, калі ў таго, хто абараняецца, ёсьць час і мясцовасьць дазваляе гэта зрабіць.

Па даных т. Карбышова, нязначны ручэй або рэчка, перагароджаныя плацінай, даюць забалочваньне ў 1 км і больш па фронту, глыбінёй да 2 *м*, пры шырыні заліўнога берагу ў 5—10 м. Адну плаціну шырынёй 15—20 *м* будуе адзін стралковы батальён у адзін працоўны дзень або ў той-жа час: адна ўзмоцненая сапёрная рота. Матэрыял—фашыны; камень і іншае. Недахопы такой загароды:

1) плаціна можа быць лёгка разьбіта артылерыйскім агнём і бомбакіданьнем і

2) павольна зьбіраецца вада, што залежыць ад скорасьці цячэньня ручая або рэчкі.

*Горы і ўзвышшы* са спадамі больш за 45° таксама зьяўляюцца перашкодай для танка.

**Штучныя сродкі**: равы, спэцыяльна выкапаныя, шырынёй, якую не перакрые тып танка, зьяўленьня якога можна чакаць з наступнымі часьцямі працiўніка. Гэты від перашкоды патрабуе шмат работы і можа быць пабудаваны пры ўмове, калі той хто абараняецца мае дастаткова часу для пабудовы абарончых збудаваньняў.

*Пашыраныя акопы* капаюцца такіх памераў, якія, як і равы, не далі-б магчымасьці танку перакрыць іх. Трэба памятаць, што сучасная канструкцыя нават лёгкага танка дазваляе яму перамагаць гарызантальныя перашкоды шырынёй у 2 м, г. зн. шырыню нармальнага акопу.

Значыць апошні, ня будучы дадаткова пашыраны, перашкодай для танка ня будзе.

*Эскарп*—гэта круцізна спаду, павялічаная шляхам дадатковага выкопваньня яго. Звычайна трэба эскарпіраваць спады, якія ўжо ёсьць, прычым калі круцізна гэтых спадаў каля 25°, то для павялічэньня гэтай круцізны да 60°, г. зн. неперамагальнай для танка, патрабуецца $1^1/_2$ працоўных гадзіны на 1 пагонны мэтр. Але трэба памятаць, што танкі могуць перамагаць эскарпы ўласным разгонам, таму і эскарпы, як і іншыя перашкоды, павінны абстрэльвацца артагнём.

*Пасткі* і рознага роду глыбокія ямы робяцца такіх памераў, каб танк, праваліўшыся, ня мог выбрацца адтуль. Пасткі заўсёды

---

[1]) У гэты час ёсьць плаваючыя танкі-амфібіі, якія пасьпяхова перамагаюць водныя перашкоды без староньняй дапамогі.

[2]) Клірэнс—адлегласьць ад зямлі да дна (бруха) танка. Клірэнсам вызначаецца вышыня пнёў і іншых вузкіх гарызантальных перашкод, па якіх можа прайсьці танк, каб ня сесьці на іх і ня страціць шчапленьня з глебай.

маскіруюцца так, каб іх нельга было выявіць ні наземным, ні паветраным назіраньнем. Гэты від парашкоды таксама патрабуе шмат часу для пабудовы і таму будзе ўжывацца галоўным чынам ва ўмовах абароны, якія набліжаюцца да пазыцыйных. Пасткі трэба рабіць толькі ў такіх мясцох, дзе танк, ня маючы магчымасьці зрабіць абход, павінен абавязкова на іх натыкнуцца. Перакрыцьцё пасткі павінна быць даволі моцным, каб даваць магчымасьць праходу сваім войскам (апрача танкаў).

*Пняваньне.* Густы лес з дрэвамі пэўнай таўшчыні (глядзі вышэй) зьяўляецца перашкодай для лёгкіх танкаў. Але калі гэтыя дрэвы ня маюць дастатковай таўшчыні або ня вельмі густыя, каб затрымаць танк, які рухаецца, то апошні зможа прайсьці гэты лес, выкарыстаўшы яго ў дадатак як маску. Таму ў лясох, якія не становяць сабой ужо гатовых процітанкавых перашкод, ужываюць пняваньне, г. зн. частку дрэваў па ўзьлесьсях зразаюць і пакідаюць пні вышынёй каля 40—50 см (з разьлікам перавышэньня клірэнса данага танка).

Пні такой вышыні зьяўляюцца большай перашкодай, чым дрэвы, бо не даюць магчымасьці танку залезьці на ствол і паваліць яго сваім цяжарам.

Калі дрэвы ня досыць густыя, то трэба рабіць камбінацыі пняваньня і надаўбаў. Апошнія ў такіх выпадках робяцца са зрэзаных частак ствалоў у такой колькасьці, якая неабходна для належнай частаты.

Посьпех работы пняваньня залежыць ад таго, якімі піламі ўзброены сапёры, што робяць пняваньне. Маторныя пілы павялічваюць прадукцыйнасьць у 10—15 раз у параўнаньні з ручным спосабам, і калі апошні патрабуе для зразаньня дрэва таўшчынёй у 30 см 2 чалавек на 15—20 мінут, то маторная піла выконвае гэту работу ў ½—1 мінуту, бо патрабуе на кожны сантымэтр таўшчыні адну сэкунду.

*Надаўбы* рознага роду слупы (бэтонныя, жалезныя, драўняныя) пэўнай таўшчыні і частаты, укопаныя з нахілам у бок праціўніка. Становяць сабой сур'ёзную перашкоду, але таксама як равы і пасткі патрабуюць шмат часу для сваёй пабудовы.

*Міны*[1]). Сучасная процітанкавая міна мае вагу каля 2—3 *кг*, разрываецца толькі пры праходжаньні па ёй танка (цяжкую артылерыю вытрымлівае). Міна малая па сваіх памерах і даволі лёгка маскіруецца і, будучы лёгкай па вазе, дае магчымасьць хутка раскідаць яе па мясцовасьці. І таму бязумоўна міна зьяўляецца цяпер найбольш грознай з пасыўных процітанкавых сродкаў барацьбы.

Міны можна раскладаць: па „галоднай" норме—1 міна на 1 паг. *м*, 1000 мін на 1 *км* і „вялікім насычэньнем" г. зн. каля трох мін на 1 паг. м, 2500—3000 мін на 1 *км*. Класьці міны трэба ў шахматным парадку. Мінныя вучасткі трэба заўсёды старанна

---

[1]) Хоць міна і можа зьнішчыць танк, але ўсё-ж такі гэта—сродак пасыўны

маскіраваць. Раскладваць міны можна перад дротам, у самым дроце і ззаду за дротам. Кожны з гэтых трох відаў раскладаньня мін мае свае выгоды і недахопы.

Так, пры раскладаньні мін уперадзе перад дротам становучы бок той, што танк, перш чым падыйсьці да дроту і яго разбурыць, натыкнецца на мінныя палі, але затое пяхота і сапёры праціўніка, не сустракаючы перашкод на сваім шляху ў выглядзе дроту, могуць падпаўзьці да мін і, расьцягнуўшы іх, зрабіць праходы для танкаў.

Разьмяшчэньне мін у самых дротавых загародах перашкаджае праціўніку расьцягваць іх, а танкі праціўніка, якія робяць праходы ў дроце, будуць несьці страты ад мін. Затое ў гэтым выпадку, калі праціўнік будзе рабіць праходы ў драцяных загародах артылерыяй, ён адначасова будзе рабіць праходы і для танкаў у мінных палёх. Аднак мала імаверна, каб праціўнік, які мае танкі, выкарыстоўваў артылерыю для прабіваньня праходаў у дроце. Урэшце, калі міны разьмясьціць ззаду за дротам, мы іх захаваем ад расьцягваньня і адначасовага зьнішчэньня з разбурэньнем дроту, але затое танкі праціўніка бяз страт (ад мін) змогуць падысьці да дроту і разбурыць яго.

Які з гэтых трох відаў разьмяшчэньня мін прыняць,—падкажа абстаноўка; адно ясна, што калі мясцовасьць, дзе закладзены міны, можа абстрэльвацца сапраўдным кулямётным агнём, гарантуючым ад магчымасьці праціўніка падысьці да мін і іх расьцягнуць, то такі мінны вучастак можа разьмяшчацца і ўперадзе перад драцянымі загародамі, калі-ж гэтай гарантыі няма, то міны трэба разьмяшчаць ззаду або ў самым дроце. Апошні прыём раскладаньня мін (у дроце) трэба лічыць найбольш выгодным.

## ЗЬНІШЧАЛЬНЫЯ СРОДКІ БАРАЦЬБЫ

Зьнішчальнымі сродкамі барацьбы мы называем такія, якія здольны ня толькі спыніць танк, але і зьнішчыць яго, прычым гэтыя сродкі самі могуць пасылаць сваё зьнішчальнае дзейства на сустрэчу танку, не чакаючы абавязкова яго падыходу да сябе. Гэтыя сродкі могуць яшчэ інакш называцца актыўнымі.

Асноўным відам зьнішчальных сродкаў зьяўляюцца артылерыйскія. Сярод іх асноўнае месца займае спэцыяльная процітанкавая пушка. Разгледзім яе больш падрабязна.

Проціtанкавая пушка павінна быць здольна проціпаставіць усім моцным уласьцівасьцям танка свае ня менш моцныя даныя, што відаць з наступнай табліцы:

| Танк | Проціtанкавая пушка |
|---|---|
| Броня | Калібр знарада + пачатковая скорасьць = вялікая прабівальнасьць. |
| Скорасьць руху | Скарастрэльнасьць. |
| Малая цэль | Трапнасьць. |

У гэтай табліцы скорасьць руху, броні і малым памерам танка проціпастаўлены скарастрэльнасьць, вялікая прабівальнасьць і трапнасьць процітанкавай гарматы. Апрача гэтага, такая гармата павінна быць малапрыкметнай і манэўранай, значыць яна павінна быць невялікіх памераў, дапускаць перавозку сілай людзей і мэханічнай цягай. Гэтым патрабаваньням будзе задавальняць у першую чаргу спэцыяльная процітанкавая пушка, буксіруемая танкеткай.

Наступнае пытаньне—гэта **калібр** процітанкавай пушкі. У гэты час ёсьць тры асноўныя тыпы процітанкавых пушак: 20-*мм*, 37-*мм* і 47 *мм*. Які калібр з гэтых трох найбольш зручны для процітанкавай барацьбы? Ніжэй паданая табліца прабівальнасьці броні рознымі гарматамі на розных дыстанцыях паказвае, што на дыстанцыі, не перавышаючай сапраўднасьці стральбы з танка [1]), г. зн. роўнай каля 1000 м, процітанкавыя пушкі прабіваюць: 20-*мм*—12-мм броню [2]), 37—20—22-мм і 47-мм—35-мм броню. Адсюль ясна, што 20-*мм* пушка ня можа прабіць нават такой лёгкай броні, як на 6-тонным Вікерсе (броня да 13-мм). 37-мм пушка прабівае на гэту дыстанцыю 20—22-мм броню, г. зн. б'е лёгкі танк з броняй тыпу 6-тоннага Вікерса, але бясьсільна супроць танкаў суправаджэньня тыпу № С-27 (броня да 30 мм), не гаворачы ўжо аб танках з больш тоўстай зброяй.

Урэшце 47-мм пушка б'е на гэту дыстанцыю броню ў 35 мм, г. зн. можа змагацца з усімі тыпамі танкаў суправаджэньня.

**Прабівальнасьць броні сучаснымі процітанкавымі гарматамі**

| Пушка \ Дыстанцыя | Прабіваецца броня (у міліметрах) на дыстанцыю (у мэтрах) | | |
|---|---|---|---|
| | 1000 | 1500 | 2000 |
| 20 *мм* | 12 | — | — |
| 37 „ | 20—22 | кал. 18 | — |
| 47 „ | 35 | 30 | кал. 25 |
| 75 „ | Прабівае броню да 25 *мм* на дыстанцыю да 2000 *м*. | | |

Адсюль вывад, што з трох тыпаў пушак найбольш выгоднай зьяўляецца 47-мм; апошняя, зразумела, ня можа змагацца з цяжкімі танкамі тыпу 2С або нават з танкамі з менш магутнай броняй пры ўмове, што снарады ня будуць пападаць па нармалі, г. зн. пад прамым вуглом, а гэта на вайне будзе амаль заўсёды [3]).

[1]) Канцэнтраваны агонь узвода танкаў робіцца сапраўдным з дыстанцыі каля 1000 м.

[2]) Тут і ніжэй пападаньні ўзяты па нармалі (90°).

[3]) Пападаньні пад вуглом у 60° зьніжаюць прабівальнасьць амаль на 50 проц (табліца на старонцы 14).

**Тэндэнцыя разьвіцьця процітанкавых гармат ідзе па шляху павялічэньня іх калібру да 57 і нават 75 *мм*.**

*76 мм-пушка* прабівае броню ў 25 *мм* на дыстанцыю да 2000 м пры ўмове пападаньня цэлым знарадам. Калі знарад разарвецца да таго, як пранікне ў броню, і значыць акажа на броню толькі фугаснае дзейства, то броня ў 25 мм будзе прабівацца такім знарадам толькі з дыстанцыі, меншай чым 1000 *м* [1]).

*Буйнакалібравыя кулямёты*—у сярэднім з калібрам ад 12 да 14 мм з прабіўной здольнасьцю ў 20 мм на дыстанцыю ў 100—200 м. З павялічэньнем дыстанцыі прабіўная здольнасьць хутка зьніжаецца. Таму буйнакалібравы кулямёт цяпер ня ўжываецца шырока як процітанкавы сродак барацьбы. Буйнакалібравы кулямёт толькі тады заваюе сабе адно з галоўнейшых месц сярод процітанкавай зброі, калі пытаньне аб павялічэньні пачатковай скорасьці будзе зусім вырашана, што павялічыць яго прабіўную здольнасьць. Да гэтага часу гэты кулямёт застаецца вельмі слабым для барацьбы з броняй сучасных танкаў,

**Кулі з вялікай пачатковай скорасьцю.** Па шляху выкарыстаньня звычайнай кулі для барацьбы з танкамі пайшоў германскі інжынэр Эрліх, павялічваючы пачатковую скорасьць кулі да 1750 *м/сэк.* Гэта дало магчымасьць прабіць броню ў 20 *мм* на дыстанцыі ў 50 *м.* Надаючы вялікае значэньне рэзультатам, атрыманым Эрліхам, мы іх падрабязна ў данай кнізе ня ўлічваем, бо гэта работы, якія яшчэ ня вышлі з стадыі вопытаў і таму рэальна ўлічаны быць ня могуць.

**Гранаты ручныя.** Адзіночная граната ніякай шкоды танку ня зробіць. Зьвязка гранат з пяці штук здольна прабіць броню ў 6 мм, г. зн. можа пашкодзіць вусеніцу лёгкага танка. Але для гэтага патрабуецца, каб разрыў адбыўся ў непасрэднай блізкасьці да вусеніцы. Таму зьвязку гранат трэба кідаць тады калі танк падышоў блізка—каля 10 крокаў. Кідаць зьвязку трэба з акопу або іншага ўкрыцьця, каб мець магчымасьць адразу пасьля гэтага захавацца і не загінуць самому ад асколкаў сваіх гранат. Наогул на гранаты ня трэба ўскладаць вялікіх надзей, як на сродак барацьбы з танкамі. Яны могуць толькі дубліраваць іншыя найбольш магутныя сродкі.

## НАСЫЧЭНЬНЕ ПРОЦІТАНКАВЫМІ ГАРМАТАМІ

Па-першае, дзе, у якіх падразьдзяленьнях павінны быць процітанкавыя гарматы?

Па нашай думцы яны павінны быць і ў дывізіі, і ў палку, і ў батальёне. Розьніца толькі ў сродках перасоўваньня гэтых процітанкавых пушак. Калі ў батальёне і палку пажадана мець мэханічную цягу (асабліва ў апошнім), то ў дывізіі такая цяга абавязковая, бо інакш страціцца асноўнае прызначэньне гэтых пушак,—рухомага процітанкавага рэзэрву.

[1]) Па даных кнігі Бэргфэльд і іншыя „Противотанковая оборона за рубежом" (стар. 91, табл. 3).

У батальёне такая пушка патрэбна, бо батальён зьяўляецца вышэйшай пяхотнай адзінкай, асноўнай маршавай калёнай, тактычнай адзінкай, раён якой зьяўляецца асновай у абароне.

Па-другое, **колькі гармат** дадаць? Тут ёсьць некаторая супярэчнасьць. Для барацьбы з танкам неабходна насьцільная траекторыя і наадварот, для барацьбы з агнявымі кропкамі праціўніка патрэбна крутая траекторыя. Такім чынам мы бачым, што патрабуецца дзьве розныя гарматы. У першым выпадку патрэбна пушка, а ў другім—гаўбіца. Таму войскі прыходзіцца ўзбройваць і тэй і другой. [1])

Для таго, каб не абцяжыць войскі надмернай колькасьцю гармат, цяпер лічаць нармальным насычэньнем батальёна пяхоты 4—6 процітанкавымі гарматамі. Гэта дае магчымасьць мець на 1 *км* фронта 2-3 гарматы. Насычэньне невялікае і недастатковае, асабліва калі ўлічыць неабходнасьць глыбіні разьмяшчэньня.

Калі адна процітанкавая пушка вывядзе са строю 2-3 танкі, то пры гэтым насычэньні можна будзе вывесьці са строю 8-9 танкаў на 1 *км* фронту.

Атакуючы-ж бок здолее накіраваць на 1 *км* атакі 20—30 танкаў. Ясна, што процітанкавых сродкаў мала. Разам з тым вялікае насычэньне зьвяжа рухомасьць войск, таму трэба камбінаваць разьмяшчэньне процітанкавых пушак так, каб на найбольш танканебясьпечным кірунку можна было мець больш моцны агонь, ствараць большую канцэнтрацыю процітанкавых гармат шляхам узмацненьня таго або іншага батальёна не за лік адабраньня і ўкліньваньня сродкаў з другога батальёна, а шляхам даданьня гэтых сродкаў. Процітанкавыя сродкі трэба мець на скараходнай мала паражальнай мэханічнай цязе, каб мець магчымасьць хутка манэўраваць імі. Толькі гэтыя мерапрыемствы могуць даць магчымасьць спыніць танкавую атаку наступаючага.

Даная кніга выходзіць з насычэньня процітанкавымі сродкамі барацьбы паданымі ў наступнай табліцы:

**Процітанкавыя сродкі сучаснага пяхотнага палка**

| Батальён | Полк |
|---|---|
| 37-*мм* пушак—2- 4<br>У 3 батальёнах—6—12 | 75-*мм* пушак—2—6 |

Усяго ў пяхотным палку:
гармат—8—18

---

[1]) Зараз ідуць па шляху стварэньня унівэрсальнай гарматы, якая была-б і пушкай і гаўбіцай, шляхам стварэньня двух ствалоў побач, або аднаго паверх другога, або аднаго ў другім. Аднак яшчэ зусім здавальняючых узораў няма. Нязручнасьць: цяжкасьць, павольнасьць пераходу ад аднаго віду агню да другога.

## ПРОЦІБРАНЯВЛЯ БАРАЦЬБА Ў АБАРОНЕ

### МЭТЫ І ЗАДАЧЫ ПРОЦІТАНКАВАЙ АБАРОНЫ

Процітанкавая абарона мае на мэце пры любой абстаноўцы даць абарону ад танкаў з найменшым абмежаваньнем свабоды дзействаў вайсковых злучэньняў.

У залежнасьці ад умоў абстаноўкі задачы абароны будуць заключацца ў наступным:

— устанавіць наяўнасьць танкавых часьцей у праціўніка і магчымасьці іх ужываньня;

— выявіць падрыхтоўку танкавай атакі;

— ня даць праціўніку пачаць танкавую атаку або спыніць атаку, якая ўжо пачалася;

— забясьпечыць войскам выкананьне пастаўленых баявых задач, ня гледзячы на вядзеньне танкавай атакі.

Апошняе ў значнай ступені дасягаецца выпрацоўкай у пяхоце звычкі сустракацца з танкамі і прапускаць іх праз сваё разьмяшчэньне, нападаючы на пяхоту, якая ідзе за танкамі, руйнуючы сувязь і ўзаемадзейства паміж танкамі і пяхотай атакуючага.

Задача процітанкавай абароны ажыцьцяўляецца пры дапамозе:

— *выведкі*, вызначаючай: наяўнасьць танкавых часьцей у праціўніка, магчымасьць іх ужываньня, падрыхтоўку праціўніка да танкавай атакі;

— *назіраньня*, дапаўняючага работу выведкі, асабліва для сваячасовага выяўленьня падрыхтоўчых работ праціўніка па арганізацыі танкавай атакі;

— *службы танкавай трывогі*, якая сваячасова паведамляе нашы войскі аб пагрозе танкавай атакі;

— *актыўных дзействаў таго, хто абараняецца*, якія распачынаюцца з мэтай зрыву падрыхтаванай або ўжо распачатай танкавай атакі;

— *выкарыстаньня мясцовасьці* і інжынэрна-тэхнічнага абсталяваньня яе ў процітанкавых адносінах: групоўкай войск і агнявых сродкаў у раёнах, найбольш бясьпечных ад танкаў, выбарам кірункаў для перасоўваньняў, найбольш забясьпечаных ад танкавых атак.

**Злучэньне актыўных і пасыўных сродкаў барацьбы.** Задача актыўных сродкаў процітанкавай абароны—вывесьці танк са строю—ускладняецца асаблівасьцямі танка як цэлі, злучаючай у сябе рух, агонь і бронявую абарону.

Наколькі скорасьць ходу танка аказвае ўплыў на ўмовы пасьпяховасьці яго паражэньня, відаць з наступных прыкладаў.

Пры скорасьці ходу танка 12—15 *км* у гадзіну, кірунку яго руху пад вуглом $90^0$ да кірунку стральбы процітанкавай гарматы, дыстанцыі стральбы 1000 м танк у час лёту знарада з гарматы 1902 г. пасьпее прайсьці каля 10 *м*. Такім чынам стральба ўскладняецца неабходнасьцю ўліку папярэджаньня на ход цэлі, інакш знарад трапіць у пункт *а*, у той час, як танк ужо будзе ў кропцы *в* (чарц. 4). Пры скорасьці руху ня больш 4 *км* у гадзіну танк пры іншых роўных умовах перамясьціцца за час лёту знарада з кропкі *а* ў *в* (чарц. 5). Такое перамяшчэньне ня будзе мець значнага ўплыву на пасьпяховасьць паражэньня, бо адлегласьць, пройдзеная танкам, будзе меншая за яго даўжыню.




Чарц. 4.




Чарц. 5.

Рэзультаты вопытных стрэльб („Пехотны журнал“, чэрвень 1930 г.) спэцыяльных процітанкавых гармат па мішэньнях, якія рухаюцца са скорасьцю 20—25 *км* у гадзіну, пры дыстанцыі 450—850 *м* даюць магчымасьць зрабіць вывад, што процант пападаньня у танк, які рухаецца, у падобных умовах будзе вагацца ад 25 да 30.

Пры руху танка на гэтых-жа скорасьцях па зыгзагах у падобным курсе з адхіленьнем у 20—25° ад кірунку на гармату імавернасьць пападаньня ў танк, які рухаецца на дыстанцыю каля 1000 *м*, будзе ў 10—15 проц.

Скорасьць руху танкаў адбіваецца і на магчымасьці паражэньня іх загараджальным агнём абароны, бо патрабуе пакрыцьця зон, што адводзяцца, агнём вялікай шчыльнасьці пры адпаведнай глыбіні. На пакрыцьцё такім агнём зоны ў 500—600 м па фронце і 300 м у глыбіню патрэбна будзе 8—10 веераў суцэльнага паражэньня двухбатарэйнай глыбіні. Масыраваць агонь такой шчыльнасьці пры нармальных умовах працяжэньня фронту той-хто абараняецца, ня здолее, таму **з а г а р а д ж а л ь н ы а г о н ь п а т а н к а х, а т а к у ю ч ы х с а с к о р а с ь ц ю з в ы ш 15 км у г а д з і н у, н я д а с ь ц ь ч а к а е м ы х р э з у л ь т а т а ў.** Цяжкасьць барацьбы з імі павінна быць перанесена на гарматы спэцыяльнага прызначэньня, Гарматы палявой артылерыі будуць пераважна весьці агонь па скораходных танках з дыстанцый, не перавышаючых дальнасьці прамога стрэлу, г. зн. на тых дыстанцыях, калі вышыня траекторыі не перавышае вышыні танка, бо стральба на вялікія дыстанцыі будзе патрабаваць зьмены ўстановак і зьмяншэньня і без таго невялікай скарастрэльнасьці гэтых гармат. Дыстанцыя прамога стрэлу для пушкі 1927 г. роўна 500 м, для пушкі 1902—600—700 м. На гэтых дыстанцыях вышыня траекторыі не паднімаецца вышэй за 3 м (вышыня танка). Агонь большай часткі сучасных процітанкавых гармат робіцца небясьпечным для танкаў з дыстанцыі 1500 м пры таўшчыні броні да 20 мм. Гэту дыстанцыю сучасны малы і сярэдні танк, уладаючы скорасьцю 25—30 км у гадзіну, праходзіць у вельмі абмежаваны час, чым зьмяншае імавернасьць паражэньня танкаў агнём гармат абароны.

Таму асноўнай задачай пасыўных сродкаў барацьбы будзе перашкаджаць, звужаць, сьцішаць прасоўваньне танка і гэтым ствараць спрыяючыя ўмовы для дзейства сваіх актыўных сродкаў барацьбы, забясьпечыўшы ім працягласьць узьдзеяньня і тым самым нанесьці праціўніку магчыма большыя фізычныя і маральныя страты.

І калі кожны з процітанкавых сродкаў барацьбы паасобку не зьяўляецца дастатковым для вырашэньня праблемы барацьбы з танкамі, то ўмелае злучэньне іх, галоўным чынам артылерыйскага агню з інжынэрна-тэхнічным абсталяваньнем мясцовасьці ў процітанкавых адносінах, дасьць неабходную ўстойлівасьць абароне, забясьпечыўшы найбольшую сапраўднасьць усіх процітанкавых сродкаў у дзействе.

Ва ўмовах манэўранай барацьбы актыўныя і пасыўныя сродкі процітанкавай барацьбы могуць атрымаць наступнае разьвіцьцё пры абароне:

— *Пярэдні край абаронча й паласы* ўзмацняецца забалочваньнем, ямамі, засекамі, устаноўкай процітанкавых фугасаў і мін на танканебясьпечных кірунках і г. д.; гэтыя мерапрыемствы ўзгадняюцца з сыстэмай агню пяхотных і артылерыйскіх сродкаў барацьбы;

— *у глыбіні абарончай паласы* выкарыстоўваюцца натуральныя перашкоды, сьцішаючыя скорасьць руху танкаў і ствараюцца спрыяючыя ўмовы для іх паражэньня. Будуецца рад штучных перашкод для тэй-жа мэты. Каб унікнуць распаўсюджваньня танкаў з аднаго вучастку на другі будуецца рад перашкод адсечнага тыпу.

Усе сродкі процітанкавай барацьбы разьмяшчаюцца замаскавана. Ствараецца рад фальшывых збудаваньняў, каб выведка не магла выявіць сыстэму процітанкавай абароны.

У адпаведнасьці з абстаноўкай варыянты злучэньняў актыўных і пасыўных сродкаў процітанкавай барацьбы будуць розныя.

**Пярэдні край абарончай паласы.** Інжынэрныя загароды і сыстэма агню процітанкавай абароны пярэдняга краю абарончай паласы мае на мэце прымусіць танкі праціўніка адмовіцца ад фарсаваньня некаторых вучасткаў абароны і накіраваць іх на вучасткі, дзе плянам прадугледжана барацьба з імі ў больш выгодных умовах для тых, хто абараняецца.

Процітанкавыя перашкоды ўстанаўліваюцца на пэўных шляхох руху танкаў.

Перашкоды павінны знаходзіцца пад агнём процітанкавых гармат і кулямётаў абароны, ня даць праціўніку выведаць і зьнішчыць іх, а танкам яго паражаць—калі яны дойдуць да перашкод і пачнуць паварачвацца, імкнучыся абысьці іх.

Для процітанкавых гармат выгадней за ўсё весьці агонь па танку пры курсавым вугле, блізкім да 0, г. зн. агонь процітанкавых гармат павінен быць франтальным.

Гэта ня выключае флянгавых пазыцый на флянгах процітанкавых перашкод. У гэтым выпадку агонь адкрываецца тады, калі танк, дайшоўшы да перашкоды, паварачваецца, каб абысьці яе.

Такім чынам пазыцыі будуць франтальныя і флянгавыя, але агонь павінен быць заўсёды франтальным, асабліва з гармат, не спэцыяльна сканструяваных для процітанкавай барацьбы. Добрае назіраньне з танка абмяжоўваецца радыусам у 300—400 м, гэта ў значнай ступені вызначае і сапраўднасьць паражэньня агнём з танка.

Таму выгадней за ўсё было-б разьмяшчаць процітанкавыя агнявыя кропкі ў глыбіні недаступных для танкаў раёнаў у 300 м. ад граніцы гэтых раёнаў, але тут неабходна ўлічваць і сапраўднасьць агню данай сыстэмы гарматы па пэўных тыпах танкаў.

Так, калі 20-мм процітанкавая пушка прабівае 20-мм броню з дыстанцыі 300 м, то адцягнуўшы яе ў глыбіню раёна, недаступнага для танкаў, на 300 м, мы прымусім яе весьці агонь па танках з большай дыстанцыі, і ўжо броні такой таўшчыні яна прабіць ня можа.

**Процітанкавыя гарматы маюць права адкрываць агонь выключна па танках.**

На інжынэрна-тэхнічнае забесьпячэньне іх пазыцыі павінна быць зьвернута асаблівая ўвага. Неабходна стварыць ўмовы,

якія забясьпечвалі-б надзейнасьць работ з гэтых гармат пры прарыве танкамі пярэдняга краю нашай абарончай паласы; падступы да гэтых гармат для пяхоты праціўніка павінны быць адрэзаны агнём абароны. Старанная маскіроўка заўсёды неабходна.

Для процітанкавай барацьбы на пярэдні край вылучаюцца батальённыя граматы і спэцыяльныя процітанкавыя батарэі, а частка або ўсе батарэі ПА разьмяшчаюцца так, каб стварыць глыбіню абароны на танканебясьпечных кірунках. Частка артылерыйскіх процітанкавых сродкаў будзе займаць пазыцыю ў раёне рот 1-га эшальёну, бо гэтага будзе патрабаваць абарона танканебясьпечных кірункаў.




**Чарц. 6.**

Чарцёж 6 указвае магчымае разьмяшчэньне загародаў і процітанкавых сродкаў барацьбы на пярэднім краі абарончай паласы. У даным выпадку паводле пляну процітанкавай абароны танкавую атаку пажадана накіраваць на захад ад вышыні 83,6 і недапусьціць прарыву танкаў у глыбіню абарончай паласы ў кірунку вышыні 83,6. Для ажыцьцяўленьня гэтага ў драцяных загародах удоўж пярэдняга краю ўстаноўлены процітанкавыя міны.

Магчымая ўкладка іх і разьлік відаць са схэм *а* і *б* чарц. 6.

Разьмяшчэньне міннага поля ў драцяной загародзе ня можа зьяўляцца шаблёнам, але забясьпечвае яго ад выведчых дзействаў праціўніка. Усё-ж такі зьяўляецца неабходным, выкарыстоўваючы глыбіню і адваротныя спады, арганізаваць і тут міннае поле. Для затрымкі танкаў, некалькі адступіўшы ў глыбіню, выкарыстоўваецца „эскарпіраваны спад" вышыні 83,6 вучастак В—С. Перашкоды абаронены агнём батальённай гарматы, якая вядзе агонь удоўж драцяных загародаў і міннага поля

і аднэй процітанкавай пушкі, падрыхтаваўшай агонь удоўж „эскарпіраванага спаду“. Інжынэрнае забесьпячэньне процітанкавых гармат праведзена „пняваньнем“[1])—дрэваў, што знаходзяцца ўперадзе, і ўстаноўкай мін.

**Глыбіня абарончай паласы.** Асноўнай задачай процітанкавай барацьбы ў глыбіні абарончай паласы будзе зьнішчэньне танкаў праціўніка, якія прарваліся. Выходзячы з гэтай задачы, будзе пабудавана і злучэньне актыўных і пасыўных сродкаў процітанкавай абароны.

Неабходнай умовай зьявіцца патрабаваньне пакідаць перад натуральнымі і штучнымі перашкодамі палосы, незанятыя пяхотай, якая абараняецца, каб артылерыя магла весьці агонь прамой наводкай бяз рызыкі паражэньня сваіх войск.

Кожная процітанкавая гармата атрымлівае адказную паласу або сэктар абстрэлу. Глыбіня паласы і шырыня яе вызначаецца пастаўленай задачай, пажаданай дыстанцыяй стральбы і ўлікам магчымых адхіленьняў знарадаў па дальнасьці і бакавога. Напрыклад (чарц. 7) пяхота, якая абараняецца, разьведзена з такім разьлікам, што перад доўгім гаем і абрывам, на поўдзень заходні ад в. Селішча, якія перашкаджаюць руху танкаў, пакінуты палосы для дзейства кінжальных гармат. Паміж раёнамі *а* і *в*, занятымі пяхотай, пакінута такая-ж паласа. Задача абмежаваньня распаўсюджваньня танкаў, якія прарваліся ў бакі, вырашаецца шляхам адсечных перашкод. Злучэньнем агню процітанкавых гармат з адсечнымі перашкодамі ўтвараюцца „процітанкавыя калідоры“.

Танкі праціўніка (чарц. 8), прарваўшы пярэдні край абарончай паласы паміж вышынямі 89,2 і 83,6 трапляюць у „процітанкавы калідор“, які звужае іх распаўсюджваньне на ўсход і на захад і трапляюць пад агонь спэцыяльна ўстаноўленых процітанкавых гармат, пазыцыі якіх зроблены недаступнымі для танкаў. Агнявыя палосы, адведзеныя для стральбы процітанкавых гармат, батарэй павінны быць ва ўсіх выпадках дакладна вядомы пяхоце, адзначаны мясцовымі прадметамі або распазнавальнымі знакамі, нанесены на ротныя карткі і артылерыйскія схэмы. У сваю чаргу артылерысты павінны ведаць разьмяшчэньне падразьдзяленьняў пяхоты. Незалежна ад процітанкавых агнявых кропак усе батарэі груп ПА і ПП павінны быць падрыхтаваны да вядзеньня агню прамой наводкай па танках, якія прарваліся, з аснаўных пазыцый. Батарэі груп ДД павінны быць гатовы да самаабароны. Пажадана

---

[1]) „Пняваньне“—падпілоўваньне дрэваў з пакіданьнем пня, перавышаючага клірэнс. Пень зьяўляецца большай перашкодай, чым дрэва, бо недазваляе танку выбрацца за яго і паваліць яго сваім цяжарам.

пазыцыі батарэі выбіраць за натуральнымі перашкодамі або забясьпечваць іх штучнымі перашкодамі (чарц. 9).

Батарэя *а*, разьмешчаная за возерам каля х. Шуба, атрымала адказны вучастак *к*, *л*, *м*, *н*, для стральбы па танках, якія прарваліся. Калі па ўмовах мясцовасьці гэтага нельга выканаць, намячаюцца і падрыхтоўваюцца пазыцыі, куды батарэі хутка выяжджаюць або выкочваюцца ў выпадку прарыву танкаў. Так на прыклад батарэя в па пляну процітанкавай абароны пры прарыве танкаў займае пазыцыю *в* і вядзе агонь па танках у адказным вучастку *к*, *л*, *м*, *н*. Абрыў, які ідзе на поўнач ад в. Каменная, узмоцнены ўстаноўкай процітанкавых фугасаў для папярэджаньня прарыву танкаў з суседняга вучастку.

Пры атацы танкі ўжываюцца звычайна ў вялікай колькасьці і на шырокім фронце. Стральба па танках, якія хутка рухаюцца і разгрупаваны па фронце, складаная, таму для таго, хто абараняецца, будзе выгодна прымусіць танкі ня толькі сьцішыць ход, але і перастроіцца ў кільватэрную калёну. Гэта дасягаецца пабудовай перарывістых загарод, якія перахопліваюць шляхі руху танкаў. Такая загарода Е — Ж (чарц. 9) пабудавана ў адказным вучастку, адведзеным батарэі *в*. Асноўнай умовай гатоўнасьці батарэі да самаабароны супроць танкаў зьяўляецца арганізацыя бліжняга кругавога назіраньня з агнявой пазыцыі батарэі. Назіраньне вядзецца як з самай пазыцыі, так спэцыяльна вылучанымі назіральнікамі, якія выстаўляюцца на танканебясьпечных подступах да батарэі. Лічачы скорасьць атакуючых танкаў груп ДД у глыбіні абарончай паласы 15 км у гадзіну мы бачым, што танкі ДД дасягнуць сваіх цэляй праз 20-25 мінут і здолеюць парушыць сыстэму агню, кіраўніцтва і забясьпечваньня ў абароне.




Чарц. 7.

Схэма барацьбы з танкамі ў асноўным будзе складацца са злучэньня тых-жа актыўных і пасыўных сродкаў барацьбы. Палосы, прыкрываючыя глыбіню разьмяшчэньня артылерыйскіх пазыцый і тылы, забясьпечваюцца агнём спэцыяльна назначаных батарэй, што прадугледжваецца плянам абароны. Процітанкавыя сродкі барацьбы ў выглядзе асобных гармат і мін могуць быць прыцягнуты да забясьпечаньня такіх жыцьцёвых цэнтраў, як склады з агняпрыпасамі і г. д. Вялікую карысьць акажуць

запрэжаныя асобныя гарматы, якія ў момант зьяўленьня танкаў выяжджаюць на загадзя выбраныя пазыцыі[1]).

Гэтымі мерапрыемствамі зразумела не вырашаецца праблема барацьбы з танкамі, якія прарваліся, але ў злучнасьці сваёй яны нанясуць матэрыяльную шкоду атакуючаму, затрымаюць яго прасоўваньне, дадуць магчымасьць таму, хто абараняецца выйграць час, згрупаваць сродкі да месца прарыву і арганізаваць контр-удар.

У гэты этап крызісу бою рашаючую ролю могуць адыграць скораходныя танкавыя і бронятанкавыя часьці, узмоцненыя самаходнай артылерыяй.




Чарц. 8.




Чарц. 9.

## ГЛЫБІНЯ І БЕСЬПЕРАПЫННАСЬЦЬ АБАРОНЫ

Усе статуты лічаць, што неабходнай умовай пасьпяховасьці танкавай атакі зьяўляецца ўжываньне танкаў у вялікай колькасьці, на шырокім фронце і на глыбіні ня менш як артылерыйскіх пазыцый таго, хто абараняецца.

З гэтага спосабу дзействаў атакуючага вынікае, што для пасьпяховасьці процітанкавай барацьбы, той, хто абараняецца, павінен проціпаставіць глыбіні і шырыні фронту танкавай атакі глыбокую і бесьперапынную процітанкавую абарону.

Глыбіня абароны дасягаецца эшалёнаваньнем сродкаў у залежнасьці ад іх балістычных якасьцяй і тактычнага выкарыстаньня.

Атакуючыя танкі сустрэнуць у парадку пасьлядоўнасьці:

— загараджальны агонь па рубяжох;

— агонь перад пярэднім краем абарончай паласы, агонь батальённай артылерыі і кінжальных гармат ПА;

---

[1]) Бязумоўна, што лепшым сродкам у адносінах рухомасьці зьяўляюцца самаходныя гарматы ПТА.

— у барацьбе за пярэдні край абарончай паласы да гэтага далучыцца агонь прамой наводкай батарэй, вылучаных для стральбы па танках пераважна з групы ПА;

— у глыбіні абарончай паласы спачатку агонь гармат ПА, потым агонь часткі батарэй групы ПП і ДД з пазыцый, якія займаюцца пасьля выяўленьня танкавай атакі, або асноўных агнявых пазыцый, дапускаючых стральбу прамой наводкай па атакуючых танках.

Установка спэцыяльных гармат, вылучаных для стральбы ў кірунках, не занятых пяхотай, паводле пляну процітанкавай абароны можа даць тут станоўчыя рэзультаты, але нямінуча зьменшыць колькасьць дзейнічаючай артылерыі абароны ў пачатку адбіцьця атакі.

Да гэтага неабходна дадаць, што ў пэрыяд падрыхтоўкі атакі танкі могуць таксама трапіць пад агнявы напад артылерыі таго, хто абараняецца на сваіх чакальных і выходных пазыцыях. Урэшце праз увесь час барацьбы ў глыбіні абарончай паласы яны павінны лічыцца з агнём кулямётаў бронябойнымі кулямі, ружэйным і кулямётным агнём звычайнымі кулямі праз назіральныя шчыліны. Па даных замежнай літаратуры 50 проц. раненьняў экіпажу танкаў у твар нанесена такім спосабам.

Процітанкавыя фугасы, агнямёты, ружэйныя і ручныя гранаты пры спрыяючых умовах іх выкарыстаньня створаць яшчэ большую шчыльнасьць процітанкавай абароны па ўсёй яе глыбіні і павялічаць цяжкасьць яе перамаганьня.

Бесьперапыннасьць процітанкавай абароны дасягаецца аб'яднаньнем вучасткаў, недаступных для танкаў, з вучасткамі маладаступнымі, дзе пяхота можа весьці барацьбу з імі пры дапамозе пяхотных сродкаў, і вучасткамі, дзе процітанкавая абарона дасягаецца пры дапамозе спэцыяльных сродкаў барацьбы.

Добра арганізаваная бесьперапынная процітанкавая абарона не павінна мець прамежкаў, не зьвязаных паміж сабой агнём процітанкавых сродкаў і не ахаваных натуральнымі або штучнымі перашкодамі.

Бесьперапыннасьць абароны, часткова парушаная атакуючым, павінна быць адноўлена высоўваньнем процітанкавых сродкаў з глыбіні і агнём па танках, якія атакуюць ва ўтвораныя прарывы.

У адносінах разьмяшчэньня процітанкавых сродкаў пры абароне выгадней мінімальную колькасьць іх высоўваць да пярэдняга краю абарончай паласы і дабівацца бесьперапыннасьці абароны шляхам больш глыбокага разьмяшчэньня артылерыйскіх сродкаў, зьмяншаючы гэтым іх паражальнасьць і палягчаючы магчымасьць аднаўленьня парушаных зьвеньняў абароны. Наяўнасьць рухомых элемэнтаў процітанкавай абароны здольных у кароткі час аказацца каля месца прарыву (танк-зьнішчальнік, самаходная артылерыя і г. д.), дазволіць не паслабляць артылерыйскага агню таго, хто абараняецца, у той момант, калі ўся сыстэма абароны перажывае крызіс.

## ЦЭНТР ЦЯЖАРУ ПРОЦІТАНКАВАЙ АБАРОНЫ

У залежнасьці ад задачы, зручнасьці дзейства і групоўкі агнявых сродкаў можна намеціць тры ўмоўныя паласы, дзе танкі атрымаюць арганізаваны агнявы адпор (чарцёж 10).

Першая паласа *а* і *б*, якая ідзе ўдоўж пярэдняга краю абарончай паласы да граніцы глыбіні батальёнаў 1-га эшалёна, заключае ў сабе батальённую і палкавую артылерыю, гарматы якой складуць асноўны касьцяк процітанкавай абароны. Для разьмяшчэньня кінжальных гармат германскі статут і польская літаратура ўказваюць паласу глыбінёй ў 1 *км* ад пярэдняга краю абароны (*м—к*). Гэта паласа нармальна будзе супадаць з глыбінёй рот 1-га эшалёна.




Чарц. 10.

Частка гармат артылерыі ПА разьмесьціцца так, каб прыкрыць глыбіню абароны на танканебясьпечных кірунках, маючы спэцыяльныя пазыцыі для вядзеньня агню прамой наводкай.

Тэарэтычны падлік і даныя замежнай літаратуры ўказваюць, што для стварэньня процітанкавага агню дастатковай шчыльнасьці неабходна мець чатыры—пяць процітанкавых гармат на 1 *км* фронту абароны. Указаную шчыльнасьць змогуць даць батальённыя і палкавыя пушкі. Другая паласа *б—в* да глыбіні палкавога вучастку заключае ў сабе артылерыю ПП і ДД, агнявыя і ўдарныя сродкі ПТА ў выглядзе бронявых і танкавых часьцей, даданых палку на ўзмацненьне.

Трэцяя паласа *в—г* заключае 2-гі эшалён дывізіі.

Разгледзім, у якой-жа з палос павінен быць цэнтр цяжару процітанкавай абароны.

Зьвернемся да паласы *к—м*, яна ў большасьці выпадкаў праглядаецца праціўнікам, і з прычыны гэтага агнявыя сродкі, якія ёсьць на ёй, падпадаюць пад магутны руйнуючы агонь артылерыі атакі. Захоп пярэдняга краю пазбаўляе абарону ўсіх разьмешчаных на ёй процітанкавых сродкаў, бо манэўр іх тут вельмі звужаны. Усе сродкі, прызначаныя для барацьбы з танкамі, якія знаходзяцца ў гэтай паласе, павінны бязьдзейнічаць да моманту танкавай атакі, інакш яны будуць выяўлены і зьнішчаны або нэйтралізаваны атакуючым.

Разглядаемая далей глыбіня батальённага раёну 1-га і 2-га эшалёнаў, скрытая ад наземнага назіраньня, дае выгодныя ўмовы для рашучай барацьбы абароны з танкамі. Пяхота і танкі праціўніка, перайшоўшы праз прыкрываючы грэбень і трапіўшы ў гэту паласу, будуць пазбаўлены магутнай падтрымкі артылерыі атакі. Сродкі, разьмешчаныя ў гэтай паласе, не падпадаюць у такой вялікай ступені пад дзейства артылерыі праціўніка і ўладаюць вялікай свабодай манэўру з прычыны таго, што яны не назіраюцца.

Разьвіцьцё прарыву танкаў да глыбіні паласы *в—і*, якая ўключае 2-гі эшалён дывізіі, ставіць пад пагрозу зрыву ўсю сыстэму абароны.

Наогул кажучы, мэтай ПТА трэба ставіць—не дапусьціць танкі дальш за артпазыцыі, бо са стратай іх парушаецца сыстэма агню, г. зн. танкі трэба спыніць перад артылерыйскімі пазыцыямі.

Такім чынам, разгледзеўшы ўмовы процітанкавай барацьбы, прыходзім да вываду, што н а й б о л ь ш ы я в ы г о д ы д л я т а г о,




Чарц. 11.

х т о а б а р а н я е ц ц а, д а е п е р а н я с е н ь н е ц э н т р у ц я ж а р у п р о ц і т а н к а в а й а б а р о н ы ў г л ы б і н ю б а т а л ь ё н н ы х р а ё н а ў, г. з н. н а г л ы б і н ю к а л я 2 км а д п я р э д н я г а к р а ю н а а д в а р о т н ы я с п а д ы. Тут ёсьць магчымасьць у поўнай меры выкарыстаць выгоды добрага знаёмства таго, хто абараняецца, з мясцовасьцю, і агонь сваёй артылерыі па танках, у той час як атакуючы, пазбаўлены назіраньня, ня здолее аказаць поўную і надзейную артылерыйскую падтрымку сваёй пяхоце і танкам у глыбіні абарончай паласы. Гэта ня выключае таго палажэньня, што барацьба з танкамі павінна весьціся па ўсёй глыбіні абароны ад лініі баявога ахаваньня да артылерыйскіх пазыцый уключна.

Сусьветная вайна дае рад абарончых баёў, калі ў мэтах захаваньня да моманту адбіцьця атакі сваіх агнявых сродкаў, у тым ліку і процітанкавых гармат, той, хто абараняўся, быў прымушаны пераносіць цэнтр цяжару абароны ў глыбіню ад пярэдняга краю.

Падаем найбольш характэрны з іх. Пры адбіцьці контр-атакі французаў 11 чэрвеня 1918 г. процітанкавая артылерыя германцаў была разьмешчана ў глыбіні абарончай паласы ў 3—4 км ад

галаўных часьцей германскай пяхоты ў зонах, якія не прагляdаліся з назіральных пунктаў французаў. Умоўны профіль мясцовасьці поля бою (чарц. 11) ясна паказвае выгоды такога разьмяшчэньня. Як толькі танкі атакуючага мінулі рубеж вышыні 134, яны пазбавіліся падтрымкі артылерыі атакі і панесьлі страты больш 40 проц. Да рубяжу вышыні 134 атакуючыя танкі прайшлі ад $1^1/_2$ да 2 км бяз страт пры падтрымцы артылерыі атакі, якая мела шчыльнасьць 80—90 гармат на 1 км фронту.

## АСАБЛІВАСЬЦІ ДЗЕЙСТВА ЎДАРНЫХ ГРУП У АБАРОНЕ

Наступаючы, згрупаваўшы пераважныя сілы ў рашаючым кірунку, здолее цаной страт дабіцца посьпеху і пранікнуць у глыбіню абарончай паласы. Пяхота, якая ідзе за танкамі, будзе




Чарц. 12.

ачышчаць і замацоўваць за сабой мясцовасьць. У прадбачаньні наступленьня праціўніка пры падтрымцы танкаў пажадана ўдарныя групы разьмяшчаць у раёнах, недаступных для танкаў, і прыгэтым на флянгу у адносі нах да танканебясьпечных кірункаў.

Ударныя групы, якія ня ўключаюць у свой састаў танкавыя або броневыя часьці, звычайна будуць дзейнічаць толькі супроць пяхоты праціўніка, прапускаючы танкі, якія прарваліся, у глыбіню, дзе з імі будзе весьці барацьбу артылерыя абароны. Ва ўмовах процітанкавай абароны тыповай першапачатковай задачай 2-га эшалёна палка будзе толькі ўтрыманьне займаемага рубяжу і забесьпячэньне глыбіні абароны. Так (чарцёж 12), калі абарончы ўчастак палка прарваны на правым флянгу і эшалён атакуючых танкаў дасягнуў фронту *А—Б*. задачай другога эшалёна палка, займаючага раён вышыні 92,6 будзе ня контрудар, а ўтрыманьне абарончага раёну, бо ў адваротным выпадку ён

страціць выгоднае палажэньне і не забясьпечыць ПТА глыбіні абарончай паласы. Контрудар тут мяркуецца магчымым толькі пасьля таго,калі танкі, якія прарваліся, панясуць рашаючыя страты ад агню процітанкавых гармат і ўсёй артылерыі абароны.

Па гэтых-жа прычынах будзе нямэтазгодны лобавы ўдар у кірунку вышыні 83,6 у выпадку прарыву танкаў і на левым вучастку палка.

Трэба адзначыць, што ў час барацьбы ў глыбіні абарончай паласы набывае асабліва важнае значэньне арганізаваны адсечны агонь станкавых кулямётаў з раёнаў, якія ўтрымліваюцца, адцяляючы пяхоту ад танкаў. У разглядаемым прыкладзе (чарцёж 12) такі агонь выгодна арганізаваць з раёну II батальёна з вышыні 93,1. Магчымасьць вядзеньня такога агню павінна быць прадугледжана плянам абароны палка.

## ТАНКІ Ў АБАРОНЕ

Разглядаючы пытаньне дзейства танкаў абароны супроць танкаў наступленьня, неабходна адзначыць, што асноўныя палажэньні дзействаў супроць танкавых часьцей тыя-ж, што і супроць іншых родаў войск. Сюды будзе аднесена:

— выкарыстаньне натуральных і штучных перашкод для накіраваньня атакі праціўніка ў пэўных выгодных для абароны кірунках;

— забесьпячэньне часу і прасторы для манэўру ўдарнай танкавай групы;

— арганізацыя ўзаемадзейства паміж скоўваючай агнявой і ўдарнай групамі абароны.

Выкарыстаньне танкаў у абароне павінна прадугледжваць два варыянты контратакі: 1) супроць самастойных танкавых груп праціўніка (танкі ДД); 2) супроць танкаў праціўніка, наступаючых у цесным узаемадзействе з пяхотай.

Плян контратакі танкаў абароны ўстанаўлівае:

— разьмяшчэньне танкавай групы абароны;

— кірунак контратакі, баявыя курсы і баявыя парадкі танкавай контратакі;

— зборныя пункты;

— хто падтрымлівае контратаку (задачы артылерыі і гармат ПТА);

— свабодныя калідоры для дзейства танкаў абароны;

— сувязь з часьцямі баявога парадку пяхоты для назіраньня за боем на пярэднім краі;

— сувязь паміж танкамі, артылерыяй і пяхотай і яе сродкамі ПТА;

— хто аддае загад аб контратацы, сыгнале контратакі і выкліку агню.

Перад вызначэньнем кірунку дзейства контратакуючай групы ўстанаўліваюцца магчыма кірункі атакі танкаў праціўніка.

Начальнікам контратакуючай групы танкаў зьяўляецца камандзір танкавай часьці, які пры дапамозе пяхотнага камандзіра, на вучастку якога ён дзейнічае, і артылерыйскага начальніка (начальніка групы) распрацоўвае плян контратакі [1]).

П о с ь п е х т а н к а в а й а т а к і з а б я с ь п е ч в а е ц ц а:

— своечасовым увядзеньнем танкавай групы абароны ў бой: *Звычайна танкі абароны трэба накіроўваць супроць танкаў наступленьня тады, калі робіцца відавочнай немагчымасьць агнявых сродкаў абароны зьнішчыць танкі праціўніка*:

— дзействам танкаў абароны ва флянг і тыл танкам атакі, шырока выкарыстоўваючы раптоўнасьць, ужываючы засады;

— заўчасным вывучэньнем і веданьнем мясцовасьці, свайго баявога манэўраваньня, асабліва ўлічваючы магчымасьці выкарыстаньня штучных перашкод;

— падтрымкай контратакуючай групы сродкамі ПТА і забесьпячэньнем яе флянгаў і тылу ад магчымага ўдару наступных эшалёнаў танкаў атакі.

Варыянты дзействаў танкавай групы ў абароне могуць быць ілюстраваны наступным прыкладам (чарц. 13).

Пяхота і танкі праціўніка прарвалі абарончую паласу, часьці 1-га эшалёна адкінуты і затрымаліся на лініі: лес Круглы, гай Квадратны, в. Навалок. Часьці 2-га эшалёна ўтрымліваюць раён гара Высокая, гара Доўгая. Магчыма разьвіцьцё атакі праціўніка ў кірунках: а) паміж лесам Круглым і гарой Высокай, б) на в. Навалок. Плян абароны прадугледжвае кірункі контратак танкавай групы: а) ва флянг танкам, якія прарываюцца ў кірунку на лес Круглы, б) ва флянг танкам, якія прарываюцца ў кірунку на гай Квадратны.

Зборныя пункты для танкавай групы пасьля атакі назначаюцца за часьцямі 2-га эшалёна або ў раёне часьцей 1-га эшалёна за гаем Квадратны.

## ФАКТАРЫ, ВЫЗНАЧАЮЧЫЯ ХАРАКТАР ПРОЦІТАНКАВАЙ АБАРОНЫ

Характар процітанкавай абароны абумоўліваецца задачай, пастаўленай злучэньню, і абстаноўкай к моманту дзейства.

Тыпы танкаў, якія ёсьць на ўзбраеньні, стан войск, тактыка праціўніка ў канкрэтных умовах часу і месца вызначаюць узначнай ступені від, магчымасьць і умову танкавай атакі.

Умовы мясцовасьці, якія аказваюць уплыў на дзействы танкавых часьцей і ўжываньне процітанкавых сродкаў, пры ўважлівым вывучэньні даюць магчымасьць вызначыць:

— раёны і кірункі недаступныя для дзейства танкавых часьцей данага тыпу;

---

[1]) Калі танкі дададзены пяхотнай часьці, напрыклад палку, то ставіць задачы на контратаку танкаў камандзір палка.

— раёны і кірункі, перашкаджаючыя дзейству танкавых часьцей, але не выключаючыя магчымасьці танкавай атакі і наадварот, якія даюць зусім пэўныя выгоды ў адносінах ужываньня сродкаў процітанкавай барацьбы і ўмовы іх злучэньня;

— раёны і кірункі, спрыяючыя вядзеньню танкавай атакі.

Час, які ёсьць у распараджэньні таго, хто абараняецца, вызначыць характар абарончых работ і ступень выкарыстаньня розных процітанкавых сродкаў. Ва ўмовах абарончага бою з абмежаванай колькасьцю часу, які ёсьць у распараджэньні таго, хто абараняецца, процітанкавая абарона будзе галоўным чынам заснована на дзействе актыўных сродкаў барацьбы. У баёх абарончага характару, на фронце, які ўстанавіўся на доўгі час, злучэньне актыўных сродкаў з пасыўнымі атрымае найбольшае разьвіцьцё.



Чарц. 13.

Процітанкавыя сродкі, якія ёсьць у распараджэньні, вызначаць разьмеркаваньне іх па аб'ектах абароны, прымусяць адмовіцца ад другарадных задач. Нехапаючую шчыльнасьць агню абароны павінны папоўніць гібкасьць і рухомасьць яе.

Задачы, пастаўленыя суседзям, іх палажэньне і характар дзействаў акажуць уплыў галоўным чынам на арганізацыю забесьпячэньня сваіх флянгаў у адносінах пагрозы танкавай атакі з суседняга вучастку.

У рэзультаце ўразуменьня сваёй задачы, аналізу абстаноўкі, прынятая ідэя арганізацыі процітанкавай абароны набудзе выгляд пляну процітанкавай абароны.

Характар абароны і яе выгляд у залежнасьці ад спосабу дзействаў: 1) на фронце нармальнага працяжэньня, 2) на шырокім фронце і 3) у рухомай абароне—будуць розныя.

Далей мы разгледзім асаблівасьці процітанкавай абароны ў баёх на шырокім фронце і ў рухомай абароне, паколькі пры фронце нармальнага працяжэньня процітанкавая абарона мае магчымасьць атрымаць поўнае разьвіцьцё, аб якім гаварылася вышэй.

## АСОБНЫЯ ВЫПАДКІ ПРОЦІТАНКАВАЙ АБАРОНЫ

**На шырокім фронце.** Агульная абарончая паласа пры гэтым відзе абарончага бою не ствараецца, сіла абароны засноўваецца на супрацiўленьні ў асобных раёнах, якія перахоплiваюць важнейшыя кірункі руху праціўніка, і на ўзаемадзействе раёнаў паміж сабой і з ударнымі групамі, разьмешчанымі ззаду.

Аснова ўсёй абароны—батальённы раён. Недахоп агню ў прамежках паміж батальённымі раёнамі павінны папоўніць ударныя групы, на абавязку якіх ляжыць вядзеньне контратак і контрудараў па праціўніку, які прарваўся праз недастаткова абароненыя прамежкі.

Атакуючы будзе імкнуцца:

— зьнішчыць або нэйтралізаваць батальённыя раёны;

— парушыць сувязь і кіраўніцтва паміж батальённымі раёнамі;

— ня даць магчымасьці адысьці гарнізону батальённага раёну на новы рубеж.

Наяўнасьць танкаў у праціўніка вельмі палягчае выкананьне гэтых задач.

Таму задачай абароны будзе:

— у кожным батальённым раёне стварыць самастойную процітанкавую абарону;

— забясьпечыць правядзеньне пляну абароны, ня гледзячы на парушэньне сувязі і кіраўніцтва;

— забясьпечыць гарнізону батальённага раёна арганізаваны адыход.

Перш чым вырашыць даныя пытаньні, разгледзім, якой велічыні можа быць дапушчаны інтэрвал паміж двума батальённымі раёнамі.

Пры адсутнасьці ў праціўніка танкавых часьцей гэты інтэрвал вызначаўся магчымасьцю абстрэльваць флянгавым шрапнэльным агнём з аднаго батальённага раёну подступы да суседняга раёну абароны. Пры ўмове цеснай артылерыйскай сувязі велічыня яго не перавышае 5 км, пры шырокай—10 км. Пры наяўнасьці танкаў у праціўніка інтэрвал будзе вызначацца магчымасьцю гарматнага абстрэлу танкаў, якія прарываюцца ў прамежак паміж двума батальённымі раёнамі.

Пры сапраўднай дальнасьці процітанкавых гармат да 1 км прамежак не павінен перавышаць 2 км, пры гэтым агнявыя вучасткі процітанкавых сродкаў барацьбы двух суседніх раёнаў будуць толькі сутыкацца, але не перакрываць адзін аднаго сваім агнём.

Інтэрвал можа быць павялічаны толькі пры асабліва спрыяючых умовах мясцовасьці, недаступнай танкавым часьцям, або выстаўленьнем ахоўваючых часьцей, забясьпечаных процітанкавымі гарматамі ў прамежку паміж батальённымі раёнамі.

Гэтыя часьці разьмяшчаюцца на глыбіні да 1 км ад пярэдняга краю суседніх батальённых раёнаў. Такое палажэньне ства-

рае найбольш спрыяючыя ўмовы для стральбы процітанкавых гармат, набліжаючы курсавы вугал да 45°. Пры інтэрвале, перавышаючым сапраўдную дальнасьць процітанкавых гармат з суседніх раёнаў, неабходна прамежак, які не абстрэльваецца, запоўніць установкай процітанкавых фугасаў або зрабіць яго цяжка даступным для праходу танкаў.

Вырашэньне задач процітанкавай абароны пры гэтых умовах дасягаецца наступнымі мерамі:

— у састаў кожнага раёну ўключаецца артылерыя спэцыяльна для барацьбы з танкамі, раён адпаведна абсталёўваецца ў інжынэрна-тэхнічных адносінах, дадаюцца спэцыяльныя сродкі барацьбы:

— правядзеньне пляну процітанкавай абароны дасягаецца ўважлівым улікам найбольш магчымых кірункаў танкавых атак, рэзэрвам сродкаў, гібкасьцю і рухомасьцю абароны, ініцыятывай начальнікаў;

— забесьпячэньне адыходу гарнізонаў батальённых раёнаў дасягаецца выбарам і выведкай шляхоў адыходу ў кірунках, недаступных танкавым часьцям; стварэньнем перашкод, затрымліваючых рух танкаў; контрударам абароны, накіраваным для зьнішчэньня праціўніка, які прарваўся, і контратакамі з суседніх батальённых раёнаў.

Пры шырыні фронту абароны 20—24 км на дывізію ўдарная група дывізіі будзе мець прыкладна наступны састаў:

— 1—2 батальёны пяхоты на грузавіках;

— 2—3 батарэі артылерыі, якая возіцца на мэханічнай цязе;

— група для ўстаноўкі процітанкавых мін і фугасаў на аўтамабілях з запасам процітанкавых мін і фугасаў для ўстаноўкі дадатковых загарод пасьля выяўленьня кірунку атакі праціўніка.

Толькі ўладаючы рухомасьцю, ня меншай 8—10 км у гадзіну, ударная група здолее, знаходзячыся ў 12 км за цэнтрам фронту, які абараняецца, сваячасова пасьпець на любы з флянгаў і не ператварыцца ў рэзэрв мясцовага значэньня.

**Пры рухомай абароне.** Рухомая абарона складаецца з абарончых баёў, якія не даводзяцца да канца і суправаджаюцца адыходам і замацаваньнем на наступных рубяжох. Праціўнік будзе імкнуцца:

— скаваць пяхотнымі часьцямі абарону на першым рубяжы;

— абхапіць флянгі таго, хто абараняецца, рухомымі часьцямі, перарэзаць вось адыходу на наступны рубеж.

Выкарыстаньне праціўнікам для гэтай мэты мэханізаваных і матарызаваных часьцей значна спрашчае яго задачу.

Для працідзейства гэтаму з боку таго, хто абараняецца, павінны ўжывацца наступныя меры:

— выбіраць рубяжы для абароны з забясьпечанымі натуральнымі перашкодамі флянгамі, шырокім аглядам і абстрэлам у бок праціўніка і са скрытнымі шляхамі адыходу;

— пяхотныя часьці павінны займаць рубяжы так, каб пасьля адыходу часьцей 1-га эшалёна часьці 2-га эшалёна, якія застаюцца на рубяжы, мелі забясьпечанае артылерыйскае назіраньне;

— для папярэджаньня адыходу флянгаў мэханізаванымі часьцямі вылучаюцца рухомыя бакавыя атрады з артылерыяй, якія рухаючыся паралельна восі адыходу на ўступе назад, прыкрываюць флянг вайсковага злучэньня;

— подступы, небясьпечныя ў адносінах прарыву танкавых часьцей у тыл, перахопліваюцца назіраньнем і ўстаноўкай нярухомага ахваньня з даданьнем яму процітанкавых сродкаў.

Сваячасовы адыход і заняцьце артылерыяй пасьлядоўных рубяжоў у тыл у дасягаецца:

— адводам батарэй у групах і гармат у батарэях перакатамі;

— сваячасовай артылерыйскай выведкай раёну дзействаў на наступным рубяжы;

— выведка, вылучаная на флянгі, павінна папярэдзіць аб падыходзе мэханізаваных часьцей праціўніка да набліжэньня іх на 3—5 км да флянгу;

— па *сыгнале „трывога“* частка артылерыі абароны павінна быць гатова да вядзеньня агню па мэханізаваных часьцях, выяўленых на пагражальным кірунку.

Гаворачы аб дзействах танкаў у рухомай абароне, неабходна адзначыць, што баявое выкарыстаньне іх можа набыць наступныя формы:

— самастойныя контрудары і контратакі;

— дзейства ў саставе ўдарных груп і ўзаемадзейства з імі;

— дзейства супроць бронячасьцей праціўніка.

Разглядаючы дзействы войск у рухомай абароне па этапах бою—бой уперадзе перад пярэднім краем абарончай паласы, выхад з бою і прыкрыцьце яго, замацаваньне і бой на рубяжы, які абараняецца,—мы прыходзім да вываду, што самастойныя дзействы танкавых груп абароны будуць мець месца галоўным чынам пры дзействе ўперадзе перад рубяжом, які абараняецца, з мэтай расстроіць групоўку праціўніка і выйграць час, і ў глыбіні абароны—з задачай прыкрыцьця выхаду з бою. Характэрным для абодвых выпадкаў будзе адсутнасьць неабходнасьці ўтрымліваць мясцовасьць, якая вызначаецца асаблівасьцямі дзействаў танкавых груп і характарам этапаў бою. Дзействы танкаў у сувязі з ударнымі групамі і ў саставе іх знойдуць сваё месца ў пэрыяд бою за часовае ўтрыманьне паласы, якая абараняецца. Характар дзейства—кароткія контратакі ў флянг часьцям праціўніка, якія прарваліся.

Агульнавайсковы начальнік пры распрацоўцы пляну рухомай абароны ставіць задачы танкаваму камандзіру па этапах бою.

Чакальныя пазыцыі для танкаў, супадаючы з пунктам іх згрупаваньня, павінны забясьпечваць магчымасьць дзействаў з глыбіні.

Выходныя пазыцыі назначаюцца ў сувязі з магчымымі варыянтамі дзействаў.

Зборныя пункты ў залежнасьці ад характару дзействаў, галоўным чынам глыбіні ўдару танкавай групы, могуць быць у раёне выходных пазыцый пры кароткіх ударах і на наступным абарончым рубяжы—пры самастойным дзействе танкавых груп.

У заключэньне неабходна сказаць, што ў гэтым відзе абарончага бою шырокае ўжываньне павінны атрымаць: служба загародаў, заўчасная падрыхтоўка наступных рубяжоў абароны, дзейства штурмавой і бамбардзіровачнай авіяцыі.

## АРГАНІЗАЦЫЯ ПТА І ГРУПОЎКА СРОДКАЎ

Узгадненьне баявой дзейнасьці ўсіх родаў войск, накіраванай супроць танкаў, ажыцьцяўляецца ў пляне процітанкавай абароны. Асноўная работа, якая праводзіцца перад распрацоўкай пляну ПТА, будзе заключацца ў вызначэньні найбольш пэўных кірункаў танкавых атак. Пры заўчасным выбары абарончай паласы неабходна праглядзіць рэльеф яе з боку праціўніка, што ў значнай ступені палегчыць вызначэньне танканебясьпечных кірункаў. Вывучэньне карты і наступная рэкагнасцыроўка мясцовасьці дапамогуць устанаўленьню выгоднага рэльефу пярэдняга краю абарончай паласы.

Гэты рэльеф вызначаецца наяўнасьцю натуральных процітанкавых перашкод, палягчаючых агнявую ПТА на пярэднім краю або-ж зусім здымаючых пытаньне аб магчымасьці танкавай атакі.

Рэзультат рэкагнасцыроўкі дасьць комплекс зьвестак, неабходных для прыняцьця рашэньня па арганізацыі ПТА. Будуць вылучаны вучасткі абароны, якія не патрабуюць спэцыяльных процітанкавых мерапрыемстваў, і намечаны магчымыя кірункі танкавых атак праціўніка, якія трэба будзе забясьпечыць актыўнымі сродкамі ПТА, ствараючы „працітанкавыя калідоры“ на танканебясьпечных кірунках.

Відавочна, што разьлічваць на колькасьць сродкаў ПТА, здольную забясьпечыць ад урываньня танкаў увесь вучастак абароны, нельга. Дзейнасьць начальніка па арганізацыі ПТА павінна быць накіравана на згрупаваньне сродкаў у рашаючых кірунках і ўзаемадзейства гэтых сродкаў з часьцямі баявога парадку.

Асобай, якая можа вырашыць гэтыя пытаньні, будзе агульнавайсковы начальнік; таму ён арганізуе і адказвае за процітанкавую абарону. У палку гэта будзе камандзір палка, у батальёне—камандзір батальёна (ПС 29 § 265).

Плянавасьць процітанкавай абароны і ўзгадненьне яе з ідэяй рашэньня агульнавайсковага начальніка патрабуюць пры нармальных умовах абарончай дзейнасьці войск, цэнтралізацыі процітанкавай абароны ў руках старшага агульнавайсковага начальніка. Дэцэнтралізацыя прыводзіць да распыленьня сродкаў і не гарантуе ўстойлівасьці абароны. Дэцэнтралізацыя мерапрыемстваў і сродкаў ПТА можа мець месца пры адсут-

насьці часу і барацьбе на шырокім фронце, але і тут старшы вайскавы начальнік абавязаны ўзгадніць мерапрыемствы, якія аб'ядноўваюць процітанкавае мерапрыемства часьцей, што абараняюцца, забясьпечваючы этым прынятае рашэньне.

Вынікаючая з агульнай ідэі рашэньня групоўка сродкаў ПТА павінна адказваць наступным асноўным умовам:

— большая колькасьць сродкаў процітанкавай барацьбы выкарыстоўваецца і разьмяшчаецца на вучастках і кірунках, зручных для танкавай атакі, або на флянгах гэтых кірункаў (артылерыя);

— меншая колькасьць назначаецца на вучасткі, маладаступныя для дзействаў танкавых часьцей;

— раёны, недаступныя для танкавай атакі, дзе пяхота можа весьці барацьбу сваімі сродкамі, забясьпечваюцца з флянгаў;

— злучэньне сродкаў і групоўка іх не павінны быць шаблённымі, каб зрабіць цяжэйшымі для праціўніка прыёмы барацьбы з імі;

— старанная маскіроўка заўсёды неабходна.

Сыстэма ПТА аб'ядноўвае ў дзействе рухомыя сродкі ПТА: танкі, бронямашыны, самаходную артылерыю—з нярухомымі сродкамі ПТА, якія ўключаюць злучэньне натуральных і штучных перашкод з агнявымі сродкамі. Узаемадзейства сродкаў ПТА па фронце на вучастку процітанкавай абароны і ўзаемадзейства сродкаў ПТА ў глыбіню можа быць азначана так:

**Узаемадзейства сродкаў ПТА па фронце (падзел на вучасткі пасыўныя і актыўныя)**

| Пасыўны вучастак | Актыўны вучастак |
|---|---|
| Прасьцейшыя штучныя перашкоды з невялікім лікам гармат і мін, як сродкі ўзмацненьня натуральных перашкод | Міны ПТА, гарматы ПТА, танкі |

| Раён | Сродкі |
|---|---|
| 1. Пярэдні край | Перашкоды, міны, кінжальныя гарматы |
| 2. Глыбіня батальённых раёнаў 1-га эшалёна | Адсекі, палкавыя агнявыя сродкі |
| 3. Глыбіня палкавога вучастка | Батарэі, танкі, адсекі |
| 4. 2-гі эшалён дывізіі | 1. Міны, тыльная граніца ПТА<br>2. Агнявыя сродкі палка 2-га эшалёна<br>3. Танкі<br>4. Броня-арт. сродкі даданых матамэхчасьцей |

Перад арганізацыяй ПТА праводзіцца выведка праціўніка, мясцовасьці і раёну ў адносінах выкарыстаньня мясцовых сродкаў.

*Выведка праціўніка* будзе мець задачай вызначэньне: разьмяшчэньня, саставу, стану, тыпаў танкаў праціўніка і магчымасьці іх ужываньня. У працэсе самой абароны выведка будзе імкнуцца выявіць падрыхтоўчыя работы праціўніка да правядзеньня танкавай атакі.

*Выведка мясцовасьці* ўключае ў сябе: вызначэньне небясьпекі розных частак раёну і ўсёй паласы дзействаў злучэньня ў адносінах танкавай атакі; устанаўленьне раёнаў, найбольш зручных для разьмяшчэньня процітанкавых сродкаў барацьбы, пастоў спэцыяльнага процітанкавага назіраньня (ПТН) і трывогі.

*Выведка мясцовых сродкаў* пакажа, якія мясцовыя сродкі і ў якой ступені могуць быць выкарыстаны для мэтаў ПТА (рэйкі, бярвеньне і г. д.).

Сваячасовыя і поўныя даныя выведкі забясьпечаць прыняцьце рашэньня па ПТА агульнавайсковым начальнікам.

## РАСПРАЦОЎКА ПЛЯНУ ПТА

На падставе ідэі рашэньня камандзіра дывізіі (палка) і даных ім указаньняў па ПТА начальнік штаба дывізіі (палка) дае заданьне і робіць указаньні па распрацоўцы пляну ПТА першаму памочніку начальніка першай часткі штаба дывізіі. Звычайна ўказаньні будуць уключаць:

— рашэньне камандзіра дывізіі па ПТА; пажаданую групоўку сродкаў ПТА і асаблівасьці выкарыстаньня іх на пярэднім краю і ў глыбіні абарончай паласы;

— указаньні па арганізацыі процітанкавых атак;

— узгадненьне мерапрыемстваў па ПТА са штабам артпалка, дывізійным інжынэрам, камандзірам танкавай часьці пры наяўнасьці танкаў абароны;

— тэрмін выкананьня работы;

— рэзультат работы першай часткі штаба дывізіі будзе заключацца ў распрацоўцы схэмы або рабочай карты ПТА, папярэдніх распараджэньнях па ПТА і пляне ПТА.

Плян уключыць у сябе разьмеркаваньне сіл і сродкаў, пастапоўку задач і ўказаньні па ПТА. Плян ПТА ў частцы выкарыстаньня артылерыі знаходзіць свой адбітак у артылерыйскіх плянавых табліцах агню.

*Схэма ПТА* ўключае ўсе разьлікі па ПТА. На яе абавязкова наносяцца: чакаемыя кірункі танкавых атак, натуральныя і штучныя перашкоды ПТА, разьмяшчэньне актыўных процітанкавых сродкаў, іх агнявыя сэктары і палосы, разьмяшчэньне сваіх пяхотных часьцей. Гэта схэма да складаньня пляну ПТА дакладваецца начальніку першай часткі або начальніку штаба дывізіі.

*Плян ПТА* ўключае разьмеркаваньне сіл і сродкаў, пастаноўку задач і ўказаньні выканаўцам па ПТА. Ён замацоўваецца ў форме табліцы.

Ніжэй падаюцца дзьве формы табліцы. Першая форма складзена па азнацы „раяніраваньня" абарончай паласы—гарызантальныя графы і „дыфэрэнцыяцыі" сродкаў і спосабаў ПТА—вэртыкальныя графы. Другая форма складзена па азнацы разьмеркаваньня функцыі ПТА па родах войск—вэртыкальныя графы.

Першая форма (старонка 54.) менш кампактная, але дае поўную карціну ПТА кожнага вучастку і раёну з указаньнем колькасьці сродкаў ПТА. Другая форма (старонка 60.) больш кампактная і выгодная тым, што групуе ўсе распараджэньні, якія адносяцца да аднэй часьці, у асобную графу, чым палягчае ўразуменьне задачы выканаўцам. Значным недахопам другой формы зьяўляецца тое, што яна наглядна не паказвае карціны забесьпячэньня вучасткаў сродкамі ПТА.

## АСАБЛІВАСЬЦІ РАБОТ ПА АРГАНІЗАЦЫІ ПБА

Асноўны пералік работ, якія ўваходзяць у арганізацыю ПБА, будзе ўключаць:

У дывізіі:

— выбар або ўдакладненьне пярэдняга краю абарончай паласы;

— устанаўленьне мінных загародаў па пярэднім краі і адсеках;

— узмацненьне палкоў сродкамі ПБА для выкарыстаньня на танканебясьпечных кірунках;

— выкарыстаньне сродкаў ПБА 2-га эшалёна;

— выкарыстаньне дадаными танкаў (узмацненьне ўдарных груп палкоў, асобныя контрударныя групы);

— выкарыстаньне мата-і мэхчасьцей (рухомы рэзэрв ПБА), дадаными дывізіі (корпуса) для барацьбы з танкамі, якія прарваліся;

— задачы артылерыі ПП па барацьбе з танкамі;

— указаньні палкам аб сыстэме ПБА ў розных раёнах;

— задачы сапёрным ротам.

У палку:

— удакладненьне пярэдняга краю абарончай паласы;

— вызначэньне „процітанкавых калідораў".

— расстаноўка агнявых сродкаў і мін;

— задачы артылерыі ПП;

— пабудова штучных перашкод;

— задачы танкам абароны і ўстанаўленьне ўзаемадзейства з артылерыяй.

У батальёне:

— расстаноўка кінжальных гармат;

— пабудова прасьцейшых штучных перашкод;

— меры захаваньня жывой сілы;

— выкананьне задач, пастаўленых камандзірам палка.

## НАЗІРАНЬНЕ, СУВЯЗЬ І КІРАЎНІЦТВА Ў СЫСТЭМЕ ПТА

Для таго, каб абарона магла сваячасова рэагаваць на танкавую атаку праціўніка, неабходна мець добра арганізаваную сыстэму назіраньня, сувязі і апавяшчэньня. Асаблівасьці іх будуць заключацца ў наступным,

**Назіраньне.** Назіраньне ўперадзе перад абарончай паласой павінна забясьпечваць прагляд перад пярэднім краем на 1,5—2 км у глыбіню. Сэктары назіраньня павінны перакрываць раёны магчымых выходных пазыцый танкаў, вызначаных рэкагнасцыроўкай.

Пасты назіраньня, выстаўленыя ў раёнах рот 1-га эшалёна, узмацняюцца „слухачамі", бо згрупаваньне танкавых часьцей на выходных пазыцыях у залежнасьці ад сыстэмы матэрыяльнай часткі танкаў можа быць выяўлена па характары шума вусеніц за 1—1,5 км.

У глыбіні абарончай паласы на танканебясьпечных кірунках павінны быць выстаўлены назіральнікі. Асновай сеткі ПТН зьяўляецца артылерыйская сетка камандных і назіральных пунктаў, узмоцненая пастамі ад пяхотных часьцей, паводле пляну ПТА.

На ўсіх батарэях абароны павінна быць арганізавана „бліжняе кругавое назіраньне", якое забясьпечвае самаабарону батарэй ад танкаў. Гэта назіраньне ўстанаўліваецца як з агнявой пазыцыі батарэі, так і з перадкоў. У тылавой зоне на танканебясьпечных кірунках неабходна мець пасты ПТН; разьлік назіральнікаў займае іх па сыгнале „танкавая трывога".

**Сувязь і кіраўніцтва.** Магчымасьць прарыву танкаў у глыбіню абарончай паласы прад'яўляе свае патрабаваньні да камандных і назіральных пунктаў абароны; месцы пунктаў пажадана выбіраць у раёнах, маладаступных для танкаў або вельмі перашкаджаючых іх дзейству; забясьпечваць пункты ў інжынэрна-тэхнічных адносінах, шырока ўжываючы палявыя збудаваньні з цэмэнту, які хутка цьвярдзее, з гафрыраваным жалезам; ужываць агнявое забесьпячэньне камандных пунктаў у выглядзе спэцыяльных процітанкавых гармат.

Пры адсутнасьці сродкаў спэцыяльнага абсталяваньня неабходна капаць акопы для асоб, абслугоўваючых пункты, з заломам у выглядзе вузкіх шчылін, выключаючых магчымасьць флянгавага абстрэлу ўдоўж акопу.

Выкарыстаньне „сьлепаты" танка павінна знайсьці сваё ўжываньне ў стараннай маскіроўцы.

Прынятыя меры не выключаюць магчымасьці зьнішчэньня танкамі атакі раду камандных і назіральных пунктаў, таму неабходна загадзя намеціць і абсталяваць запасныя КП і НП і мець плян займаньня іх па этапах бою.

Трэба лічыць, што такіх пунктаў на кожны этап бою будзе намечана 2, 3. Этапы бою намячаюцца наступныя: а) барацьба за пярэдні край, б) барацьба ў глыбіні абарончай паласы.

Прыкладная форма плянавай табліцы ПТА 1 с. д.

| Вучасткі і раён | Інжынэрныя мерапрыемствы | Артылерыйскія мерапрыемствы ПТА | | Бранявыя сродкі ПТА | Меры захаваньня жывой сілы |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Спэцыяльныя сродкі ПТА: 37-мм (батальённыя пушкі) і 76-мм (палкавая артылерыя) | Звычайныя артсродкі 76—122-мм батарэі | | |
| Вучастак 1 с. п. | Указваюцца: сродкі, якія знаходзяцца на вучастку, раёне; раёны работ | Сродкі, якія знаходзяцца на вучастку, раёне, месца сродкаў ПТА; задачы сродкаў ПТА, норма насычэньня сродкамі ПТА вызначаных вучасткаў, раёнаў; ад каго дадзены сродкі і колькі | Загараджальны агонь па зонах Падтрымка контратак броневых груп | Раён разьмяшчэньня; кірунак контратак | Акопы укрыцьце ў гаёх, населеных пунктах |
| Вучастак 2 с. п. | Характар работ; хто праводзіць работы | Задачы па этапах бою | Задачы па этапах бою | | |
| Вучастак 3 с. п. | Ад каго дадзены сродкі і колькі | | | | |

Час на арганізацыю ПТА „ “ сутак, гатоўнасьць ПТА к „ “ гадзінам.

**Заўвагі:** Пералік зьяўляецца арыентыровачным.
Указаньні па сувязі і службе ПТ трывогі даюцца ў дадатку або асобнай графой.
Такой табліцы можа і ня быць, штаб можа абмежавацца распараджэньнем па ПТА для асобных выканаўцаў і схэмай ПТА (на рабочай карце).

Надзейнасьць сувязі і апавяшчэньня дасягаецца як дубліраваньнем гэтай сувязі, так і радам спэцыяльных мерапрыемстваў, вынікаючых з магчымасьці прарыву танкаў. Драцяная сувязь праводзіцца па кірунках, маладаступных для танкаў; гэтым павялічваецца выдатак дроту, бо кірункі, недаступныя для танкаў, могуць не супадаць з карацейшымі.

Для забесьпячэньня лініі ад парыву вусеніцай танка яе неабходна зазямляць на ўсім працягу; асабліва гэта будзе адносіцца да ліній, якія ідуць удоўж фронту абароны. Падвешваньне ліній, якое практыкуецца, павінна ўлічваць вышыню танка, што не гарантуе зьнішчэньня лініі шляхам звальваньня шастоў. Патрабаваньні да разьмяшчэньня вузлоў сувязі тыя-ж, што пералічаны для камандных пунктаў. Шырокае ўжываньне ў якасьці дублюючых сродкаў сувязі павінны атрымаць сьветасыгнальныя прыборы і прасьцейшая сыгналізацыя флажкамі. Вялікую карысьць па вопыту вучэньняў для гэтай-жа мэты дасьць выкарыстаньне радыё-тэлефону ў палку і зьвязных сабак унутры батальёна. Для апавяшчэньня ўстанаўліваюцца сыгналы „танкавая трывога“ і „танкавая атака“. Сыгнал перадаецца без чаргі ракетамі і па тэлефоне.

Сыгнал сьветавымі ракетамі, які даецца пастамі ПТН па выяўленьні танкавай атакі, бязумоўна будзе найбольш шпаркім для перадачы, але патрабуе прамога і непасрэднага назіраньня. Тэлефонная сувязь зьяўляецца ў момант паведамленьня аб танкавай трывозе толькі дапаўняючай, паколькі вельмі важна выкарыстаць кароткі прамежак часу, у які танкі пройдуць адлегласьць ад выходных пазыцый да пярэдняга краю абарончай паласы.

## ПРОЦІТАНКАВАЯ БАРАЦЬБА СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ ПРЫ АБАРОНЕ

## (Тактычны прыклад)

### Абстаноўка і ўказаньні па арганізацыі ПТА (чарц. 14-16)

З загаду па 1 с. п к граніцы 12. 6, 30 у штабе 1 с. д. было вядома, што па даных паветранай і агентурнай выведкі ад 11. 6 каля Беластоку згрупаваліся буйныя конныя часьці праціўніка ў раёнах Лявіцкая, Растаўцы Навасады—пяхота з артылерыяй; Жвіркі, Заблудава, Яфрэмавічы—пяхота і танкі.

Ударная група чырвоных, якая згрупавалася у раёне Гродна 50 км на поўнач усходнюю ад Кузьня), мае задачай 15. 6. 30. перайсьці ў паступленьне ў Беластокскім кірунку. Згрупаваньне прыкрываецца нашай коньніцай, высунутай да ракі Супрасьль, якая (коньніца) сутыкаецца з коньніцай праціўніка.

У апошні час праціўнік праяўляе ажыўленьне на ўсім фронце, што дае падставу меркаваць аб падрыхтоўцы пераходу ў наступленьне. У паветры пануе авіяцыя праціўніка.

Камандаваньне чырвоных, улічваючы магчымасьць удару праціўніка ў Гродненскім кірунку да сканчэньня згрупаваньня чырвоных, паставіла задачу I с. к. забясьпечыць Гродненскі кірунак абаронай рубяжу р. Сідорка, р. Прорва, Адэльск. Дывізіі павінны да раніцы 13.6 заняць абарончыя палосы, як паказана на карце. Забесьпячэньне стыку з 5 с. д. ускладзена на I с. д., стык зьлева забясьпечвае 3 с. д.

Тылавы рубеж па лініі вышынь 87,0—94,1—114,0 (усе вышыні на поўнач усходнюю ад Кузьня ад 3 да 5 км).

I с. д. пасьля 30 км маршу згрупавалася ў лесе на поўнач і на ўсход ад вёскі Струпка.

Штадыв I—в. Струпка.

У 8⁰⁰ 12.6.30. начальнік штаба I с. д., вярнуўшыся з асабістай рэкагнасцыроўкі з камдывам абарончай паласы, выклікаў першага памочніка начальніка першай часткі штаба дывізіі і даў яму наступныя ўказаньні:

„Камандзір дывізіі рашыў ноччу на 13.6 заняць указаную дывізіі абарончую паласу, выведку скончыць сёньня 14⁰⁰. Разьмеркаваньне палкоў відаць з чарцяжу 14. Артылерыя ўтварае дзьве групы ПП: правая—I с. п., III дывізіён артпалка і артылерыя I с. п.; левая—2 с. п., I і II дывізіёны артпалка і артылерыя 2 с. п. Апрача таго ў распараджэньне начальніка артылерыі дывізіі 13.6 паступае броняпоезд № 6, узброены чатырма 76-мм гарматамі.

Рашэньне камандзіра дывізіі па ПТА заключаецца ў наступным:

1. Забясьпечыць стыкі з 5 і 3 с. д., у адносінах перашкоджаньня праніканьню танкаў з вучасткаў суседзяў.

2. Прарыў танкаў павінен быць спынены да дасягненьня імі рубяжу 92,6—93,1—104,0—106,9, бо выхад іх на ўказаны рубеж ставіць пад пагрозу зрыву дзействы ўдарных груп палкоў і дывізіі.

3. Згрупаваньне сродкаў ПТА на вучастку I с. п.

4. Забясьпечыць нанясеньне контрудару ўдарнай групы дывізіі ў кірунках: 1) 92,6—Стараўляны, 2) 108,0—ак. Бельвіны.

5. Пяхоце пры сваім разьмяшчэньні пакідаць незанятымі палосы, дазваляючыя артылерыі весьці абстрэл танкаў, якія прарываюцца ў глыбіню і перамагаюць або абыходзяць перашкоды. У межах дывізіі такой выгоднай паласой будзе паласа перад вышынямі 93,2—93,1, I—104,0—106,9, калі танкі, перайшоўшы праз пярэдні прыкрываючы грэбень вышынь 87,0—83,6,—92,1—102,5, у значнай ступені пазбавяцца магутнай падтрымкі артылерыі атакі.

6. Інжынэрнае абсталяваньне мясцовасьці і дзейства артылерыі ў сыстэме ПБА ўзгадняць з дывізійным інжынэрам і штабам артпалка. Вам распрацаваць і далажыць мне 13.³⁰ схэму і плян ПТА“.

## Работа першай часткі штаба дывізіі

Памочнік начальніка першай часткі, атрымаўшы ўказаньні начштадыва, усьвядоміў задачу наступным чынам.

Неабходна арганізаваць процібронявую абарону на фронце 9—10 км, абарона ўпартая на працягу 4—5 сутак. Для арганізацыі абароны мы маем часу каля 2 сутак з сёнешнім днём, які можна выкарыстаць для падрыхтоўчых работ, выведкі і распрацоўкі пляну абароны.

Процібронявую абарону стыкаў з 5 і 3 с. д. неабходна ўзгадніць з начальнікамі штабаў указаных дывізій.

Арганізацыя процібронявай абароны прымушае вывучыць мясцовасьць з мэтай: 1) вызначэньне танканебясьпечных кірункаў, 2) рубяжу, які дае выгодныя ўмовы для ўстаноўкі перашкод, выкарыстаньня агню процітанкавых сродкаў перад пярэднім краем абарончай паласы, 3) удакладненьне рубяжу, які дае выгодныя ўмовы для ўстаноўкі перашкод і выкарыстаньня агню процітанкавых сродкаў у глыбіні абарончай паласы на адваротных спадах, захаваных адназіраньня праціўніка, 4) вызначэньне ўмоў барацьбы на ўказанай дывізіі тылавой паласе, 5) устанаўленьне сыстэмы назіральных камандных пунктаў, забясьпечваючых надзейнасьць і бесьперапыннасьць процібронявага назіраньня.

Узгадніўшы пытаньне аб часе выведкі абарончай паласы з начальнікамі штабоў палкоў, памочнік начальніка першай часткі штаба дывізіі паставіў ад імя наштадыва перад штабамі 1 і 2 с. п. задачы ўстанавіць:

1. Раёны і кірункі, выключаючыя ўжываньне танкаў, зьвярнуўшы ўвагу на раён перад пярэднім краем абарончай паласы і на праходнасьць балоцістых рэчак Валькуша і Прорва для танкаў сыстэмы Рэно „мадэрнізаваны“, якія па даных ёсьць у праціўніка; у глыбіні абарончай паласы—на сыстэму вышынь 104,0—106,9,—108,0 (круцізну спадаў).

2. Раёны і кірункі, перашкаджаючыя ўжываньню танкаў і патрабуючыя асобных мерапрыемстваў для іх ужываньня: гаі, населеныя пункты, правыя прытокі р. Ласосна.

3. Раёны і кірункі, выгодныя для ўжываньня танкаў па разьмяшчэньні выгодных пазыцый супроць аб'ектаў атакі, у прыватнасьці раёны в. Валь-




Чарц. 14.

куша, Паўлаўцы, ак. Белаблоцкая на правым флянгу і Канятовічы, ак. Пуцылка, ак. Бельвіны—на левым.

4. Раёны і рубяжы, зручныя для выкарыстаньня агнявых процітанкавых сродкаў, зьвярнуўшы ўвагу на сыстэмы вышынь: 1) 87,0—89,2—83,6; 2) 92,6—93,1—104,0—106,9, якія даюць пэўныя выгоды для арганізацыі агнявога супрацьдзеяньня перад пярэднім краем абарончай паласы і ўнутры яе на глыбіні разьмяшчэньня ўдарных груп танкаў.

Штабу 3 с. п. абсьледваць кірунак дзействаў ударнай групы дывізіі з мэтай устанавіць, якое мерапрыемства неабходна для забесьпячэньня яе дзействаў у выпадку прарыву танкаў на фронце 5 с. д. у кірунку на Агулец-Кузьня і 3 с. д. на ак. Бельвіны—108,0. Выведку скончыць к 13 гадзінам 12.6.

Асабіста памочнік начальніка першай часткі парашыў агледзіць мясцовасьць і азнаёміцца з папярэднім краем абарончай паласы на вучастку 1 с. п. з характарам абарончай паласы з вышынь 93,1—104,0—106,9. У раёнах вышынь 93,1 і 92,1 ім быў узгоднены час сустрэчы з адпаведнымі начальнікамі штабаў палкоў для вырашэньня раду пытаньняў на месцы.

## Ацэнка мясцовасьці, разьлік сродкаў і распрацоўка пляну ПТА

Вывучэньне карты, азнаямленьне з рэзультатамі выведак палкоў і асабістая рэкагнасцыроўка прывялі памочніка начальніка першай часткі штаба дывізіі да наступных вывадаў па ацэнцы мясцовасьці і ажыцьцяўленьня пляну ПТА.

## Мясцовасьць перад пярэднім краем абарончай паласы дывізіі

Раёнаў і кірункаў, выключаючых магчымае ўжываньне танкаў, няма. Рух танкаў будзе цяжкім пры пераходзе імі р. Валькуш супроць вучастку в. Валькуша, дзе балацістая лагчына ракі месцамі цяжка даступная і для пяхоты. Праціўнік можа выкарыстаць для сябе рад выходных пазыцый, разьмешчаных ад 300 да 1000 м ад пярэдняга краю: 1) в. Валькуша, 2) ф. Валькуш, 3) ак. Белаблоцкая, 4) Панятовічы, 5) ак. Бельвіны. Пазыцыі маюць рад масак, захоўваючых танкі ад наземнага і паветранага назіраньня, бліжэйшыя подступы да іх з боку г. Саколка намі не праглядаюцца. Раёны Паўлаўцы, лес на поўдзень заходні ад Задвораны, ф. Кузін, касьцёл Кудзін, Арловічы, ак. Пуцылкі—даюць рад чакальных пазыцый для танкаў на адлегласьці 2—5 км ад пярэдняга краю абарончай паласы. Заняць іх днём цяжка, бо подступы да іх праглядаюцца з нашага разьмяшчэньня.

**Вывады:** 1. Умацніць пярэдні край абарончай паласы ўстаноўкай процітанкавых фугасаў у дроце супроць найбольш блізка разьмешчаных раёнаў магчымых выходных пазыцый танкаў—в. Валкуша, в. Панятовічы.

2. Магчымыя выходныя пазыцыі танкаў узяць пад згрупаваны арт. агонь груп ПП.

3. Высечы хмызьнях паміж ф. Валькуш і ак. Белаблоцкая. Хмызьняк на поўнач ад ак. Пуцылкі і ак. Бельвіны заразіць устойлівымі АМ.

## Вучастак па пярэдняму краю абарончай паласы

Ёсьць маладаступныя раёны для танкаў, зручныя для арганізацыі ПТА або скарачаючыя фронт актыўнай процітанкавай абароны. Сюды адносяцца: 1) раён вышыні 89,2 з крутымі спадамі, маладаступнымі для танкаў, 2) раён вышыні 83,6 з крутымі спадамі і гаем, 3) балацісты раён р. Ласосна (на ўсход ад вышыні 83,6), 4) спады 92,1 з прылягаючымі вёскамі Парчэўцы і Чапялі.

Такім чынам фронт вучасткаў, маладаступных і недаступных для танкаў у паласе дывізіі складзе 3—3,5 км, астатняе працяжэньне—6,5—7 км прыпадзе на актыўны фронт ПТА.

Правы фланг дывізіі неабходна забясьпечыць перахопам лагчыны, якая ідзе паміж вышынямі 87,0 і 83,4, узгадніўшы пытаньне з суседзямі; левы забясьпечваецца 3 с. д.

Такім чынам актыўны фронт ПТА ў асноўным будзе складацца з пяці вучасткаў, якія павінны быць ператвораны ў процітанкавыя калідоры 1, 2, 3, 4, 5 (чарц. 15).

**Вывады:** 1. Пасыўны вучастак узмацніць прасьцейшымі штучнымі перашкодамі, сродкамі палкоў.

2. Актыўныя ўзмацніць міннымі палямі.

3. Рубеж вышынь 87,0—89,2—83,6—92,1 зьяўляецца асноўным для барацьбы за пярэдні край.

## У глыбіні абарончай паласы

Натуральнай перашкодай для руху танкаў зьявіцца р. Ласосна шырынёй да 3 м, глыбінёй больш за 1 м (на ўсход ад вышыні 83,6), якая стварае натуральную адсечную перашкоду паміж палкавымі вучасткамі. Звужае дзействы танкаў раён вышыні 92,6 з прылягаючым лесам і раён вышынь 104,0—106,9, які мае круцізну спаду большую за 35°.

**Вывад:** 1. Тыльная граніца ПТА—рубеж 92,6—93,1—104,0—106,9.

2. Сродкамі палка 2-га эшалёна—барацьба з танкамі, якія праравяліся.

3. Агонь броняпоезда выкарыстаць для барацьбы ў глыбіні абарончай паласы на вучастку 1 с. п.

4. Для забесьпячэньня дзейства ўдарнай групы дывізіі з раёну Кузьня ў кірунку 92,6—Стараўляны неабходна забясьпечыць за сабой лес, што на поўнач ад Агулец, і вышыню 93,2.




Чарц. 15.

Для забесьпячэньня дзейства цераз вышыню 108,0—ак. Бельвіны неабходна забясьпечыць за сабой раён 104,0—106,9—108,0, ф. Устроне. Уладаньне гэтым раёнам дазволіць трымаць пад агнём стык паміж 1 і 3 с. д.

**Агульныя вывады:** Абарона пярэдняга краю дывізійнай паласы пры выкарыстаньні рубяжу 87,0—83,6—92,1—95,0—102,5 галоўным чынам будзе пабудавана на дзействе батальённай артылерыі.

Кінжальныя гарматы з батарэй ПА высунуць на флянгі найбольш пагражальных кірункаў. Разьмяшчэньне артылерыі груп ПП, у прыватнасьці 76-мм батарэй, павінна даць магчымасьць адкрыцьця агню па танках, якія будуць прарывацца, перад рубяжом 92,6—93,1—104,0—106,9 з асноўных пазыцый.

Для забесьпячэньня контрудару ўдарнай групы дывізіі ў выпадку прарыву танкаў, дывізіёну 3 с. п. даць адпаведныя вучасткі, якія будуць забясьпечваць разгортваньне ўдарнай групы. Такімі будуць: на правым флянгу 93,2—83,4—87,0—Агулец і на левым флянгу ф. Устроне, 108,0, ак. Толчы, паўночназаходні край ур. Урба.

Бліжняе назіраньне ажыцьцяўляецца высоўваньнем перадавых назіральных пунктаў на лінію вышынь 87,0—89,2—83,6—92,1—95,0. Дальняе назіраньне ажыцьцяўляецца на правым палкавым вучастку з вышыні 93,1, адкуль праглядаецца часткова раён Паўлаўцы, 109,3, ф. Кудзін, і на левым палкавым вучастку з раёну вышынь 104,0—106,9—108,0, адкуль праглядаецца частка раёну касьцёл Кудзін, Арловічы. Броняпоезд выгодна выкарыстаць для дзейства перад абарончай паласой з раёну ак. Белаблоцкая і ўнутры абарончай паласы ў раёнах п. дв. Ласосна, Чупрынава.

**Мясцовасьць у тыле.** Тылавы абарончы рубеж па лініі вышынь на поўнач ад Кузьня дазваляе арганізаваць абарону, апіраючыся на лясны масыў раёну Стручка (на поўнач усходнюю ад Кузьня), непраходны для танкаў, за выключэньнем дарогі і прасекі.

## Разьлік сродкаў

### а) Агнявыя сродкі

**Агнявыя сродкі ПТА ў дывізіі эшалёнуюцца наступным парадкам:**

| Гармат | У палкох 1-га эшалёна | У палку 2-га эшалёна | Усяго ў дывізіі |
|---|---|---|---|
| Батальённых пушак . . . . . . . . | 12 | 6 | 18 |
| Палкавых пушак . . . . . . . . . . | 12 | 6 | 18 |

Заўвага: узята ўмоўная арганізацыя

**Дывізія сродкамі ПТА палкоў 1-га эшалёна забясьпечвае:**

| Тып гарматы | Скарастрэльнасьць у 1 [1]) мін. | Час вядзеньня агню ў мін. | Лік стрэлаў | Імавернасьць пападаньня | Імаверны лік пападаньня ў танкі | Фронт забесьпячэньня сродкамі ПТА 1-га эшалёна | Фронт забясьпечаньня гарматамі ў мэтрах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Батальённая пушка . . . . . . . | 40 | 2 | 80 | 10 | 8 | 4800 *м*<br>2400 „ | 400 |
| Палкавая 76-*мм* пушка . . . . . | 10 | 4 | 40 | — | 4 | 7200 „ | 200 |

**Разьлік зроблены:** шчыльнасьць танкавай атакі на 1 км 20 танкаў; скорасьць руху танкаў 15 км/г; дыстанцыя для батальённай пушкі 1000 м; палкавой 1500 м і для абодвых выпадкаў да 500 м, з якіх [illegible] агонь.

### б) Інжынэрныя сродкі

1. Бярэм умоўна, што дывізія мае 4000 штук мін, даданых з корпуса, што дазваляе прыкрыць фронт або зрабіць адсечныя загароды ў 2000 м у два рады, на гэта патрэбна будзе 4 гадзіны работы сапёрнай роты.

---

[1]) Узята акругленая практычная скарастрэльнасьць гармат ПТА (гл. арт. т. Келер „Танки и противотанковые орудия“, часопіс „Моторизация и механизация“, 31 г. (№ 3).

Наяўнай колькасьці мін мала для забесьпячэньня граніц процітанкавых калідораў (1, 2, 3, 4, 5, чарц. 15), таму для стварэньня адсечных загарод неабходна ўжыць эскарпіраваньне спадаў і, дзе магчыма, засекі.

2. Эскарпаў на працягу 10 гадзін рабочага дня на спадах 40—45°—5000 м, 25—35°—3000 м. Пры разьліку ўзята колькасьць рабочых гадзін роўнай 10 проц. ад агульнага ліку рабочых гадзін у дывізіі, пры баявым саставе дывізіі ў 5000.

## Агульны вывад аб выкарыстаньні ўсіх сродкаў ПТА

— Пярэдні край—мінныя палі і кінжальныя гарматы (сродкамі палкоў).

— У глыбіні—„процітанкавыя калідоры“ (узмацніць сродкамі дывізіі).

— Сродкі ПТА палка 2-га эшалёна—барацьба з асобнымі танкамі, якія прарваліся.

— Прасьцейшыя перашкоды—распараджэньнем кампалкоў.

— Зьвярнуць увагу на забесьпячэньне правага флянгу дывізіі і стык з 5 с. д.

## Разьмеркаваньне сродкаў ПТА

— Міны 1 с. п. 3000, 2 с. п. 1000, міны 3 с. п. выкарыстаць у тылавой зоне на вучастку 2 с. п.

— Сапроту на ўстаноўку мін на вучастку 1 с. п.—2 гадзіны, работа па забесьпячэньні пераправаў на р. Ласосна—6 гадзін.

— Адну батарэю ПА 3 с. п. перадаць 2 с. п.

— Броняпоезд выкарыстаць на стыку 1 с. п. і 2 с. п. і для барацьбы ў глыбіні на вучастку 1 с. п.

— Артпазыцыі ў раёне Чупрынава—Парчэўцы прыкрыць агнём батарэі ПТА артпалка.

**У канчатковай сваёй форме плян ПТА 1 с. д. пасьля зацьвярджэньня яго камандзірам дывізіі прыняў форму ніжэйпаданай табліцы (старонка 62).**

**П а с ь л я а р г а н і з а ц ы і с л у ж б ы п р о ц і т а н к а в а г а н а з і р а н ь н я і т р ы в о г і к а м а н д з і р ы п а л к о ў а т р ы м а л і н а с т у п н ы я ў к а з а н ь н і:**

1. Асновай службы процітанкавага назіраньня зьяўляецца сетка артылерыйскага назіраньня.

2. Сетка ўзмацняецца выстаўленьнем дадатковых назіральнікаў з разьліку адзін пост ад роты 1-га эшалёна і батальёна 2-га эшалёна. Пасты павінны быць зьвязаны з бліжэйшымі да іх артылерыйскімі пунктамі сродкамі аптычнай сыгналізацыі.

3. Ударнай групе мець свой пост для прыёму сыгналаў „танкавая небясьпека“, „танкавая атака“.

4. Для 1 с. п. сэктар назіраньня справа на в. Страраўляны, зьлева на в. Панятовічы. Для 2 с. п.—справа—в. Паўлаўцы, зьлева кал. Палеская. Асаблівая ўвага—магчымым выходным пазыцыям танкаў.

5. Сыгналы: „танкавая небясьпека“—зяленыя ракеты; „танкавая атака“—чырвоныя ракеты і па тэлефону „танкі“—без усякай чаргі.

Сыгналы падаюцца: першы—з пунктаў камандзіраў рот і паўтараецца на батальённых пунктах. Другі падаецца з перадавых артылерыйскіх пунктаў і паўтараецца ў ротах і батальёнах.

6. Палкам арганізаваць збор і апрацоўку зьвестак для перадачы іх ў штадыў. У выпадках, патрабуючых тэрміновай перадачы (выяўленьня танкавых часьцей і г. д.) паведамляць без чаргі.

Арганізацыя выведкі. У адносінах выяўленьня танкавых часьцей у праціўніка, начальніку выведатраду, вылучанаму дывізіяй з мэтай сутыкнуцца з праціўнікам і ўстанавіць сувязь з коннымі часьцямі, якія дзейнічаюць упярэдзе, былі дадзены штабам дывізіі наступныя ўказаньні: а) старацца атрымаць зьвесткі аб наяўнасьці ў праціўніка танкаў; б) калі будуць узяты палонныя, то пры апытаньні іх высьветліць: ці ёсьць у праціўніка танкі, калі і дзе апошні раз іх бачылі, тып або памер і ўзбраеньне танка.

## Плян ПТА 1 с. д. абароны на рубяжы р. Валкуш—р. Прорва

| Агульныя ўказаньні | 1 с. п. (вучастак—чарц. 14) | 2 с. п. (чарц. 14) | 3 с. п. (чарц. 14) | Артполк і бронялоезд | Сапрота |
|---|---|---|---|---|---|
| Час арганізацыі ПТА—суткі. Пачатак работ $-14^{00}$ 12. 6. 30 г. Гатоўнасьць ПТА—$14^{00}$—13. 6. 30 г. | *Пярэдні край*: Вучастак супроць в. Валкуша ўзмацніць мінамі (сродкамі палка).<br>*Глыбіня абарончай паласы*: Устанавіць адсечныя загароды ў процітанкавых калідорах: паміж вышынямі 87,0 і 89,2 у кірунку на 85,1.<br>№ 3—калідор паміж вышынямі 89,2 і 83,6 у кірунку на 93,1 (дадаецца 3000 мін з дывізіі).<br>Забясьпечыць процітанкавы калідор № 1 агнём гармат ПТА; шчыльнасьць—4 гарматы на 1 *км*.<br>Тыльныя граніцы—рубеж 92,6—85,0—93,1; агнявыя сродкі 1 с. п.<br>Згрупаваны агонь ПП (па цэлях № 10, 11, 13, плянавая табліца артылерыі). | *Пярэдні край*: вучастак супроць в. Панятовічы ўзмацніць мінамі (сродкамі палка).<br>*Глыбіня абарончай паласы*. Узмацніць міннымі палямі „процітанкавыя калідоры“ № 4,5, № 4 калідор паміж насыпамі чыгункі і в. Парчэўцы.<br>№ 5—паміж 92,1 і 3 с. д, у кірунку на 106,9, для чаго дадаецца 1000 мін з дывізіі.<br>Тыльная граніца ПТА 104,0—106,9. Агнявыя сродкі ад 2 с. п.<br>Згрупаваны агонь ПП2 па цэлях № 13, 14—плянавая табліца артылерыі. | 1. Прыкрыць агнявымі сродкамі і перашкодамі разьмяшчэньне 3 с. п., выкарыстаўшы вышыні на ўсход і поўдзень ад Кузьня (90,0—80,4—83,2).<br>2. Прыкрыць масты цераз р. Ласосна ў раёне Кузьня.<br>3. Адказныя вучасткі ПТА для ПА: пры дзействе на стык 5 с. д—вучастак А пры дзействе на стык 3 с. д. вучастак *Б*. | 1. Агонь па магчымых выходных пазыцыях танкаў, цэлі № 10, 11 13, 14 (гл. плянавую табліцу)<br>2. Бронялоезд—цэлі № 12—13 (плянавая табліца) агонь па танках на вучастку 1 с. п. раён 79,0-трохвугольнік дарог на захад ад п. дв. Ласосна. | Міны 1 с. п. падвесьці раён 93,1—3000. Міны 2 с. п. падвесьці раён в. Навадзелі—1000<br>Устаноўка мін на вучастку 1 с. п.<br>Работа па ПТА пераправа р. Ласосна. |

начштаба 1. с. д.

## Разбор пляну процітанкавай абароны

Плян абароны зьявіўся рэзультатам прынятага рашэньня на падставе ўліку абстаноўкі і пастаўленых задач. У даным выпадку мясцовасьць у адносінах рэльефу, як перад пярэднім краем абарончай паласы, так і ў глыбіні яе




Чарц. 16.

не дае ясна акрэсьленых вучасткаў, зусім недаступных для танкаў: ёсьць толькі раёны, звужаючыя дзейства танкаў, якія шляхам прасьцейшых штучных перашкод павінны быць ператвораны сродкамі палкоў у недаступны для танкаў стан.

Камандаваньне дывізіі, расцэньваючы вучастак 1 с. п. у глыбіні абарончай паласы як больш дастунны для дзейства танкавых часьцей праціўніка і апрача таго пагражаемы з боку 5 с. д., згрупавала тут адносна вялікую колькасьцьсродкаў.

Так мы маем на вучастку 1 с. п. па пярэднім краі абарончай паласы 13 гармат, здольных весьці агонь па танках.

Гэта дасьць шчыльнасьць агню да 3 гармат на 1 *км* фронту абароны. У глыбіні абарончай паласы мы маем дзьве батарэі (9 і 10), якія здольны весьці агонь з асноўных пазыцый па танках, якія прарваліся.

Калі прыняць пад увагу, што агонь броняпоезда, накіраваны таксама па гэтым вучастку, то шчыльнасьць агню будзе яшчэ большай. Першаму палку апрача таго выдана большая колькасьць процітанкавых мін.

Па пярэднім краі абарончай паласы 2 с. п. мы маем усяго 10 гармат, здольных весьці агонь па танках, што складзе на 1 *км* каля 2 гармат.

Для вызначэньня колькасьці гармат, неабходных пры адбіцьці танкавай атакі, мы выходзілі з фронту, які забясьпечваецца аднэй гарматай ПТА, пры гэтым улічвалі скорасьць танкаў, лік іх на 1 *км*, скарастрэльнасьць гармат, дыстанцыі стральбы і імаверны процант пападаньня, некалькі паніжаны супроць вопытных даных стрэльб спэцыяльных гармат на палігонах. Гэта тлумачыцца тым, што час вядзеньня агню па танку практычна зьмяншаецца складкамі мясцовасьці, захоўваючымі танк.

Абарона тылу дасягаецца: актыўнай процібранявой абаронай, арганізаванай у палкавых вучастках; указаньнем адказных вучасткаў на стыках з 5 і 8 с. д. і дывізіёну 3 с. п., дзействамі броняпоезда, разьмяшчэньнем дывізійных установаў у раёнах Кузьня, Кавалі, лес у раёне Струпка (на ўсход ад Кузьня).

Плян ПТА 1 с. д. у выглядзе табліцы дае ў кароткай форме тыя асноўныяепалажэньні, якія павінны ведаць выканаўцы. Намячаючы найбольш магчымыя дзействы процібранявой абароны ў выпадках: 1) барацьба за пярэдні край, 2) барацьба ў глыбіні абарончай паласы, табліца дазваляе ў духу асноўнай ідэі абороны праяўленьне шырокай ініцыятывы камандным саставам.

Аднясеньне цэнтру цяжару процібранявой абароны ў дывізіі на $1^1/_2$—2 *км* ад пярэдняга краю абарончай паласы выгодна па наступных прычынах: 1) дае магчымасьць выкарыстаць 76-*мм* батарэі для барацьбы па танках з асноўных пазыцый, 2) даводзіць колькасьць бязьдзейнічаючай артылеры, прызначанай для барацьбы па танках, да мінімуму пры выкарыстаньні выгодных умоў барацьбы на адваротных спадах.

## Дынаміка бою

### Дзействы ўдарнай групы дывізіі (чарц. 16)

У $12^{00}$ 14.6 3 с. п. знаходзіўся ў в. Кузьня. Камандзір яго ў гэты час быў на камандным пункце камандзіра дывізіі, пры гэтым яму было вядома, што дзействамі ўдарнай групы 2 с. п. удалося толькі спыніць наступленьне сініх у кірунку на Навадзелі ўтрымаць вучастак Чупрынава—106,9—108,0—ф. Устроне (выключ.). Танкі праціўніка панесьлі значныя страты ад ПТА гармат і з прычыны гэтага слаба забясьпечваюць падтрымку наступаючай за імі пяхоты сініх.

На вучастку 1 с. п. бой ідзе на рубяжы 87,0—89,2—83,6. 9 с. п. 3-й дывізіі адкінуты і затрымаўся на вышыні 110,7 і на ўсход ад яе. На стыку з 3 с. д. танкам праціўніка ўдалося прарвацца на ф. Устроне. Камандзір дывізіі рашыў 3 с. п. нанесьці ўдар праз Навадзелі на Клімаўка. Палку загадана безадкладна выступіць для згрупаваньня ў раёне Навадзелі.

Камандзір 3 с. п. выклікаў да сябе камандзіраў батальёнаў, камандзіра палкавога дывізіёна, паведаміў ім абстаноўку і аддаў наступныя распараджэньні (чарц. 16).

1. Полк ідзе да в. Навадзелі в дзьвюма калёнамі. Правая—I і III батальёны, начальнік калёны—камандзір I батальёна, маршрут—паўночная ўскраіна Кузьня і далей на поўдзень удоўж чыгункі на Смаляны завод (на карце Смал.)—Навадзелі. Левая—II батальён з палкавым дывізіёнам, сапёрным узводам, начальнік калёны—камандзір II батальёна, па маршруту могілкі на паўднёва-заходняй ускраіне Кузьня (на карце Мог.)—лясьніцтва (лясн.)—Навадзелі.

2. Выходны пункт для правай і левай калёны—вышыня 80,4, галовамі супроць $12^{45}$, каля в. Навадзелі быць у $13^{30}$, згрупаваўшыся на паўночнай ускраіне.

3. Камандзіру палкавога дывізіёна для забесьпячэньня маршу ад магчымага налёту танкаў безадкладна высунуць батарэю ў раён вышыні 83,2 з задачай забясьпечыць рух з боку ур. Горкі, Падліпкі. З выхадам палка ў раён Навадзелі батарэю далучыць да дывізіёна.

4. Начальніку левай калёны, пры атацы танкаў, выкарыстоўваючы палкавую і батальённую артылерыю, адбіць атаку. Батальёнам, незатрымліваючыся, ісьці ў Навадзелі.

5. Сыгнал танкавай атакі—чырвоныя ракеты.

6. Я на пункце камандзіра дывізіі—ускраіна в. Навадзелі на ўсход ад Руск.

Эпізод першы. У $12^{50}$ начальнік левай калёны, камандзір II батальёна, рухаючыся па дарозе з Кузьня на Навадзелі, пад'яджаў да вышыні з асобным дрэвам і ўбачыў сыгнал—чырвоныя ракеты, які быў даны з раёну вышыні 97,7, куды быў высланы конны дазор для назіраньня за флянгам. З боку сялянскага двара (Сял. дв.), што ў 1/2 *км* на поўдзень усходні ад вышыні 83,2, прыскочыў артылерыйскі выведчык і далажыў камандзіру палкавога дывізіёна, які ехаў побач з ім: „бачыў танкі, якія рухаюцца ад Пуні (Пун.) у кірунку на Сял дв., што за ракой Ліпка". У гэты час батальён галавой падыходзіў да вышыні з асобным дрэвам, батарэя каля вышыні 83,2 адкрыла агонь. Камандзір батальёна ўбачыў тры танкі, якія перасякалі дарогу Кузьня—Падліпкі, і аддаў наступныя распараджэньні:

1. Камандзіру палкавога дывізіёна адкрыць агонь па танках, якія рухаюцца ў кірунку на Сял. дв.

2. Узводу батальённай артылерыі высунуцца да Сял. дв., што ў 1/2 *км* на поўнач усходнюю ад вышыні з асобным дрэвам, і сваім агнём не дапускаць пераходаў танкаў на паўднёвы бераг р. Ліпка.

3. Ротам, зьвярнуушы з дарогі і захоўваючыся за грэбнем вышыні з асобным дрэвам, працягваць рух.

Эпізод другі. У 14 гадзін камандзір 3 с. п., знаходзячыся на пункце камандзіра дывізіі,—ускраіна в. Навадзелі, з арыентыроўкі, атрыманай ім на мясцовасьці, мог скласьці сабе наступнае ўяўленьне аб ходзе бою на вучастку 2 с. п. Полк, увёўшы ў дзейства ўсе тры батальёны, утрымліваў вучастак Чупрынава, гай на поўнач ад Парчэўцы, вышыня 106,9, лясьніцтва (лясн.), левым флянгам апіраючыся на гай ф. Устроне. Сусед зьлева—9 с. п.—па-ранейшаму займаў раён вышыні 110,7.

Агонь артылерыі праціўніка па раёне вышыні 104,0—106,9—108,0 паступова набываў большую напружанасьць, яго пяхота, узмоцненая новымі групамі, пры нязначнай падтрымцы асобных танкаў павяла наступленьне з раёну вышыні 92,1 у кірунку на 106,9 і пацiскала II батальён 2 с. п., які абараняў гэту вышыню.

У $14^{05}$ начальнік штаба 3 с. п. далажыў, што полк згрупаваўся на паўночнай ускраіне в. Навадзелі. Атака танкаў на паходзе адбіта артылерыяй, якая падбіла ўсе тры танкі. Палкавы дывізіён пакінуты на пазыцыях у раёне 83,2. Назіраньне выстаўлена ў бок ур. Горкі.

Камандзір дывізіі пацьвердзіў задачу, пастаўленую 3 с. п.—нанясеньне контрудару цераз вышыню 106,9 на Клімаўка, з мэтай адкінуць праціўніка да р. Прорва (чарц. 14) і ліквідаваць прарыў на стыку з 3 с. п. Удар будуць падтрымліваць I і II дывізіёны артпалка.

Камандзір палка аддаў загаданьне аб разгортваньні палка і арганізацыі контрудару, загадаў палкавы дывізіён зьняць, паставіўшы яму задачу падтрымліваць удар III батальёна, які дзейнічае ў другім эшалёне палка. Для забесьпячэньня дзействаў артылерыі, падтрымліваючай полк, ад батарэй палкавога дывізіёна выставіць па адной гармаце ў раёне 83,2—93,9.

Разбор. Асаблівасьць увядзеньня ў дзейства ўдарнай групы дывізіі заключалася ў тым, што ёй прышлося:

— зрабіць манэўр да выходнага палажэньня пад пагрозай танкаў, якія прарваліся ў тыл;

— забясьпечыць дзействы артылерыі, падтрымліваючай ударную групу дывізіі, ад дзейства танкаў, якія прарваліся ў тыл.

Першая задача выраша лася арганізацыяй маршу дзьвюма калёнамі, прычым у калёне, якая знаходзілася на кірунку магчымага ўдару танкавых часьцей праціўніка, знаходзілася ўся артылерыя. Такое разьмеркаваньне артылерыі ў даным выпадку зьяўляецца правільным, бо толькі артылерыйскім агнём можа быць адбіта танкавая атака і забясьпечаны рух батальёнаў у Навадзелі бесьперашкодна. Высунутая на пагражаемы флянг выведка з мэтай папярэдзіць загадзя часьці аб зьяўленьні танкаў і арганізаванае назіраньне забясьпечылі магчымасьць своечасовага разгортваньня і дзейства артылерыі.

Вопыт рад вучэньняў паказвае, што атака танкаў пяхоты у калёнах, якія ідуць з мерамі ПБА, у мясцовасьці сярэдняй перасечанасьці, станоўчых рэзультатаў не дае. Пры арганізацыі „кругавога" назіраньня на паходзе, пры дапамозе конных пастоў артылерыйскай выведкі, атака танкаў своечасова выяўляецца, і танкі сустракаюць пяхоту, якая разгарнулася, пад прыкрыцьцем яе сродкаў ПБА. Для перасоўваньня найбольш выгоднымі зьяўляюцца батальённыя калёны з даданай артылерыяй. Заўчаснае высоўваньне батарэі ў раён вышыні 83,2 з мэтай забясьпечыць выступленьне калёны мела на мэце стварэньне нярухомага ахаваньня на танканебясьпечным кірунку.

Пакіданьне палкавога дывізіёна пасьля адбіцьця танкавай атакі на пазыцыях у раёне вышыні 83,2 і вышыні з асобным дрэвам трэба прызнаць лішнім. Забесьпячэньне разьмяшчэньня артылерыі, якая заняла пазыцыі ў раёне Смалянага завод—Навадзелі, ад паўторнай танкавай атакі цалкам дасягаецца ўстаноўкай гармат у раёне 83,2 і 93,9, бо лес з прылягаючымі тут вышынямі перахоплівае кірунак з боку ўр. Горкі і в. Падліпкі.

Ударная група дывізіі была ўведзена ў дзейства, пасьля таго, як танкі праціўніка панесьлі вялікія страты ад агню гармат ПТА і ня здолелі забясьпечваць далейшае наступленьне пяхоты праціўніка. Гэта палажэньне неабходна прызнаць тыповым, бо сустрэчны контрудар ударнай групы па праціўніку, які разьвівае атаку пры падтрымцы танкаў, будзе мэтазгодны толькі калі ўдарная група сама мае танкі.

У гэтай задачы насычэньне праціўніка танкамі было слабае, чым тлумачыцца, што першапачатковы посьпех праціўніка ня быў разьвіты ў глыбокі удар.

## ПРОЦІТАНКАВАЯ БАРАЦЬБА СТРАЛКОВАГА ПАЛКА ПРЫ АБАРОНЕ

## (Тактычны прыклад)

Зборны плян Белаліпецкага і чарц. 17

**Агульная абстаноўка** паводле задачы на абарону дывізіі.

Камандзір I с. п., атрымаўшы ў $8^{30}$ 12.6.30 у штабе дывізіі рашэньне камандзіра дывізіі на заняцьце абарончай паласы (чарц. 15) і азнаёміўшыся з задачамі ПТА, пастаўленымі камандзірам дывізіі, загадаў начальніку штаба I с. п. сабраць у штаб палка к $9^{00}$ камандзіраў батальёнаў, камартдываў, камбатарэй і камсапузвода для сумеснага выезду на рэкагнасцыроўку палкавога вучастку.

К $9^{00}$ скласьці плян рэкагнасцыроўкі, улічыўшы ўказаньні штадыва.

Начальніцкаму саставу, які прыбыў, кампалка паведаміў абстаноўку і даў сваю першапачатковую намётку рашэньня па нарэзцы батальённых раёнаў. Начальнік штаба палка паведаміў начальнікам рэкагнасцыровачных партый плян рэкагнасцыроўкі [1]).

К $13^{30}$ у рэзультаце асабістай рэкагнасцыроўкі і даных выведак батальёнаў камандзір I с. п. прышоў да наступных вывадаў:

1. Абарончы вучастак палка праглядаецца ад пярэдняга краю ў глыбіню з вышынь, якія знаходзяцца у 1—1½ км на поўдзень заходні ад Валькуша і п. дв. Ласосна (паўднёвы), амаль на ўсім працягу да рубяжу 87,0—вышыня на захад ад 89,2 і ў ½ км на поўнач—83,6.

**Вывад.** Устаноўка тут кінжальных процітанкавых гармат, выключаючы раён п. дв. Ласосна (паўднёвы) зьяўляецца нямэтазгоднай. Абарона пярэдняга краю і абарончай паласы ў глыбіню да 500 м павінна быць заснавана на дзействе батальённай артылерыі і процітанкавых фугасаў.

[1]) Для яснасьці мы замацоўваем гэты плян у выглядзе табліцы і агаварваемся, што складаньне такога дакументу не абавязкова.

„Зацьвярджаю“
Кампалка I

Плян рэкагнасцыроўкі абарончага вучастку І с. п, 12. 6. 30.

| №№ п. ч. | Начальнік партыі і састаў | Раён і задачы |
|---|---|---|
| 1. | К-р I/1 с. п. | 1. Абрэкагнасцыраваць раён I батальёна (чарц. 16) для заняцьця і абароны |
| | Нач. штаба I/1 с. п. | 2. Вызначыць праходнасьць р. Валькуш, магчымасьць забалочваньня, установкі мін па паўночным беразе |
| | К-р 1 бат. ПА | 3. Абрэкагнасцыраваць раён в. 85,0— 89,1—89,2. Задачы: 1) годнасьць для ўстаноўкі процітанкавых сродкаў, 2) магчымасьць эскарпіраваньня спадаў |
| | | 4. Вызначыць праглядальнасьць раёну з лініі баявога ахаваньня |
| | | 5. Годнасьць вышыні з адзнакай 80,3 для заняцьця баявым ахаваньнем |
| | | 6. Вызначыць магчымыя выходныя пазыцыі танкаў з боку в. Валькуша. |
| 2. | К-р II/1 с. п. | 1. Абрэкагнасцыраваць раён II батальёна (чарц. 16) для заняцьця і абароны |
| | Нач. штаба II/1 с. п. | 2. Вызначыць праходнасьць р. Валькуш, р. Ласосна, магчымасьць установкі мін на паўночным беразе. |
| | К-р 2 бат. ПА | 3. Вызначыць магчымасьць эскарпіраваньня спадаў раёну вышыні 83,6. |
| | | 4. Вызначыць праглядальнасьць абарончага вучастку з боку праціўніка. |
| | | 5. Вызначыць магчымыя выходныя пазыцыі танкаў. |
| | | 6. Удакладніць палажэньне баявога ахаваньня |
| 3. | К-р III/1 с. п.<br>Нач. штаба III/1 с. п. | 1. Абрэкагнасцыраваць раён III батальёна (чарц. 16). Выявіць: 1) годнасьць для арганізацыі абароны ў глыбіні (пабудова засекі, стральба батарэй па танках, якія прарваліся, назіраньне з глыбіні), 2) праходнасьць лесу, раён вышыні 92,6—Карчма |
| 4. | К-р дывізыёна<br>I ПА/1 с. п., III/1 АП | 1. Вызначыць „процітанкавыя калідоры“ |
| | | 2. Удакладніць на мясцовасьці задачы агнявым сродкам па забесьпячэньні танканебясьпечных кірункаў |
| | К-р сап. узвода<br>начхімслужбы<br>начсувязі | 3. Месца ўдарнай групы палка. |

Заўвага: Рэкагнасцыроўку скончыць к $13^{00}$. Пункт збору—93,1

*Нач. Штаба*

2. У глыбіні абарончай паласы вышыні ад карчмы на шашы да ак. Гладаўшчызна ствараюць выгодныя ўмовы для барацьбы з танкамі праціўніка, якія прарваліся.

Вывад. Павінны быць пакінуты незанятымі пяхотай вучасткі № 1, 2, 3 адзначаныя на карце; для ўзмацненьня шчыльнасьці агню на вучастку 3 трэба прасіць начальніка артылерыі дывізіі даць задачу броняпоезду № 6 весьці барацьбу з танкамі, якія прарываюцца на гэтым вучастку.

3. Пяхота павінна пры сваіх рухах унікаць указаных вучасткаў, каб не перашкаджаць дзействам артылерыі, з другога боку, артылерыі трэба прыняць свае меры для забесьпячэньня пяхоты ад паражэньняў у выпадку вымушанага яе руху па гэтых вучастках.

Вывад. Пяхота павінна перасоўвацца па-за палосамі, пакінутымі для абстрэлу артылерыі. Неабходна сувязь сыгналамі ўмоўных колераў для кожнага вучастка, якія дае пяхота, калі ёй трэба спыніць агонь па данаму вучастку. Пляны вучасткаў і сыгналы павінны быць вядомы начальніцкаму саставу да камандзіраў узводаў уключна.

4. Для ўзмацненьня проціброневай абароны намечана правядзеньне наступных работ: 1) устаноўка проціганкавых фугасаў у дроце на вучастку супроць в. Валькуша, 2) пабудова засекі з фугасамі на вучастку паміж вышынямі 85,0-93,1, 3) устаноўка фугасаў на вучастку № 3, 4) масты на шашы на поўнач усходнюю ад ф. Валькуш неабходна разбурыць на палявых дарогах, якія ёсьць на вучастку палка, зрабіць перашкоды для бронемашын у выглядзе канаў і завал; 5) усе перашкоды павінны быць пад сапраўдным агнём станкавых кулямётаў.

5. Службу назіраньня неабходна ўзмацніць дадатковым нарадам назіральнікаў ад рот з разьліку па 1 на роту І-га эшалёна і 1 на батальён 2-га эшалёну.

6. З артылерыйскіх сродкаў, якія ёсьць у палку, неабходна палкавыя батарэі выкарыстаць у якасьці кінжальных па-гарматна, лёгкія батарэі разьмясьціць так, каб усе яны маглі быць прыцягнуты да барацьбы з танкамі і броняшашынамі ў глыбіні абарончай паласы. Умовы мясцовасьці дазваляюць гэта зрабіць. Што-ж датычыцца абстрэлу магчымых выходных пазыцый танкаў, то яны будуць узяты пад згрупаваны агонь артылерыі ПП.

7. Пярэдні край абарончай паласы правесьці па ўсходнім беразе р. Валькуш.

8. Баявое ахаваньне высунуць на рубеж, які знаходзіцца ў 1—1$^1/_2$ км на поўдзень заходні ад Валькуша і п. дв. Ласосна (паўднёвы) і ўзмацніць ўзводам гармат ПТА І ІІ/І с. п.

9. І батальён зойме і будзе абараняць раён вышынь 85,0—87,0—89,2. ІІ батальён зойме і будзе абараняць раён вышынь 93,1—82,6—п. дв. Ласосна (паўднёвы). ІІІ батальён у другім эшалёне падрыхтуе для абароны раён вышынь 92,6—85,0. маючы на ўвазе дзействы ў кірунку стыку з 5 с. д. і на вышыні 93,1—83,6.

10. І батальён, які знаходзіцца на стыку з суседам, неабходна будзе падтрымліваць вялікай колькасьцю артылерыі. Разьмяшчэньне 122-мм батарэй павінна даць магчымасьць весьці агонь перад пярэднім краем усяго вучастку абарончай паласы.

Пры прарыве танкамі пярэдняга краю атака іх павінна быць спынена агнём артылерыі; пры абароне выкарыстаць выгоды рубяжу 92,6—85,0—93,1. Канчатковае рашэньне камандзіра 1 с. п. было зафіксіравана ў загадзе.

Штаполк І, № 21, ап. карта 200 м—1 см, 12.6.30 15$^{00}$, ак. Гладаўшчызна.

1. Праціўнік к 12.6.30 згрупаваў буйныя конныя і пяхотныя часьці, узмоцненыя артылерыяй і танкамі, у раёне Беласток—Навасады—Яфрэмавічы. Зьяўленьне яго перадавых часьцей перад фронтам палка магчыма ў 14$^{00}$ 13.6.30

2. Дывізія абараняе паласу: вышыня 87,0—Крыскі—Навадзелі—Кузьня.

3. Полк абараняе вучастак: вышыня 87,0—п. дв. Ласосна (паўднёвы), вышыня 92,6.

Пярэдні край па ўсходнім беразе р. Валькуш.

4. Справа 15 с. п. 5 с. д., граніца з імі—вышыня 92,6 укл.—Валькуша укл.—лес на поўдзень заходні ад Задвараны укл.

Зьлева 2 с. п. граніца з ім млын, на поўнач ад Чупрынава 1/2 км вык.— млын каля п. дв. Ласосна (паўднёвы)—ак. Пуцылкі вык.

5. I батальёну I с. п. з Iб/ПАI абараняць раён вышынь 85,0—87,0—89,2. Пакінуць і абсталяваць процітанкавыя калідоры на стыках 5 с. д. і з 1 с. п. Падтрымліваюць 7-я і 9-я батарэі I АП.

6. II батальёну I с. п. з 2б/ПА I абараняць раён 93,1—83,6 п. дв. Ласосна. Пакінуць незанятай паласу паміж вышынямі 93,1 і 83,6. Прастрэльваньне гэтай паласы сродкамі 2 бат. I с. п. і броняпоездам № 6. Падтрымлівае 10-я батарэя I АП.

7. III батальёну I с. п. заняць і падрыхтаваць для абароны раён вышынь 92,6 з прылягаючымі гаямі. Даць адсечны агонь на 87,0—93,1. Контратака ў кірунку стыка з 5 с. д. і вышынёй 83,6.

8. Артылерыя: ПА дадаць па-батарэйна I і II/I с. п. для ПТА. Камартдыву III падрыхтаваць згрупаваны агонь па магчымых выходных пазыцыях танкаў. Баявое ахаваньне падтрымліваць агнём двух батарэй.

9. Баявому ахаваньню, узмоцненаму ўзводам батальённай артылеры III/I с. п., заняць рубеж з вышынёй 80,3.

10. Гатоўнасьць абароны к $12^{00}$ 13.6.30.

11. Камандны пункт—83,2[1]).

*Кампалка*

*Наштапалка*

## Дынаміка бою

Дзействы пяхоты і процітанкавых сродкаў $12^{15}$.14.6.30 камандзір 1 с. п. і камандзір III дывізьёна знаходзіліся ў раёне вышыні 92,6.

1. Ад камандзіра 1 батальёна было вядома: „у 12 гадзін батальён, увёўшы ў бой 3-юю роту (ударная група I батальёна), утрымаў за сабой вышыні 85,0—87,0—89,2, часьці нясуць вялікія страты ад артылерыйскага агню праціўніка. Раён вышыні 87,0 абстрэльваецца цяжкімі батарэямі праціўніка. Сувязь рот са сваёй артылерыяй парвана. II батальён пакінуў вышыні, што на поўнач ад 83,6, сувязь з імі перарвана. Прашу дапамагчы дзействамі ўдарнай групы палка".

2. Ад начальніка штаба II батальёна, які прыбыў на вышыню 92,6: „Праціўнік сілай да двух батальёнаў пры падтрымцы больш роты танкаў атакаваў раён вышыні 83,6. Наступленьне з асаблівай сілай разьвілося ў кірунку вышыні 93,1, часьці II батальёна адкінуты і адыходзяць праз п. дв. Ласосна—Кругляны на 93,1, якая ўтрымліваецца культротай. Танкамі праціўніка зьнішчана палкавая батарэя.

Адначасова камандзір палка пачуў моцную гарматную і кулямётную стральбу з раёну вышыні 85,0 і ўбачыў, як з вышыні 93,1 у абход пабудаванай засекі хутка прасоўваюцца 5 танкаў. Трапіўшы пад агонь 9 батарэі, танкі павярнулі на поўнач усходнюю і захаваліся за вышынёй 85,0.

3. Ад камандзіра III дывізьёну ён даведаўся, што 10-я батарэя адышла і вядзе агонь па танках, якія прарваліся ад казармы на шашы (Каз.).

Броняпоезд вядзе агонь у паласе № 3. Камандзір I с. п., ацаніўшы, што галоўная атака праціўніка пры падтрымцы танкаў накіравана супроць II батальёна I с. п. аддаў наступныя распараджэньні:

1) камандзіру III батальёна перакінуць узвод батальённай артылеры на ўсходні край лесу ак. Гладаўшчызна, у раён карчмы з задачай не дапусьціць танкі, якія прарваліся, у раён III батальёна I с. п.;

2) 10-й батарэі застацца ў раёне казармы (Каз), вядучы агонь па танках якія прарваліся. $12^{00}$ камандзір I с. п., прымушаны моцным агнём артылеры праціўніка перамяніць свой камандны пункт, перайшоў на запасны ў раён вышыні 85,0. Яму было вядома, што:

— ня гледзячы на вялікія страты ў пяхоце і танках, пяхоце праціўніка ўдалося авуладаць цалкам вышынёй 83,6;

---

[1]) Паданая ніжэй плянавая табліца ПТА павінна разглядацца ня як апэратыўны, а як мэтадычны дакумант, які дапамагае чытачу ўразумець узаемадзейства пяхоты і артылеры пры адбіцьці танкаў.

„Зацьвярджаю“
Кампалка

*Да загаду № 21/ап*

## Плянавая табліца ПТА 1 с. п.

| Этапы боя | Двействы войск | | Сувязь |
|---|---|---|---|
| | Артылерыя | Пяхота | |
| 1. Бой на лініі баявога ахаваньня | Падтрымка баявога ахаваньня бат. 9, 10. Падтрымка баявога ахаваньня бат. арт. III/1 с. п. (батальёнpast артылерыя III/I с. п. адыходзіць з ахаваньнем, пасьля чаго паступае ў распараджэньне камандзіра III/I с. п.) | Бой часьцей ахаваньня | Зьяўленьне танкаў—тэлефон „чырвоныя ракеты“ |
| 2. Контрпадрыхтоўка атакі | Згрупаваны агонь па цэлях № 10, 11, 12, (чарц. 17) | Агню не вядзе | |
| 3. Бой перад пярэднім краем | Агонь адкрываюць гарматы ПТА пасьля зьяўленьня танкаў з дыстанцыі сапраўднага агню. Гарматы № 1, 2, 3, 5 (чарц. 21) агню не вядуць | Агонь кулямётаў па пяхоце праціўніка | |
| 4. Барацьба на пярэднім краю | Агонь вядуць усе гарматы ПТА, батарэя № 7 растрэльвае танкі прамой наводкай, забясьпечваючы стык з 5 с. д. | Вядзе агонь па наступаючай пяхоце, аддзяляючы яе ад танкаў | Зьяўленьне танкаў—тэлефон, „чырвоныя ракеты“ |
| 5. барацьба ў глыбіні абарончай паласы | 7-я батарэя—агонь прамой наводкай па танках па вучастку № 1<br>9-я батарэя—агонь прамой наводкай па танках па вучастку № 2.<br>8-я, 10—падрыхтоўка контратакі. | Контратака наступаючай пяхоты | Спыніць агонь па вучастку № 1—зялёныя ракеты, № 2—дымавыя, № 3—сінія. |

Заўвага: Па вучастку № 3 вядзе агонь броняпоезд № 6; агонь адкрывае пасьля зьяўленьня танкаў, спыняе па сыгнале сінія ракеты.

*Начальнік штаба.*

— па данясеньнях камбата II з вышыні 93,1 пяхота праціўніка павольна наступае ў кірунку вышыні 93,1 пры падтрымцы 7 танкаў, ахопліваючы яе з боку п. дв. Ласосна (паўночны) і Кругляны;

— камандзір III батальёна данёс: агнём батальённай артылерыі і 10-й батарэі пры падтрымцы броняпоезда № 6 танкі, якія праўваліся на поўнач ад вышыні 93,1, часткова зьнішчаны, тыя, што засталіся, адышлі на Кругляны.

Кампалка загадаў:

— камбату I/I с. п. агнём кульроты з раёну вышыні 89,2 спыніць далейшае прасоўваньне пяхоты праціўніка ў кірунку вышыні 93,1;

— камбату II/I с. п. утрымліваць раён вышыні 93,1;

— камбату III/I с. п. контратакаваць праціўніка, які праўраўся, цераз вышыню 89,2 на 83,6, адкінуўшы яго за пярэдні край;

— камардыву падтрымліваць атаку агнём 8-й і 9-й батарэй.

Контратака III батальёна I с. п. аднавіла страчанае палажэньне.

Разбор. У даным выпадку мы спынімся на асаблівасьцях пляну проціброняваай абароны і яго правядзеньні ў жыцьцё ў стралковым палку. Такімі асаблівасьцямі будуць:

1. Удакладненьне палос, якія не займаюцца пяхотай, з мэтай пакінуць свабодныя прамежкі для стральбы па танках.

2. Устанаўленьне сыгналаў, забараняючых вядзеньне агню ў адведзеных палосах.

Гэта мера зьяўляецца зусім неабходнай з прычыны таго, што рэглямэнтаваць увесь бой жорсткім плянам нельга. Плянавая табліца дзействаў можа даць толькі адпраўныя вехі.

3. Далей трэба зьвярнуць увагу на эпізод, які лёгка мог прайсьці міма незаўважаным—гэта адыход ротII батальёна з вышыні 93,1 праз п. д. в. Ласосна—Кругляны.

Гэтай мерай была дасягнута адносная забясьпечанасьць выхаду рот, бо адыход адбываўся праз населеныя пункты, звужаючыя дзействы танкаў, і мог прыкрывацца агнём броняпоезда.

4. Зьяўляецца характэрным узмацненьне баявога ахаваньня сродкамі ПБА з батальёна 2-га эшалёна і зварот іх у распараджэньне камбата пасьля адыходу баявога ахаваньня.

5. Перамена артпазыцыі ў працэсе бою павінна праводзіцца цэнтралізавана, інакш немінучы выпадкі, калі батарэя, якая мяняе пазыцыю, зойме раён, што знаходзіцца ў сэктары абстрэлу другой батарэі, чым перашкодзіць яе рабоце.

6. Контратака па наступаючай пяхоце праціўніка будзе толькі тады пасьпяховай, калі танкі праціўніка панясуць вялікія страты, а пяхота праціўніка будзе аддзелена ад танкаў. Вялікую карысьць тут дасьць адсечны агонь кулямётаў унутры абаронччай паласы. Артылерыйская падтрымка контратакуючай пяхоты заўсёды неабходна.

## ПРОЦІТАНКАВАЯ БАРАЦЬБА СТРАЛКОВАГА БАТАЛЬЁНА ПРЫ АБАРОНЕ

## (Тактычны прыклад)

Агульная абстаноўка паводле задачы на абарону палка.

Прыватная абстаноўка. К $14^{00}$ 12.6.30 камандзіру 1-га батальёна I с. п. было вядома:

1. Батальёну загадана абараняць раён на захад ад шашы (чарц. 18); абстрэл мясцовасьці ўперадзе ў паласе, абмежаванай справа лагчынай ручая, упадаючага ў р. Валькуш, зьлева—шаша на Саколка ўключна.

2. Батальён будуць падтрымліваць 7-я і 9-я батарэі III дывізыёна; в. Валькуша можа быць абстрэлена згрупаваным агнём артылерыі ПП I.

3. Да ўмацаваньня раёну прыступіць зараз-жа пасьля яго заняцьця.

К 12 гадзінам 13.6 павінны быць: расчышчаны абстрэл, выкапаны акопы для стральбы стоячы, абсталяваны назіральныя пункты. На кіраўніцтва работамі дадаюцца два інструктары сапёрна-маскіровачнага ўзвода.

4. Палкавыя патронныя павозкі і перадавы пункт мэдычнай дапамогі разьмесьцяцца ў ак. Гладаўшчызна.

5. Палкавы камандны пункт на вышыні 93,1.

Апрача таго яму было паведамлена, што:

— праціўнік мае танкі сыстэмы Рэно ўзору „мадэрнізаваны";

— па пляну процітанкавай абароны палка вучасткі 1, 2 і 3 у глыбіні абарончай паласы не займаюцца пяхотай, застаючыся свабоднымі для дзейства артылерыі па танках, якія прарвуцца; сыгналы для спыненьня агню па гэтых вучастках: № 1—зялёны, № 2—дымавыя і № 3—сінія ракеты;

— у глыбіні батальённага раёну павінна быць устаноўлена адна процітанкавая гармата 76-мм гармата для забесьпячэньня стыку з II батальёнам;

— перад вучасткам батальёна, супроць в. Валькуша, будуць устаноўлены проціванкавыя фугасы ў дроце; фугасы павінны быць пад агнём батальённай артылерыі і кулямётаў;

— палкавы сыгнал „танкавай трывогі"—чырвоныя ракеты з пунктаў камандзіраў рот I эшалёна, гэты сыгнал паўтараецца батальённым пунктам;

— ротам I эшалёна вылучыць у дадатак да артылерыйскай сеткі назіраньня, якая зьяўляецца і асновай проціганкавага назіраньня, па даным назіральніку, забясьпечыўшы іх сродкамі аптычнай сувязі; назіральнікі павінны трымаць цесную сувязь з перадавым пунктам артылерыйскага назіраньня;

— найбольшыя цяжкасьці пры адбіцьці танкавай атакі сустрэнуцца, калі яна будзе зроблена пад прыкрыцьцём дымавой заслоны, таму пры вятрох, спрыяючых для праціўніка, дбайнасьць войск павінна быць павялічана.

## Работа камандзіра батальёна

Рашэньне камандзіра батальёна і разьмяшчэньне батальёна ў абароне відаць з чарцяжу 18. Далей мы падаем толькі распараджэньні камандзіра батальёна, выкліканыя асаблівасьцямі арганізацыі абароны ў прадбачаньні танкавай атакі праціўніка:

— камандзіру 1-й роты пакінуць палосы, незанятыя пяхотай для стральбы батальённай артылерыі па вучастку супроць в. Валькуша, дзе будуць устаноўлены проціта нкавыя фугасы;

— камандзіру 2 роты пакінуць незанятымі палосы для стральбы проціганкавай гарматы палкавой батарэі (2-я гармата);

— камандзіру кулямётнай роты ўстанавіць 2 узводы ў раёне вышыні 87,0, маючы асноўнай задачай затрымаць і аддзяліць наступаючую за танкамі пяхоту;

— растлумачыць асабоваму саставу асаблівасьці барацьбы з танкамі сыстэмы „Рэно" узору „мадэрнізаваны".

Уласьцівасьці тэтага танку заключаюцца ў наступным: максымальны пад'ём—45$^{0}$, гарызантальны пралёт—1,8 м; брод—0,70 м; звальваньне дрэва—да 29 см; скорасьць да 15 км у гадзіну; узбраеньне—37-мм пушка або кулямёты; браніроўка—дно—6 мм, дах—8 мм; лоб—16 мм. Танк добра бачыць толькі на 200 м.

Пяхоце ўкрывацца ад танкаў і распачынаць з імі барацьбу толькі пры прамой атацы танка на данае падразьдзяленьне. Акопы рабіць ня больш як на аддзяленьне.

## Дынаміка бою

8 гадзін 14.6 пад прыкрыцьцем дымавой заслоны праціўнік атакаваў пры падтрымцы танкаў нашу абарончую паласу. Пярэдні край быў прарваны, танкі распаўсюдзіліся ў глыбіню.

Эпізод I-ы. Камандзір 1-й роты, знаходзячыся на вышыні 87,0, назіраў:

1. З паўднёвага берагу ракі Валькуша, занятага праціўнікам, паднялася дымавая заслона, агонь артылерыі праціўніка быў перанесены на вышыні 85,0, 87,0; чырвоныя ракеты ўзьняліся з пунктаў камандзіраў рот.

2. Станкавыя кулямёты з раёну I і II узвода адкрылі агонь перад пярэднім краем абарончай паласы. Дымавая заслона, павольна рухаючыся, захапіла пярэдні край. Наша артылерыя ўзяла агонь па раёну в. Валькуша.

3. Агонь па вучастку I і II узводаў прыняў бязладны характар. Прыбег пасыльны ад I узвода і паведаміў: „узвод атакаваны танкамі, батальённая пушка зьнішчана, камандзір узвода забіты“.

Адначасова камандзір роты ўбачыў пяць танкаў, якія рухаліся ў кірунку вышыні 85,0. Станкавыя кулямёты кулямётнай роты, разьмешчаныя ў раёне вышыні 87,0, спынілі агонь. Калі танкі дайшлі да дарогі, ад сялянскага двара (Сял. дв.) насельніцтва, што ў $1^1/_2$ км на поўнач заходнюю ад Сял. дв., на вышынях у 500 м на поўдзень заходні ад 87,0, паказалася пяхота праціўніка.

Камандзір роты загадаў:

— узводу станкавых кулямётаў адкрыць агонь па пяхоце праціўніка;

— III узводу I-й роты атакаваць праціўніка ў кірунку дарогі на в. Валькуша і адкінуць за пярэдні край.

Разбор. Не разьбіраючы распараджэньняў камандзіра I батальёна, якія вынікалі з агульнага пляну процітанкавай абароны палка ў першым эпізодзе, адзначаем наступнае:

1. Рашэньне камандзіра 1-й роты прапусьціць танкі ў раён вышыні 85,0 зьяўляецца зусім правільным, бо асноўнай задачай дзействаў пяхоты будзе разьяднаць пяхоту праціўніка з танкамі, зьнішчыць узаемадзейства паміж імі.

2. Агонь ружэйны і кулямётны звычайнымі кулямі не сапраўдны супроць броні танкаў, таму агонь па танках (ружэйны і кулямётны) трэба адкрываць толькі тады, калі танк атакуе непасрэдна кулямёт або стралковае аддзяленьне. Агонь трэба весьці звычайнымі кулямі па назіральных шчылінах. Рашэньне камандзіра ўзвода кулямётнай роты, разьмешчанага ў раёне вышыні 87,0 не адкрываць агонь па танках зьяўлялася зусім мэтазгодным.

Эпізод 2-гі. Камандзір другой гарматы 1-й палкавой батарэі, займаючы пазыцыю ў раёне вышыні 89,2, бачыў:

1. II узвод 2-й роты адыходзіў у кірунку вышыні, што 250 м на захад ад 89,2, самая вышыня 89,2 абстрэльвалася агнём артылерыі праціўніка.

2. II батальён вёў бой за вышыню 83,6, занятую праціўнікам. Адначасова з кустоў, што ў раёне шашы, зьявіліся два танкі, якія хутка ішлі ў кірунку карчмы на шашы. Камандзір гарматы пачакаў, і калі першы танк стаў набліжацца да стыку шашы з палявой дарогай, загадаў адкрыць агонь. Абодва танкі павярнулі на гармату, другім стрэлам была перабіта вусеніца аднаго з танкаў, і танк спыніўся. У гэты час другі танк абышоў гармату з вучастка I узвода і адкрыў агонь па гармаце.

Гарматны разьлік быў расьсеяны агнём. Танк рушыў на гармату, працягваючы весьці агонь. Калі ён дайшоў да кустоў, у якіх была разьмешчана гармата, адзін з нумараў падбег да танка і кінуў зьвязку ручных гранат пад вусеніцу. Вусеніца была перабіта, танк спыніўся.

Разбор. У другім эпізодзе адзначым характэрныя моманты дзейства кінжальнай гарматы:

— месца пазыцыі яе павінна быць выбрана з такім разьлікам, каб паласа, пакінутая для абстрэлу, не займалася пяхотай, але ў той-жа самы час не перашкаджала яе дзействам. З прычыны гэтага выбар пазыцыі і ўстаноўка гарматы павінны быць узгоднены з начальнікамі пяхотнага злучэньня, на вучастку якога гэта гармата дзейнічае;

— патрэбна самая старанная маскіроўка гарматы і надзейнае ўкрыцьце разьліку, бо толькі ўпэўненасьць, што танку нялёгка будзе зьнішчыць гармату, дасьць патрэбную стойкасьць і чоткасьць у рабоце;

— дыстанцыі да характэрных мясцовых прадметаў у паласе, адведзенай для гарматы, павінны быць загадзя вымераны;

— неабходна пры разьмяшчэньні знарадаў улічваць, каб яны ня былі складзены побач з гарматай у адным месцы, бо пры прамым пападаньні гэта выклікае гібель разьліку гарматы;

— увесь разьлік павінен быць забясьпечаны ручнымі гранатамі;

— неабходна, каб перамена пазыцыі і адыход ПТ гармат адбываўся цэнтралізавана, інакш ня будзе ні ўзаемнай выручкі гармат, ні манэўра агнявымі сродкамі ПТА. Пры выкарыстаньні ПА, як сродку ПТА гэта задача ляжа на камандзіраў батарэй і камандзіра дывізёна ПА.

## Процітанкавая барацьба ў вартавым ахаваньні

## (Тактычны прыклад)

(Плян В. Белаліпецкага. Зборны плян і аркушы 5 і 6).

**Абстаноўка** (чарцяжы 19 і 20).

5. 8. 30. 8-я к. д. была выбіта моцнымі пяхотнымі часьцямі праціўніка з бронямашынамі з г. Гродна і адышла на паўднёвыя яго ўскраіны. Уся чыгунка, м. Новы двор, г. Гродна ў руках праціўніка.




Чарц. 19.

5-я стралковая дывізія мае задачай аўладаць раёнам Гродна. К 20 гадзінам пасьля 30 км пераходу часьці дывізіі і яе суседзі займалі наступнае палажэньне: выведка на лініі р. Каменка; паходнае ахаваньне р. Лікоўка, Путна, Радзевічы М. Кузьня;—15 с. п. з 1/5 а. п. у м. Індура; 14 с. п. з III/5 а. п.—Дубовая; 13 с. п. з II/5 а. п.—Вялікая Жарнаўка. На правы флянг павінна адысьці 8 к. д., зьлева 10 с. д.—галоўнымі сіламі ў раёне Грабяні—Навадзелі і на поўдзень ад іх. Панаваньне ў паветры на нашым баку,

Надвор'е пахмурае, але сухое. Раніцамі туману няма. Дарогі сухія і лёгка праходныя. Р. Каменка: шырыня—4—10 м. глыбіня $3/4$—$1 1/2$ м, берагі крутыя, але сухія; р. Баярка: шырыня 3—7 м, глыбіня 1—2 м, берагі балоцістыя, дно вязкае і глеістае, броды толькі для адзіночных людзей. Лясы і гаі: таўшчыня

дрэваў 20—30 см, гушчыня—сярэдняя. Палі ўбраны, але ня ўсюды, пасевы яшчэ застаюцца на палёх у раёне, прылягаючым з поўдня ўсходняга да в. Іванаўцы,

Задача (чарц. 21).

У18$^{30}$—у в. Дубовая знаходзіўся камандзір III батальёна 14 с. п. з камандзірам дывізіёна ПА і сваім начальнікам штаба і тут атрымаў ад начальніка штаба дывізіі зьвесткі аб абстаноўцы і наступную задачу:

1. „Ваш вартавы атрад № 2 у саставе: III батальёна 14 с. п., палкавой артылерыі, аднэй батарэі III/б а. п., узвода сапроты і хімузвода павінен заняць к 20 гадзінам раён: ур. Глінка—Путна—Іванаўцы (вык.)—Дзямідкава. Задачы вашага атраду: прыкрыць кірунак Гродна—Дубовая. Майце на ўвазе выяўленьне бронямашын (танкі і броняаўтамабілі) у праціўніка. Дывізія заўтра працягвае рух на г. Гродна з мэтай заўладаць гэтым горадам. Авангарды калён пройдуць праз лінію вартавога ахаваньня ў 6 гадзін.

2. Справа ад вас вартавы атрад №1 ад 15 с. п. сваім левым флянгам прымыкае да вашага правага; забесьпячэньне стыку ўскладаецца на ваш атрад.

Зьлева правы флянг вартавога ахаваньня 10 с. д. займае вышыню 100,9. Стык забясьпечваецца 10. с. д.

3. Граніцы паласы выведкі: справа в. Песьлі ўкл., Сенклічы ўкл., зьлева Клінчаны укл., Іванаўцы укл., Мал. Дзямідкава укл., Новікі ўкл. Задача—весьці бліжнюю пяхотную выведку; уперадзе на р. Каменка—конная выведка дывізіі павінна ўтрымаць або зьнішчыць пераправы пры наступленьні моцнага праціўніка.

4. Канец тэлефоннага провада будзе паданы вам у в. Дзямідкава к 19$^{00}$ сёньня. Данясеньні к 22$^{00}$, 3$^{00}$ і 6$^{00}$. Перахоплівайце ўсе выпадковыя павозкі абозу 8 к. д. і накіроўвайце іх на Зарубічы.

## Прыняцьце рашэньня камандзірам III батальёна і арганізацыя процібронявай абароны

Даведаўшыся, што штабам дывізіі ўжо пасланы распараджэньні аб зборы часьцей, даданых III батальёну, у в. Дубовая, камандзір батальёна загадвае свайму начальніку штаба: „Заставайцеся ў вёсцы. Зараз-жа пасьля збору ўсяго саставу вартавога атраду вядзіце калёну ў в. Дзямідкава, растлумачыўшы па дарозе камандзірам абстаноўку і задачу атраду. Я еду на рэкагнасцыроўку і сустрэну вас ў в. Дзямідкава“.

Камандзір батальёна сеў на каня і паехаў уперад. Яшчэ атрымліваючы загад ад начальніка штаба дывізіі, ён уважліва разгледзіў раён вартавога ахаваньня на карце і прышоў да вываду: фронт ахаваньня—каля 5 км, ён падзяляецца на два вучасткі: правы да р. Баярка лясісты і з балотцам—нязручны для дзейства бронясіл; правы яго флянг знаходзіцца ў лесе і ня выклікае ў танкавых адносінах небясьпекі; левы—на захад ад р. Баярка—адкрыты, мае зручныя для праціўніка подступы, упіраецца левым флянгам у вышыню 100,9 (чарц. 21), якая мае камандаваньне над акаляючай мясцовасьцю, перасякаецца гасьцінцам, зручным для руху колавых бронямашын, і ўвогуле небясьпечны ў танкавых адносінах.

Беглая рэкагнасцыроўка мясцовасьці пацьвярджае яго ацэнку і прыводзіць яго да рашэньня: „Займаць фронт дзьвюма вартавымі ротамі з рэзэрвам за цэнтрам. Згрупаваць артылерыю на левым ротным вучастку, зьвярнуўшы ўвагу на забесьпячэньне левага флянгу“.

Ён вярнуўся ў в. Дзямідкава з канчаткова гатовым рашэньнем, паказаным ім на карце (чарц. 21). На вышыні 93,7 ён сустрэў камандзіраў падразьдзяленьняў свайго атраду, якім па сваёй карце і па мясцовасьці аддаў наступныя распараджэньні:

„Ці ўразумелі ўсе камандзіры задачу нашага атраду і абстаноўку, у якой мы знаходзімся зараз і якая можа скласьціся заўтра? Калі ўразумелі, то не забудзьце наступнае: зараз стане цёмна, трэба сьпяшацца з заняцьцем вартавых раёнаў; з трох гадзін да шасьці гадзін раніцы сьветлы час нашай работы, з 2$^{30}$ да трох гадзін самае пэўнае зьяўленьне праціўніка наогул і бранявых часьцей асабліва. Таму нам трэба быць асабліва дбайнымі к канцу нашай вартавой службы.

1. Батальён займае безадкладна вартавы раён № 2, маючы два вартавыя ротныя раёны і адну роту ў вартавым рэзэрве, згрупаваньне процітанкавых сродкаў у левым раёне.

2. 7 с. р. з кульузводам і дзьвюма гарматамі 1-й батарэі ПА заняць правы вартавы раён з задачай забесьпячэньня стыку з вартавым атрадам № 1.

3. 8 с. р. з кульузводам, дзьвюма батальённымі пушкамі, 2-й батарэяй ПА і аднэй гарматай 1-й батарэі—заняць левы партавы раён.

4. 9 с. р. з кульузводам і хімузводам скласьці вартавы рэзэрв. Разьмясьціцца ў Дзямідкава быць гатовым выступіць на падтрымку вартавых раёнаў і падрыхтаваць абарону на лініі вышыні 93,7 і вышыні з дрэвам і млынам. В. Дзямідкава падрыхтаваць да процібронявай абароны.




Чарц. 21.

5. Камандзіру палкавога артдывізіёна: 1) батарэю III/5 а. п. разьмясьціць на закрытай пазыцыі ў раёне Дзямідкава з задачамі: весьці агонь па подступах да вартавога раёну; падтрымаць дзействы вартавога рэзэрву; быць гатовай да адбіцьця танкавай атакі на грэбені 93,7—вышыні з дрэвам і млынам і 2) арганізаваць процібронявую абарону асобнымі гарматамі палкавой і батальённай артылерыі, для чаго дакладна ўказаць разьмяшчэньне і задачы гармат, дададзеных вартавым ротам.

6. Камандзіру сапёрнага ўзвода: зрабіць завалы, непраходныя для танкаў, на дарогах і прасеках у лесе на поўдні ўсходнім ад Путна і гаі каля ф. Дзямідкава.

7. Камандзірам рот паклапаціцца аб пабудове танкавых перашкод перад гарматамі, прызначанымі для танкавай барацьбы: канавы на адкрытых мясцох і сьсяканьні дрэў (высокія пні) там, дзе гарматы можна паставіць у лесе каля краю.

8. Камандзірам вартавых рот весьці выведку да Сенклічы—Новікі. Граніца паміж 7-й і 8-й ротамі—гасьцінец (для 8-й роты).

9. Я буду знаходзіцца ноччу ў Дзямідкава, а з дзьвюх гадзін наназіральным пункце—млын, што на поўнач заходнюю ад Дзямідкава. Тэлефонны провад падаць к 21 гадзіне для камандзіра 7-й роты на паўночна-усходні вугал ур. Крывое, для камандзіра 8-й роты—на вышыню 91,4 на поўнач ад ф. Влукі.

Сыгналізацыя: 1) сьветавая: чырвоныя ракеты—танкі, сінія—колавыя бронямашыны, дзьве зялёныя—пяхота; 2) гукавая: сыгнал на ражку—„трывога".

10. Пароль — ... Водзыў — ...[1])

Роты разышліся па сваіх раёнах. Камандзір палкавога артдывізіёна сабраў камандзіраў батарэй і аддаў наступныя распараджэньні: „адказнымі за арганізацыю агнявой процітанкавай абароны ў ротных вартавых раёнах зьяўляецца: камандзір 1-й палкавой батарэі—за раён 7-й роты і камандзір 2-й палкавой батарэі—за раён 8-й роты. Камандзір атраду намеціў такую расстаноўку батальённых і палкавых гармат (паказвае палажэньне на схэме 20). Удакладніце гэта палажэньне на мясцовасьці і далажыце мне ў 23 гадзіны. Я буду ў Дзямідкава". Камандзіры батарэй нанесьлі на свае карты намечаныя камандзірам дывізіёна кропкі стаяньня процітанкавых гармат і паехалі разводзіць гарматы ў гэтыя кропкі, маючы на ўвазе атрымаць указаньні па гэтым пытаньні і ад адпаведных камандзіраў рот.

Камандзір дывізіёна, аддаўшы распараджэньне і батарэі III дывізіёна, накіраваўся ў суседні (левы) вартавы атрад, каб высьветліць, як будзе арганізавана ахаваньне на вышыні 100,9. У в. Радзевічы ён знайшоў камандзіра роты 30-га с. п., які яму растлумачыў; „Вышыня 100,9 уваходзіць у мой ротны вартавы раён, на самай вышыні ў мяне кулямётны і стралковы ўзвод, а ў доўгім гаі, на поўдзень ад вышыні, стаіць палкавая пушка з задачай абстрэлу подступаў да вышыні 100,9; гармаце дадзена ў прыкрыцьце стралковае аддзяленьне.

„Маей роце пастаўлена задача закрыць кірунак: Дойлідкі, Падліпкі".

Пасьля гэтага камандзір дывізіёна накіраваўся ў раён агнявой пазыцыі батарэі III дывізіёна. Яна ўжо стаяла на пазыцыі ў $1/2$ *км* на поўдзень усходні ад вышыні 93,7. Камандзір агнявога ўзвода яго сустрэў на батарэі і далажыў яму: „Батарэя гатова да адкрыцьця агню; сувязь з камандзірам батарэі (вышыня з млынам) ёсьць. На выпадак зьяўленьня танкаў, батарэя мае выведаныя і падрыхтаваныя выкаты гармат уперад на грэбень: на ўсход ад вышыні 93,7 або на захад ад яе".

Ужо ў цемнаце, натыкаючыся на патрулі, камандзір дывізіёна дабраўся да в. Дзямідкава. У штабе батальёна ён знайшоў камандзіра 2-й палкавой батарэі, які далажыў яму, што гарматы пастаўлены прыкладна там, дзе меркаваў камандзір дывізіёна.

К $23^{00}$ былі атрыманы данясеньні і схэмы, з якіх былі ясны як разьмяшчэньне пяхоты і артылерыі, так і інжынэрныя мерапрыемствы па бранявой абароне (чарц. 21).

У $24^{00}$ была паслана ў штаб дывізіі схэма разьмяшчэньня вартавога атраду

## Дынаміка бою

(Чарц. 20 і 21)

1. У $24^{00}$ штаб батальёна ў Дзямідкава затрымаў ехаўшага коньніка, які аказаўся байцом эскадрона. Ён вёз данясеньне ў штаб дывізіі; начальнік вартавога атраду прачытаў яго: „у $23^{20}$ зьбіты раптоўным налётам коньніцы праціўніка каля Каменка. Адышоў і зьбіраю разьезд у Лайгаболі. 2 забітых. Начальнік разьезду № 2—каму звода Паўлаў". На пытаньні чырвонаармеец эскадрона мог толькі сказаць, што яны хутка адышлі ад праціўніка на Лайгаболі, дзе і спыніліся. У Лайгаболі бою ня было.

Начальнік атраду паведаміў па тэлефоне камандзірам рот і асабіста камандзіру артдывізіёну аб тым, што здарылася, і выказаў думку, што мэтай начнога налёту праціўніка зьявілася бязумоўна жаданьне захапіць пераправы цераз р. Каменка.

---

[1]) Рэкамэндуецца пры чытаньні гэтага прыкладу нанесьці рашэньне камбату з чарцяжу 21 на чарцёж 20.

Ноч прайшла спакойча. Праціўнік ніякіх спроб да руху не рабіў.

Ужо расьвітала (начальнік атраду паглядзеў на гадзіньнік,—было $2^{30}$). Прышло данясеньне ад выведчай пешай парты з Лайгаболі: „У 2 гадзіны дзьве бронямашыны, атрад коньніцы і пяхоты на грузавіках прайшлі міма Лайгаболі. Наш разьезд адышоў на поўдзень усходні. Я адыходжу ў паўднёва-заходнім кірунку. Камузвод Варушын".

У момант атрыманьня данясеньня камандзір батальёна, знаходзячыся на паўночнай ускраіне в. Дзямідкава, пачуў уперадзе па гасьцінцы перастрэлку і потым убачыў два сілуэты бронямашын, якія спускаліся па гасьцінцы ў лагчыну з адзнакай 78,9 і некалькіх коньнікаў, якія ехалі за гэтымі бронямашынамі (чарц. 20). Па іх вялі агонь кулямёты (відавочна з раёну 7-й роты). Агонь прымусіў кавалерыстаў павярнуць назад, а бранявікі, падышоўшы да ўкрытага месца на гасьцінцы (адзнака 78,9) павярнулі назад, абстрэляныя агнём пушкі, № 3. Ім удалося бяз страт адыйсьці за грэбень вышыні 88,4.

2. Камандзір 8-й роты данёс па тэлефоне, што ў кірунку за Мал. Дзямідкава чутна моцная кулямётная перастрэлка.

Каля $2^{40}$ камандзір 7-й роты данёс, што ад вышыні 99.2, на поўнач ад ур. Глінка, на вышыню 102,1 наступае каля ўзвода пяхоты. Праціўнік спынены агнём станкавага кулямёта з вышыні 102,1 і залёг.

Камандзір батальёна перадаў па тэлефоне камандзіру батарэі: „Падрыхтуйце агонь па выхадах з х. Мал. Дзямідкава і гаю на захад ад яго".

У $2^{45}$ завязалася моцная перастрэлка ў раёне вышыні 91, 4. Пяхота праціўніка, якая спрабавала наступаць невялікімі групкамі, была спынена агнём станкавага кулямёта з вышыні 91,4. Ад в. Радзевічы адкрыла агонь батарэя суседа. З вышыні з млынам, куды перайшоў камандзір III батальёна (начальнік атраду), былі відаць разрывы шрапнэляй у кірунку на Мал. Дзямідкава.

Некалькі выпушчаных гранат лягло ў раёне вышыні 91.4. У $2^{45}$ начальнік штаба батальёна данёс па тэлефоне ў штаб дывізіі аб наступленьні праціўніка на вартавы атрад № 2. Батарэя 3 дывізіёна адкрыла агонь па подступу да вышыні 91, 4. Высьветлілася, што праціўнік наступае іменна ў гэтым кірунку.

У 3 гадзіны па тэлефоне і ракетамі—сыгнал „танкі" і данясеньне камандзіра 8-й роты: з гаю х. мал. Дзямідкава вышла 5 танкаў: атакуюць вышыню 91,4. Адна батарэя праціўніка адкрыла агонь па вышыні 91,4.

3. Далей падзеі разьвіваліся ў наступным парадку: як і даносіў камандзір 8-й роты, узвод танкаў вышаў і атакаваў вышыню 91,4 падвойным абхватам з усходу і захаду. Адкрыла агонь батальённая пушка № 1, але танкі, зьнішчыўшы яе, бесьперашкодна дайшлі да вышыні 91,4, дзе трапілі пад агонь батальённай пушкі № 2, гарматы № 4 і пад флянгавы агонь гарматы № 3. Адзін танк быў падбіты. Танкі зьнішчылі станкавы і ручны кулямёты. Адно стралковае аддзяленьне і адзін ручны кулямёт захоўваліся ад танкаў і, пачакаўшы, калі танкі пайшлі ўперад, адкрылі агонь па пяхоце праціўніка, якая выходзіла на паўночныя спады вышыні 91,4, сілай каля $1^1/_2$ узвода (да $^1/_2$ роты). Узрывам гранаты гарматы № 3 у левага танка была перабіта вусеніца, і ён спыніўся.

Усе гарматы адкрылі агонь па астатніх танках, якія накіраваліся ўперад, а ў гэты час падбіты танк адкрыў агонь з пушкі па гармаце № 4, а потым і па абаронцах вышыні 91,4; гэты агонь з блізкай адлегласьці даў магчымасьць пяхоце праціўніка хутка заняць гэту вышыню.

У гэты-ж час некалькі танкаў пайшлі ў атаку на вышыню 100,9.

Начальнік атраду, ведаючы ўсё гэта і тое, што 7-я рота лёгка спыніла пяхоту праціўніка перад сваім фронтам, загадаў батарэі адкрыць агонь па вышыні 91,4 і падрыхтаваць агонь па гаю на поўдзень ад 91,4. Камандзір 8-й роты данёс па тэлефоне: „Трымаюся яшчэ ў гаі... на мой пункт ідуць танкі"... Провад парваўся.

Гарматы № 3 і № 6 адкрываюць на прыцэле 27 агонь па танках, якія перайшлі ўжо на вышыню 91,4.

Гармата № 5 адкрыла агонь па двух танках, якія абыходзілі гай каля ф. Влукі з захаду. Гранаты чорным дымам ірвуцца каля аднаго танка. Танк спыніўся і адкрыў агонь з пушкі па гармаце, другі хутка пайшоў на гармату № 5. Камандзір гарматы ня ведае куды страляць. Адзін танк страляе, але стаіць на месцы, другі ідзе; яшчэ 1—2 мінуты, і ён зьнішчыць гармату. Ён хутка выбраў „па

танку, які спыніўся, прыцэл 20. Агонь". Адзін стрэл, другі па танку, адзін... два... тры... чатыры...—па гармаце. 37-мм знарад б'е рыкашэтам па вобаду кола... трэці стрэл па танку... З танка дым і ўзрыў з сярэдзіны. „Па атакуючаму танку. 10. Агонь". Па гармаце танк сыпле агнём кулямёта. Падае камандзір гарматы... Адзін стрэл... Другі... Танк паварачваецца і поўным ходам захоўваецца ў вёсцы Іванаўцы...

Дзьве батарэі праціўніка адкрываюць агонь па ф. Дзямідкава і па паўночнай ускраіне Дзямідкава.

Ад камандзіра 8-й роты: „Пяхота праціўніка ў гаі... Адыходжу...

Два танкі ад вышыні 91,4 ідуць на гармату № 5 пад дальнім флянгавым агнём гарматы № 6. Выпаўзае з вёскі Іванаўцы танк... Тры танкі з двух бакоў атакуюць гармату. Батарэя б'е па гаю каля ф. Влукі, адкуль выходзіць пяхота. На вышыні 91,4 зьяўляецца два кулямёты...

Камандзір 7-й роты па тэлефоне: „Накапіўшыся ў вёсцы Путна, узвод праціўніка раптоўна атакаваў і заўладаў вышынёй 85,2".

Пасьля заядлай бараць бы супроць лёгкаманэўруючых танкаў, гармата № 5 гіне. Стралковы ўзвод, які знаходзіўся на вышыні 97,6, хутка адышоў назад і падзяліўся па аддзяленьнях у няскошаным хлебе.

Начальнік атраду загадвае камандзіру батарэі: „Безадкладна самы моцны агонь па танках. Рыхтуйцеся да выезду на адкрытую пазыцыю.

Камандзіру 7-й роты: „Флянгавы агонь кулямётаў па пяхоце на вышыні 91,4". Камандзір 7-й роты адказвае: „Адкрываю па пяхоце агонь двума станкавымі кулямётамі ад фальварка; бачу тры танкі, пераходзяць лагчыну на поўдзень ад хутару Мал. Дзямідкава".

Лёгкі кулямёт, які захаваўся на грэбені на поўдзень ад вышыні 91,4 б'е ва флянг пяхоту праціўніка.

Гармата № 2 адкрывае агонь па новых танках, але хутка падаўляецца агнём батарэі.

Батарэя III дывізіёна адкрывае агонь па трох танках каля вышыні 97,6.

Камандзір батальёна загадвае. „Камандзіру кулямётнай роты. Агонь па пяхоце праціўніка каля 91,4 і каля гаю".

Па тэлефоне ў штаб дывізіі:

„Зьявіўся другі ўзвод танкаў. Падбіта тры гарматы. Ачышчаны ўвесь левы ротны вартавы раён, Тры танкі ідуць на вышыню 93,7. Прашу артылерыйскай падтрымкі". Адказ: „Гаворыць начальнік артылерыі. Праз пяць мінут (у чатыры гадзіны) чатыры батарэі адкрыюць агонь па танках. Не дапускайце першыя тры танкі за грэбень 98,7—вышыня з млынам і дрэвам".

Тры батарэі адкрылі агонь па танках. Пад даўленьнем артылерыйскага агню танкі, а пад даўленьнем кулямётнага—пяхота праціўніка адышлі ва хутар Мал. Дзямідкава, прыкрываючыся агнём аднэй батарэі.

9-я рота пры падтрымцы батарэі перайшла ў контратаку на вышыню 91,4. Камандзір 7-й роты ў 4[30] данёс, што каля Мал. Дзямідкава пяхота садзіцца ў аўтамашыны. Праціўнік адышоў.

## Разбор арганізацыі процітанкавай абароны

Ужо з абстаноўкі відаць, што разьлічваць на ўстойлівасьць коньніцы нельга было: г. Гродна быў заняты сьвежымі пяхотнымі часьцямі і бранясіламі, аб тыпе якіх кавдывізія нічога не паведамляла. Трэба было чакаць калі не наступленьне праціўніка, то ва ўсякім разе выведкі буйнымі сіламі, тым больш, што 5-га жніўня авіяцыі праціўніка не ўдалося дабіцца выведчых даных з прычыны вельмі добрай работы нашых зьнішчальнікаў. Чаканьне гэтай рашучай земнай выведкі і пэўнасьць удзелу ў ёй бранясіл (танкавых і броняаўтамабіляй) прымусілі штаб дывізіі зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на процібраняваю абарону. Таму ў вартавы атрад быў вылучаны ня толькі палкавы дывізіён, які цалкам ішоў на процібраняваю абарону, але і батарэя дывізыйнай артылерыі, у задачы якой уваходзіла барацьба галоўным чынам з пяхотай праціўніка. Трэба-было-б даць яшчэ адну батарэю з тым, каб кожны ротны вартавы раён падтрымліваўся асобна батарэяй. Але калі лічыць, што на поўнач ад Дубовая быў вельмі добры рубеж для

разгортваньня артылерыі галоўных сіл, якая магла хутка высунуцца і падтрымаць вартавое ахаваньне, то можна згадзіцца і з рашэньнем камандзіра дывізіі аб саставе вартавога атраду.

Начальнікам штаба дывізіі была правільна ўлічана р. Каменка, як перашкода для руху бронячасьцей, і аддана таму распараджэньне падрыхтаваць масты да зьнішчэньня.

Начальнік вартавога атраду правільна ацаніў даручаны яму вартавы раён і правільна згрупаваў артылерыйскія сродкі проціброняваі абароны на левым вучастку. Хоць лес у правым раёне вучастку і быў праходны для танкаў, але па гушчыні і таўшчыні дрэваў ён уяўляў для лёгкіх танкаў даволі сур'ёзную перашкоду для таго, каб усякі танкіст палічыў за лепшае ісьці па адкрытым месцы. І гэта тым больш, што ў тыле правага раёну працякала р. Баярка, якая перагараджала шлях на поўдзень.

Абстаноўка прымушала пасьпяшацца з правядзеньнем рашэньня ў жыцьцё. Таму камандзір батальёна хутка прыняў рашэньне, хутка аддаў патрэбныя распараджэньні. Кіраўніцтва арганізацыяй усёй бранявой абароны з боку камандзіра батальёна выразілася ў намётцы разьмяшчэньня гармат па карце і часткова па мясцовасьці, у адданьні ў сувязі з гэтай намёткай адпаведных указаньняў камандзіру дывізіёна.

Апошні ў сваю чаргу даў указаньні камандзірам батарэй.

Мы думаем, што гэта праходзіла нармальна. Пры вялікім запасе часу трэба было зрабіць камандзіру батальёна адпаведную рэкагнасцыроўку, устанавіць на мясцовасьці танканебясьпечныя кірункі, палосы, раёны, і забясьпечыць іх адпаведнымі проціманкавымі сродкамі. Такімі танканебясьпечнымі калідорамі і раёнамі зьяўляюцца: калідор паміж лясамі ўр. Глінка і ўр. Крывое і потым цалкам, увесь левы ротны вартавы раён, які мае толькі асобныя мясцовыя прадметы, якія становяць адносную перашкоду для танкаў—гаечак каля ф. Влукі і в. Іванаўцы. Калі яшчэ ўлічыць тое што і ззаду за гэтым раёнам ніякіх натуральных перашкод для танкаў няма, то стане яснай уся сур'ёзнасьць левага вартавога раёну.

Што датычыцца подступаў да пярэдняга краю вартавога раёну, то трэба прызнаць, што для танкаў ніякіх перашкод няма, нават наадварот, у паласе на захад ад гасьцінцу цэлы рад мясцовых прадметаў дае скрытныя подступы як для пяхоты, так і для танкаў.

Ці дастаткова артылерыйскіх проціманкавых сродкаў? Трэба лічыць, што на раён можа выйсьці рота танкаў (15 танкаў), а адразу можа зьявіцца да 10 танкаў; у левым раёне ёсьць дзьве батальённыя і чатыры палкавыя пушкі; лічачы што ў спрыяючых умовах і скорасьці руху танкаў 15 км у гадзіну кожная гармата можа падбіць два танкі, мы будзем мець становішча, калі 4-5 танкаў здолеюць усё-такі праскочыць далей. Зьнішчэньне іх павінна зьявіцца задачай батарэі на поўдзень ад Дзямідкава і ўсёй артылерыі галоўных сіл. У задачу-ж пяхоты з яе агнявымі сродкамі павінна ўвайсьці ўкрыцьце ад танкаў і быць у поўнай гатоўнасьці сустрэць пяхоту праціўніка. Наколькі будзе пяхота маральна вытрыманай, каб не ўцякаць ад танкаў, а сустракаць пяхоту, маючы танкі і агонь сваей артылерыі ў тыле, настолькі можна чакаць посьпеху ад адбіцьця танкавай атакі.

Разьмяшчэньне проціманкавых гармат зварачвае на сябе ўвагу тым, што за малым выключэньнем усе гарматы разьмешчаны ў якім-небудзь танкавым укрыцьці: населеным пункце або лесе. У нашых умовах няма натуральных моцных перашкод для танкаў, нават рэчка Баярка мае броды. Таму перашкоды, якія ёсьць трэба ўзмацніць інжынэрнымі работамі: у лесе зрабіць завалы або, калі ёсьць час, высекчы перад гарматай лес з такім разьлікам, каб вышыня пня перавышала „клірэнс“[1]; капаць шырокія канавы (у нашых умовах апошняе нельга зрабіць за недахопам часу). Зварачвае на сябе ўвагу

---

[1]) Клірэнсам называецца адлегласьць ад дна танка да зямлі: пры пападаньні на пень па вышыні большым за клірэнс танка, апошні завісае на ім і траціць аднэй з вусеніц стыканьне з зямлёй.

кропка стаяньня гарматы № 3: яна, маючы сэктар абстрэлу ў левым ротным вартавым раёне, стаіць у межах правага раёну. Гэта дае ёй выгоды разьмяшчэньня за непраходнай для танкаў рэчкай Баярка.

Самым нявыгодным зьяўляецца разьмяшчэньне гарматы № 5 на вышыні 97,6. Тут неабходна замаскаваць гармату як можна лепш, што будзе дасягнута перш за ўсё, калі выкапаць больш глыбокую пляцоўку пад гармату. Бязумоўна, што перад гарматай прыдзецца выкапаць некалькі равоў, якія затрымалі-б рух танкаў.

Наогул трэба памятаць, што гарматны разьлік трэба забясьпечыць упэўненасьцю, што пры ўсякіх умовах танк да гарматы ня дойдзе і яе ня зьнішчыць; пры гэтых умовах можна разьлічваць на спакойную і спрытную работу нумароў. У нашым прыкладзе іменна гэты прынцып і захаваны. З прычыны гэтага няма ні адней гарматы, якая-б стаяла проста на шляху руху танкаў; усе займаюць флянгавае палажэньне ў адносінах да гэтага кірунку. Разам з тым, трэба памятаць, што гэты прынцып мае і недахопы: лягчэй наводзіць у лоб, чым у борт танка; у апошнім выпадку павялічваецца вуглавая скорасьць танка і павялічваецца цяжкасьць наводкі.

Зусім правільным было рашэньне начальніка атраду: даць увесь сапёрны ўзвод праваму раёну. Мясцовасьць гэтага раёна вызначала найбольш карысная ўжываньне інжынэрных сродкаў танкавай абароны пры слабым выкарыстаньні агнявых сродкаў, якія павінны былі быць выкарыстаны там, дзе інжынэрныя спосабы барацьбы не далі-б рэзультатаў.

Вялікай памылкай было тое, што штаб дывізіі ня вылучыў у вартавы атрад процітанкавых мін. Трэба было вылучыць ня менш 500—600— мін, якія прыкрылі-б вышыню 91,4 з поўначы усходняй і поўначы, з боку найбольш магчымых пазыцый для танкаў. Гэту колькасьць мін узводам сапёр можна было укласьці на працягу $1^1/_2$ гадзіны, што і магло быць выканана да надыходу цемнаты. Пасьля згортваньня вартавога атраду міны таксама хутка маглі быць сабраны і ўкладзены на павозкі.

Узмацненьне атраду па крайняй меры 600—1000 мінамі дало-б 300-600 *м* міннага поля. Ня шкодзіла-б таксама ўзмацніць атрад яшчэ адным узводам сапёр.

Некалькі слоў аб ролі камандзіра штаба і старшага артылерыста ў арганізацыі проціброняваай абароны.

Рашэньне па ПБА прымае камандзір, штаб разьвівае яго ў флянг і аддае адпаведныя ўказаньні выканаў цам, у прыватнасьці артылерысту.

У даным выпадку плян быў просты і вычэрпваўся рашэньнем камандзіра вартавога атраду. З другога боку часу ў начштаба было мала, каб заняцца выключна ўказаньнямі і кантролем па ПБА, а камандзір дывізіёна ПА фактычна быў у значнай меры беспрацоўным, бо ўвесь дывізіён быў разьмеркаваны па гарматах. Таму ў даным выпадку было зусім мэтазгодна даручыць правядзеньне ў жыцьцё рашэньня і кантроль над выкананьнем артылерысту, вызваліўшы начальніка штаба ад гэтага для выкананьня ўсёй астатняй работы ў кароткі тэрмін да надыходу цемнаты.

## Разбор дзеяньняў пры адбіцьці танкавай атакі

Танкам удалося ўвайсьці з-пад стрэлаў 3-й і 6-й гармат, якія стралялі на рубяжы 27, г. зн. далей за 1 *км*, калі стральба па танках, якія хутка рухаліся, мала сапраўдная.

Наш статут рэкамендуе пяхоце заставацца на месцы і чакаць пяхоты праціўніка. Але у даным выпадку камандзір узвода зрабіў правільна: ззаду ў некалькі дзесятках крокаў была шырокая паласа няскошанага хлеба. Ен і парашыў захаваць у ёй узвод ад танкаў, падзяліць яго па аддзяленьнях.

Трэба сказаць, што так яму і трэба было-б трымаць узвод адразу. Але камандзір роты, жадаючы забясьпечыць разьмяшчэньнем пяхоты гармату № 5 і мець кулямёты абстрэл з вышыні 97,6, загадаў разьмясьціцца заставе каля самай вышыні 97,6.

Гармата № 2 стаяла на спадзе, абернутым да праціўніка і, як толькі адкрыла агонь, была выяўлена ім і хутка падаўлена агнём батарэі. Гэта лішні раз даказвае, што трэба, як правіла, ставіць палкавыя гарматы, прызначаныя для барацьбы з танкамі, на адваротных спадах або больш правільна наогул замясцовым прадметам, які захоўвае гарматы ад назіраньня праціўніка. Калі-ж трэба паставіць на спадах, абернутых да праціўніка, то трэба адкрываць агонь на кароткіх адлегласьцях, а ня так, як гэта было зроблена.

Праціўнік адышоў і зрабіў гэта ў час, Ён дзейнічаў напэўна выведчым атрадам, які меў задачу высьветліць сілы і групоўку праціўніка ў даным раёне. Ён гэтай задачы, па праўдзе кажучы, дабіўся, прымусіўшы загаварыць 7 батарэй на Адэльскім кірунку. Далей наступаць яму ня было сэнсу, бо гэта значыла-б, не дабіўшыся вялікіх выведчых даных, панесьці вялікія страты, якія не апраўдваліся мэтамі. Такім чынам не агонь сямі батарэй быў прычынай адыходу танкаў і ён ня быў выкліканы боязьню паядынку танкаў з артылерыяй.

Мы павінны адзначыць другое пытаньне: батарэі павінны былі біць па пяхоце праціўніка, а не па танках. Тады танкі, адарваныя ад спыненай пяхоты, нямінуча павінны былі-б вярнуцца, бо іх было мала для самастойных дзействаў.

Цяпер нам трэба практычна праверыць правільнасьць ня толькі арганізацыі, але і кіраўніцтва і правядзеньня процітанкавай абароны ў дзействе.

Разьмяшчэньне процітанкавых гармат было эшалёнавана: 1) батальённыя пушкі, 2) першы эшалён палкавых пушак, 3) другі эшалён палкавых пушак і 4) эшалён дывізійнай артылерыі (батарэі),—г. зн. чатырмя лініямі процітанкавых сродкаў.

Расьцягнутасьць разьмяшчэньня пяхоты (вышыню 91,4, гай і паўночную частку Іванаўцы займаў толькі адзін узвод) і дзействы праціўніка ўдарам у гэтым кірунку тлумачаць слабае супраціўленьне пяхоты, якая дазволіла праціўніку заняць ф. Влукі, гай і нават вышыню 91,4, ня гледзячы на тое, што праціўнік дзейнічаў толькі аднэй пяхотнай ротай з двума кулямётнымі ўзводамі і аднэй батарэяй.

Аднак трэба сказаць, што атрад сваю задачу выканаў, ня даўшы праціўніку прарваць наскрозь сваё разьмяшчэньне. Ва ўмовах кароткачаснай арганізацыі процітанкавай абароны, якая ня мае спыняючых танкі перашкод, на большае цяжка і разьлічваць.

У заключэньне мы падкрэсьліваем, што:

1. Вартавое ахаваньне як тып абароны на шырокім фронце ня здольна да моцнага процітанкавага супраціўленьня.

2. Вартавое ахаваньне аднак пры правільнай арганізацыі процібранявой абароны, добрай вывучцы войск, асабліва пяхоты, і тым больш пры спрыяючых умовах мясцовасьці можа разьлічваць на тое, каб нанесьці даволі моцнае паражэньне танкам, якія прарываюцца праз вартавое ахаваньне да адыходзячых войск, затрымаць іх і гэтым даць падрыхтавацца галоўным чынам да адбіцьця танкаў.

3. Такім чынам пытаньне нельга вырашаць так: дало вартавое ахаваньне прарвацца або не дало, а трэба вырашаць так: наколькі моцная была танкавая група да нападу; якія страты яна панесла; якой яна вышла з сутычкі з вартавым ахаваньнем; якія страты панесла пяхота; улік ўсяго гэтага павінен даць адказ ці справілася са сваёй задачай вартавое ахаваньне?

4. Наяўнасьць ўперадзе перад адпачываючым войскам узмоцненага сродкамі ПТА, ніколькі ня здымае з адпачываючых войск абавязку па арганізацыі непасрэднага процібранявага ахаваньня, назіраньня і апавяшчэньня.

## ПРОЦІБРАНЯВАЯ БАРАЦЬБА НА МАРШЫ

### ВЫБАР КІРУНКАЎ І ЧАСУ РУХУ

Для пасьпяховай барацьбы стралковай часьці з мэханізаванай, як правіла, адночасова неабходна выкарыстаць натуральныя прыкрыцьці і ўжываць актыўныя сродкі барацьбы.

Пры выбары кірунку трэба раней вывучыць карту і на ёй адзначыць:

— месцы, дзе танкі ня могуць прайсьці ў даны час году;

— вучасткі, зручныя і нязручныя для дзействаў мэханізаваных часьцей.

Зьвесткі гэтыя неабходна дапоўніць выведкай і апытаньнем мясцовых жыхароў.

Кірунак руху выгодна намеціць такі, які прыкрываўся-б натуральнай перашкодай. Магчыма, што гэта натуральнае прыкрыцьце будзе ўперадзе,—тады мэханізаваная часьць павінна будзе рабіць абход, гэта зьменшыць скорасьць яе набліжэньня. Калі перашкода знаходзіцца справа або зьлева, то гэтым выключаецца магчымасьць нападу мэханізаванай часьці з флянгу і палегчыцца ахаваньне на маршы. Але трэба памятаць, што амаль усякая перашкода можа быць перамажана: рэчкі—па пераправах, лясы—па дарогах і г. д. Таму неабходныя праціўніку пераправы і цясьніны павінны быць загадзя заняты пяхотай з артылерыяй, каб спыніць праціўніка або хоць-бы затрымаць яго настолькі, каб стралковая часьць магла прайсьці найбольш небясьпечны вучастак шляху.

На выбар кірунку таксама акажа ўплыў наяўнасьць адпаведнай дарогі (выгоднай для барацьбы з танкамі) і раду паралельных дарог для руху бакавых атрадаў. Пры выбары дарогі трэба ўлічваць характар самой дарогі і мясцовасьці па абодвух бакох дарогі. Бязумоўна больш выгоднай зьяўляецца дарога, якая праходзіць праз вялікую колькасьць несельных пунктаў, абсаджаных дрэвамі, маючая канавы, дарога, якая праходзіць па краі лесу, па беразе ракі або ўдоўж якой-небудзь перашкоды. Усе гэтыя элемэнты перашкодзяць руху танкаў і палегчаць барацьбу з імі. Наяўнасьць раду паралельных дарог дасьць магчымасьць выслаць бакавыя атрады з артылерыяй для ахаваньня калёны галоўных сіл.

Выбіраючы дарогу, трэба ацаніць мясцовасьць па абодвы бакі ад яе. Перавага будзе аддана тэй дарозе, па бакох якой мясцовасьць становіць сабой укрыцьце для стралковых часьцей (наяўнасьць лагчынак, канаў, ровікаў, ям) і наадварот перашкаджае манэўраваньню мэханізаваных часьцей.

Часам кірунак, выбраны такім чынам, будзе больш доўгім па адлегласьці, але гэта яшчэ не азначае, што ён ня будзе больш кароткім па часу, які патрэбен для праходу гэтай адлегласьці.

З пункту погляду барацьбы з мэханізаванай часьцю рух ноччу, асабліва цёмнай, вельмі выгодны бо дзействы мэханізаванай часьці ў цемнаце вельмі цяжкія. Але начны марш наогул больш цяжкі для войск, чым дзённы, ды абстаноўка можа патрэбаваць перасоўваньня днём; апрача таго летнія ночы настолькі кароткія, што не дадуць магчымасьці зрабіць поўны пераход у цемнаце

Усё-ж такі будуць выпадкі, калі адзінай аховай будзе марш пад прыкрыцьцем ночы ў які-небудзь недаступны для мэх-часьцей, па сваіх натуральных уласьцівасьцях, раён з тым, каб там дачакацца цемнаты, а потым рушыць далей.

## ГРУПОЎКА ВОЙСК НА ПАХОДЗЕ

Цяпер спынімся на пытаньні групоўкі войск на паходзе. Ці павінна яна застацца такой, як пры звычайных умовах правядзеньня маршу, або прадбачаньне сутычкі з мэханізаванымі часьцямі прымушае нас гэту групоўку зьмяняць?

Вышэй мы адзначылі, што асноўным і галоўным сродкам барацьбы стралковай дывізіі з мэханізаванымі часьцямі зьяўляецца артылерыя. Разьбярэм, якая яе роля на маршы.

Лігнаў ў сваёй кнізе „Марши" гаворыць: „Пяхота ўладае найбольшай шпаркасьцю пераходу ў баявое палажэньне... Іншыя роды войск укліньваюцца паміж пяхотай, знаходзячыся пад яе абаронай" (старонка 53). Гэта палажэньне цяпер правільнае ў прадбачаньні сутычкі з такім-жа праціўнікам, г. зн. пяхотай. Зусім іншае атрымліваецца, калі марш робіцца пад пагрозай сутычкі з мэханізаванай часьцю. Шпаркасьці „пераходу ў баявое палажэньне пяхоты" тут мала, бо апошняя амаль нічога ня можа проціпаставіць мэханізаванаму праціўніку ня толькі для абароны родаў войск, якія ў яе ўклінены, але і для ўласнай абароны. Выходзячы з гэтага, групоўка войск на паходзе ў прадбачаньні сутычкі з мэханізаванай часьцю павінна будавацца ў галоўным на стварэньні артылерыйскай асновы, вакол якой усе астатнія роды войск групуюцца. Гэта будуць нібы „артылерыйска-пяхотныя" калёны, якія, у выпадку сутычкі, ператворацца ў „артылерыйска-пяхотныя" баявыя групы. У будучай вайне пагроза сутычкі на маршы будзе звычайным зьявішчам, а не выключэньнем, таму паходны парадак павінен будзе заўсёды складацца з калён з „артылерыйскім касьцяком" у кожнай.

## ДАЎЖЫНЯ КАЛЁНЫ І РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ АКТЫЎНЫХ СРОДКАЎ БАРАЦЬБЫ

Якая-ж павінна быць даўжыня паходнай калёны і як павінны ў ёй групавацца сродкі барацьбы?

У першай частцы ўказвалася, што мэханізаваная часьць, дэманструючы на ўсім фронце, пастараецца сваёй ударнай часьцю--танкамі нанесьці ўдар у адным кірунку. Шырыня фронту атакі гэтага галоўнага ўдару будзе каля 2 км. Таму стралковыя часьці павінны ствараць калёны такой глыбіні, якія не давалі-б магчымасьці танкам выкарыстаць усю шырыню фронту сваёй атакі. Значыць калёна павінна быць даўжынёй ня больш за 1 км, г. зн. адзін стралковы батальён і дзьве батарэі. Разьмяшчэньне артылерыі ў калёне павінна быць такім, каб у выпадку неабходнасьці частка яе магла пасьпець на падмогу ўперад або назад, г. зн. батарэі павінны быць у галаве і хвасьце калёны.

Могуць сказаць, што артылерыя з посьпехам можа пасьпець на падмогу і з сярэдзіны калёны. Але тут ёсьць небясьпека, што дарога не адразу ачысьціцца для бесьперашкоднага праезду артылерыі па тэй прычыне, што сучасная пяхота, гэта—ня толькі стралкі. У яе ёсьць і двухколкі і павозкі, якія ня могуць так хутка зьехаць з дарогі. У выніку ўсё гэта згрудзіцца ў кучу і ня дасьць прайсьці артылерыі.

Насычанасьць артылерыяй нашых войск такая, што ў сярэднім на адзін стралковы батальён прыпадае каля дзьвюх батарэй і каля—чатырох процітанкавых пушак. Усім часьцям ахаваньня дадаецца артылерыя. Батальёнам, якія ідуць у калёне, дадаецца больш артылерыі, чым астатнім батальёнам, па тэй прычыне, што ім прыдзецца прыняць на сябе ўдар выведкі мэханізаванай часьці і спыніць яе. Такім чынам будуць батальёны з дзьвюма батарэямі і з аднэй батарэяй, ня лічачы батальённых гармат.

## РУХ СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ

**Парадак руху.** Разгледзім пытаньне, як выгадней стралковай дывізіі [1]) рухацца ў прадбачаньні сутычкі з мэханізаванымі часьцямі,

Дывізія можа рухацца па аднэй, двух, трох дарогах і калённымі шляхамі. Пры руху па некалькіх дарогах інтэрвал паміж калёнамі можа быць 2—5 км. Калі дывізія рухаецца па аднэй дарозе, то, як відаць з чарц. 22, удар мэханізаванай часьці па флянгу такой калёны закране $2^1/_2$—3 батальёны. У такім выпадку ў барацьбе з танкамі здолее прыняць удзел артылерыя аднаго сэктару (уся калёна падзелена на чатыры сэктары). Гэта складзе 12—18 гармат дывізійнай артылерыі і 4—8 батальённых пушак. Частка гэтых гармат, на якія непасрэдна будзе накіраваны ўдар танкаў, здолеюць адразу прыняць удзел у барацьбе, а артыле-

1) Гэты мэтад можна ўжыць і ў іншых злучэньнях.

рыі, якая знаходзіцца ззаду або ўперадзе, трэба будзе праехаць каля 1—1½ км, каб зблізіцца з танкамі на дыстанцыю сапраўднага агню, г. зн. да 1 км. Калі лічыць, што танкі будуць заўважаны ў 4 км ад калёны і што іх трэба сустрэць агнём на адлегласьці 1 км, то танкам трэба будзе прайсьці 3 км, што будзе патрабаваць 12 мінут. Батарэям для праезду галёпам 1—1½ км і заняцьця пазыцыі патрэбна будзе 4—5 мінут, а 7 мінут гэтыя батарэі будуць мець для падрыхтоўкі агню.

Пры руху дывізіі дзьвюма дарогамі ўдар танкаў у флянг можа закрануць да пяці батальёнаў (чарц. 23). Выходзячы з такіх-жа разьлікаў, як і ў першым выпадку, мы атрымліваем, што адразу




**Чарц. 22.**

ўступіць у барацьбу з танкамі здолеюць 12—18 гармат дывізійнай і палкавой артылерыі і 3—6 батальённых пушак. Пры прасоўваньні танкаў уперад да другой калёны да процітанкавай барацьбы далучаюцца яшчэ 4—6 гармат і 3—6 батальённых пушак, г. зн. усяго прыме ўдзел у барацьбе 16—24 гарматы і 6—12 батальённых пушак.

Калі дывізія пойдзе трыма дарогамі, то ўдар танкаў у флянг можа сустрэць тут каля шасьці батальёнаў (чарц. 24). Прымуць удзел у барацьбе з танкамі спачатку 8—12 гармат і 4—8 батальённых пушак, потым пры прасоўваньні танкаў да другой калёны ў процітанкавую барацьбу ўступаюць яшчэ 6 гармат і 3—4 батальённыя пушкі, і ўрэшце пры праходзе танкаў да трэцяй калёны з імі пачнуць барацьбу яшчэ 8 гармат і 2—3 батальённыя пушкі. Усяго за час бою, які працягнецца ня менш адной гадзіны, прымуць удзел 23—27 гармат і 12—16 батальённых пушак.

Такім чынам мы маем у першым выпадку 3 батальёны, на якія зроблены напад, і каля 18 гармат, прымаючых удзел у процітанкавай барацьбе, у другім выпадку—5 батальёнаў і каля 24 гармат, і трэцім—6 батальёнаў і каля

27 гармат. У першым выпадку гарматы ў бой уступаюць адначасова, у другім і ў трэцім —у розныя час, і ўласна кажучы адначасова у барацьбе з танкамі можа ўдзельнічаць ня больш 15 гармат. Але затое ў другім і трэцім выпадках у другой і трэцяй калёны ёсьць даволі часу для заняцьця абарончага палажэньня і выгодных артылерыйскіх пазыцый. Да ліку гармат, прымаўшых удзел у барацьбе з танкамі, трэба дадаць батальённыя пушкі, якія павялічаць лік гармат у сярэднім на 50 проц.

Такім чынам мы прыходзім да вывадаў:

1. Пры руху па 2-3 дарогах колькасьць актыўных сродкаў барацьбы, якія ўдзельнічаюць у барацьбе з галоўным ударам




Чарц. 23.

механізаванай часьці, большая, чым пры руху па аднэй дарозе. Але пры руху некалькімі дарогамі пад удар мэханізаванай брыгады падстаўляецца і большая колькасьць часьцей.

2. Пры руху па аднэй дарозе ўзьдзеяньне артылерыі на мэханізаваную часьць будзе такім непрацяглым, што апошняя здолее перастроіцца і атакаваць калёну ў другі раз, затрымаўшы гэтым рух, бо калёна ня магла-б рухацца, а павінна была-б прыгатавацца да бою.

3. У выпадку атакі ў флянгі дывізіі на 2-3 дарогах страты мэханізаванай часьці могуць быць настолькі вялікія, што яна ня будзе мець магчымасьці паўтарыць атаку.

4. Пры стральбе артылерыі дывізіі, якая рухаецца па некалькіх дарогах, па мэханізаванай часьці магчыма значнае паражэньне сваіх, асабліва, калі інтэрвал паміж калёнамі будзе невялікі.

5. Калі выходзіць з жаданьня падставіць меншы лік часьцей пад галоўны ўдар мэханізаванай часьці, то выгодна рухацца па адной дарозе. Але паколькі стралковая часьць больш зацікаўлена ў ахаваньні свабоды перасоўваньня, то ёй будзе выгодна рухацца па 2-3 дарогах. У апошнім выпадку абавязковы інтэрвалы паміж калёнамі ў 4-5 *км* для таго, каб: 1) часьці мелі больш часу для падрыхтоўкі да бою, 2) маглі больш трымаць пад агнявым узьдзеяньнем мэханізаваныя часьці, 3) даць магчымасьць сваім часьцям заняць больш разгрупаванае разьмяшчэньне і гэтым мець магчымасьць лепш замаскавацца і несьці меншыя страты ад агню праціўніка і свайго агню.



Чарц. 24.

**Рух.** Цяпер пяройдзем да самага руху стралковай дывізіі, яго арганізацыі, правядзеньня і забесьпячэньня.

Арганізацыя маршу ў прадбачаньні сутычкі з мэханізаванай часьцю падобна да арганізацыі маршу ў прадбачаньні сустрэчнага бою. І там і тут магчымы бой на маршы. Але ў першым выпадку ён значна больш складаны.

Калі адбудзецца сутычка стралковай часьці з мэханізаванай, то падзеі будуць разьвівацца больш шпарка. У камандзіра ня будзе ні часу, ні магчымасьці тады-ж ставіць задачы і ўказваць плян дзействаў. Таму апошні павінен быць распрацаваны загадзя па рубяжох, выходзячы з агульнай ідэі бою ўсёй часьці. Гэты плян пакажа, што рабіць кожнаму начальніку калёны на тым або іншым вучастку шляху ў выпадку сутычкі з праціўнікам.

Адным з мэтадаў папярэдняй наметкі дзействаў можа быць наступны: уся калёна падзяляецца на 4 сэктары[1]) (чарц. 21), якія нумаруюцца. Кожны сэктар мае свой умоўны сыгнал на выпадак, калі галоўны ўдар мэханізаванай часьці быў накіраваны на яго. Плян дзейства распрацоўваецца ва ўсіх часьцях на розныя варыянты да роты і батарэі.

Палітзабесьпячэньне маршу складаецца з: 1) азнаямленьня з тактыкай дзействаў мэханізаванай часьці мерамі барацьбы

---

1) Калі даўжыня калёны ня надта вялікая, напрыклад, полк, батальён, то даволі мець толькі два сэктары.

з імі і 2) падняцця палітыка-маральнага стану. Першае павінна быць зроблена ў мірны час, але перад маршам неабходна на гэтых пытаньнях завастрыць увагу ўсяго асабовага саставу.

Уся палітработа павінна быць накіравана на тое, каб ня было панікі, і каб байцы ўсьвядомілі неабходнасьць самай строгай дысцыпліны і дакладнага выкананьня распараджэньняў.

Разьмяркоўваючы войскі па калёнах, старшы камандзір дае ўказаньні адпаведным начальнікам калён, апошні—сваім падначаленым так, каб указаньні дайшлі да асобнага байца.

Абавязкі байца пры танкавай атацы: 1) усякія зьвесткі аб танку зараз-жа паведамляць свайму камандзіру, 2) у час набліжэньня танка добра захавацца і не хвалявацца, 3) не зварачваць увагі на танкі, якія байца ня выявілі, 4) калі ляцяць свае асколкі, трэба памятаць, што гэта неабходнасьць, і рабіць сабе ўкрыцьце з тылу, 5) калі танк ідзе прама на байца, то падпусьціць яго, як мага бліжэй, і кінуць згрупаваны зарад (зьвязка гранат) пад танк, 6) уцякаць ад танка нельга, ён лёгка можа расстраляць.

**Выведка і ахаваньне.** Пры арганізацыі маршу дальняя выведка павінна дзейнічаць на магчыма шырокім фронце для таго, каб перахапіць кірункі, па якіх можа пайсьці мэханізаваная брыгада. Бліжняя-ж выведка і ахаваньне павінны быць кругавымі, бо нападу мэханізаванай часьці можна чакаць з усіх бакоў [1]).

Задачы выведкі—устанавіць прысутнасьць мэханізаванай часьці, калі можна затрымаць яе, і данесьці галоўным сілам. Калі ёсьць авіявыведка,—а яна неабходна,—то яе задача будзе—выявіць лінію перадавых часьцей, ударную групу і тыл мэханізаванай часьці.

*Дальняя выведка* вядзецца авіяцыяй, выведчымі атрадамі ў саставе пяхоты на падводах або грузавіках, артылерыі і коньніцы, і асобнымі разьездамі, якія высылаюцца па дарогах, зручных для руху мэханізаваных часьцей.

Усім органам дальняй выведкі павінны дадавацца сродкі сувязі, якія даюць магчымасьць хутка перадаваць данясеньні (матацыклы, аўтамабілі, радыётэлефон).

Аддаленьне земнай выведкі—1—2 пераходы і авіявыведкі—каля 125 км. Такая адлегласьць узята для таго, каб асобны разьезд пасьпеў папярэдзіць галоўныя сілы, а апошнія мелі час падрыхтавацца да барацьбы з мэханізаванай часьцю. Матацыклу для таго, каб прайсьці 25 км, патрабуецца каля 40 мінут [2]), а мэханізаванай часьці трэба будзе каля гадзіны. Такім чынам галоўныя сілы будуць мець каля 20 мінут для падрыхтоўкі да бою.

---

[1]) Зразумела, калі на які-небудзь флянгу ёсьць неперамагальная перашкода, то на ім можна абмежавацца высылкай толькі назіраньня.

[2]) Манэўры паказваюць, што матацыкл, як сродак сувязі, не надзейны ў дождж. Таму ў такіх выпадках трэба пасылаць з данясеньнем аўтамабіль або два матацыклы з каляскай.

Высылка перадавога атраду на два пераходы прымусіць часам мэханізаваную часьць рабіць такі вялікі абход[1]), што яна ў гэты дзень магчыма не пасьпее застаць стралковую дывізію на паходзе або па крайняй меры дасьць стралковай дывізіі магчымасьць прайсьці значную частку пераходу без пагрозы сутычкі з мэханізаванай часьцю. Аддаленьне авіявыведкі на 125 км неабходна для таго, каб можна было захапіць і пачаць сачыць за мэханізаванай часьцю, пачынаючы з выходнага пункту (пераход мэханізаванай часьці роўны 100 км, пераход стралковай дывізіі—25 км).

*Бліжняя выведка і ахаваньне* ўяўляюць з сябе непасрэднае ахаваньне, якое складаецца з пяхотных і артылерыйскіх часьцей. Яго задача—затрымаць выведчыя часьці праціўніка і папярэдзіць свае войскі, каб апошнія ня былі засьцігнуты зьнянацку і маглі падрыхтавацца да бою. Аддаленьне гэтых часьцей павінна быць каля 3 км у залежнасьці ад мясцовасьці, але так, каб галоўныя сілы захавалі магчымасьць убачыць сьветавы сыгнал і мелі час для заняцьця баявога палажэньня.

Для таго, каб прайсьці 3 км, мэханізаванай часьці патрэбна будзе 10—12 мінут, а за гэты час пяхота пасьпее замаскавацца, а артылерыя—заняць агнявыя пазыцыі.

Непасрэднае ахаваньне высылае ад сябе дазоры з сьветавымі сыгналамі (ракеты, лямпы). Абавязак дазораў—зараз-жа паведамляць аб зьяўленьні мэханізаванай часьці. Гэта свайго роду „танкавы каравул".

Апрача таго для паходнага парадку пры праходжаньні па найбольш небясьпечных вучастках шляху, на пагражальныя кірункі (на флянгах) выстаўляюцца загадзя гарматы. На асабліва небясьпечных вучастках можна прыкрываць рух шляхам перасоўваньня часткі батарэі перакатамі па паралельных дарогах.

Але трэба памятаць, што такі спосаб перасоўваньня для артылерыі вельмі цяжкі, бо патрабуе пераезду з аднэй пазыцыі на другую рысьсю. Таму гэты спосаб павінен практыкавацца толькі ў строга неабходных выпадках.

Калі дывізія мае пасты ПНАС, то апошнія павінны таксама паведамляць аб зьяўленьні мэханізаванай часьці спэцыяльна ўстаноўленым сыгналам. У гэтым выпадку пасты ПНАС павінны ўзмацняцца. Такім чынам, калі паглядзець на маршавы парадак стралковай дывізіі, якая рухаецца па аднэй дарозе ў цэлым, то ён мае выгляд, паказаны на чарцяжы 22.

Калі дывізія пойдзе дзьвюма—трыма дарогамі, то яе маршавы парадак будзе такі, які паказаны на чарцяжох 23 і 24.

---

[1]) Перадавы атрад стралковага злучэньня прымусіць мэханізаваную часьць рабіць абход вядома ў тым выпадку, калі ім будуць захоплены якія-небудзь цясьніны або пераправы, што прымусіла-б мэханізаванага праціўніка гэты абход рабіць.

*Кіраваць маршам* вельмі цяжка. Сродкамі кіраўніцтва будуць зьяўляцца: радыётэлефон, радыётэлеграф, матацыклы, аўтамабілі, сьветавыя сыгналы. У розныя часьці дывізіі, або ў розныя калёны, калі дывізія рухаецца не па аднэй дарозе, з завязкай бою, павінны высылацца прадстаўнікі камандаваньня, якія аказвалі-б уплыў на ход дзейства ў духу старшага камандзіра. У час руху камандзір павінен увесь час думаць, якія будуць яго дзействы, калі-б зараз зьявіўся сыгнал аб сутычцы з мэханізаванай часьцю,—каб быць гатовым у любую мінуту аддаць адпаведныя распараджэньні.

Якія-ж будуць дзействы стралковай дывізіі ў выпадку сутычкі з мэханізаванай брыгадай? Дальняя выведка, сутыкнуўшыся з выведчымі часьцямі мэханізаванай брыгады, пашле аб гэтым данясеньне (калі ў яе будуць адпаведныя сродкі сувязі). Як правіла, выведка мэханізаванай часьці хутка адрэжа або абойдзе часьці дальняй выведкі стралковай дывізіі (за выключэньнем перадавых атрадаў, якія могуць трымацца больш доўгі час). Дальняй выведцы, калі яна ня будзе абслугоўвацца авіяцыяй, амаль ніколі ня ўдасца выявіць манэўр ўдарнай групы мэханізаванай брыгады. У такім выпадку кірунак галоўнага ўдару будзе вядомы стралковай дывізіі толькі ад бліжэйшай выведкі. Галоўныя сілы, атрымаўшы данясеньні ад дальняй выведкі, безадкладна прасоўваюцца ў найбольш выгодныя вучасткі для барацьбы з мэханізаванай часьцю. Напрыклад, уваходзяць у пералескі, вёскі, лагчыны, равы і г. д. Частка артылерыі можа адраз у-ж высылацца для займаньня пазыцыі.

Калі бліжняя выведка выявіць кірунак галоўнага ўдару і пададасьць аб гэтым загадзя ўстаноўлены сыгнал, часьці падрыхтоўваюцца да бою па загадзя распрацаваным пляне.

Гэта будзе заключацца ў тым, што ўся артылерыя ў адпаведных сэктарох у момант займае пазыцыі і рыхтуецца да адкрыцьця агню. Пяхота добра маскіруецца. Калі ёсьць вёска, то частка войск уваходзіць у яе. Займаюцца прыдарожныя канавы.

Батарэі павінны займаць пазыцыі так, каб стаяць ва ўступным парадку, каб ня даць абкружыць сябе танкамі. Стральба павінна весьціся ня толькі па танках, якія рухаюцца, але і па тых, што спыняюцца, бо агонь з апошніх больш небясьпечны, чым з першых.

У сярэднім сэктар будзе мець каля 18 гармат і 5—6 батальённых пушак, якія прымуць удзел у процітанкавай абароне. Лічачы, што калі нават кожная гармата вывядзе са строю адзін танк, то ўсё-ж такі застанецца 20—25 непадбітых танкаў, якія дойдуць да пяхоты і артылерыі і нанясуць ім вялікія страты. Больш за 24 гарматы ўдзел у процітанкавай барацьбе прыняць ня могуць, бо астатнія часьці ў гэты сэктар не пасьпеюць. Апрача таго, яны будуць заняты барацьбой са скоўваючай групай і выведкай, якая будзе працаваць на ўсіх кірунках.

## АСАБЛІВАСЬЦІ АДСТУПАЛЬНАГА МАРШУ

Пры адступленьні ў войсках больш узьнікаюць розныя панічныя настроі. Апошняе можа павялічыцца пагрозай нападу мэханізаванай часьці. Таму асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на захаваньне цьвёрдага палітыка-маральнага стану.

Разам з тым барацьба з мэханізаванай часьцю пры адступальным маршы палягчаецца больш лёгкім утрыманьнем пераправ і цясьнін, якія ня трэба загадзя захопліваць, як пры наступленьні.— У прадбачаньні адыходу, таксама як і пры наступленьні, патрэбна папярэдняя выведка і выбар кірунку руху.

Апошні трэба выбіраць так, каб ён праходзіў праз натуральныя перашкоды, каб, зьнішчыўшы пераправы, стварыць перашкоду ззаду сябе. Для руйнаваньня загадзя павінен быць складзены плян і падрыхтаваны ўзрыўныя матэрыі і сродкі перавозкі гэтых матэрый.

Ня трэба забываць, што праціўнік ня будзе імкнуцца біць у пяту адыходзячыя часьці. Ён бязумоўна пастараецца перайсьці ў паралельнае прасьледваньне з мэтай адрэзаць шляхі адыходу і ўдарыць у флянг.

Адсюль ясна, што загароды ад мэханізаванага праціўніка павінны будавацца ня толькі на шляхох адыходу сваіх часьцей, але і на флянгах.

Пры адступальным маршы можна практыкаваць наладжваньне агнявых засад за якім-небудзь натуральным укрыцьцем або пабудаванай перашкодай для падрыву наступальнага духу мэханізаванай часьці.

У астатнім абодва маршы падобны на сябе. Трэба толькі памятаць, што правядзеньне адступальнага маршу наогул больш складанае, чым наступальнага. Асабліва гэтыя цяжкасьці вырастаюць ад прадбачаньня сутычкі з мэханізаванай часьцю.

### МАРШ СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ Ў ПРАДБАЧАНЬНІ СУТЫЧКІ З МЭХАНІЗАВАНЫМІ ЧАСЬЦЯМІ

(Тактычны прыклад)

(Чарц. 25 і 26)

#### Агульная абстаноўка

Левафлянгавы VII стралковы корпус, наступаючы з упартымі баямі з усходу на захад, вышаў к вечару 25.7, 29 на лінію р. Смотрыч, на фронце Кузьмін Гарадок.

К гэтаму часу, г. зн. каля 21 гадзіны 25.7, 5 с. д., зрабіўшы 30 км пераход (без баёў), разьмясьціліся на начлег у раёне Глушкаўцы, Салабкоўцы, Тарасаўка.

Праціўнік, стыкаючыся з VII стралковым корпусам, перашкаджае апошняму пераправіцца цераз р. Смотрыч.

**Прыватная абстаноўка.** У $21^{30}$ 25.7 у штаб 5 с. д. прыехаў начальнік 1-й часткі штаба II стралковага корпуса і перадаў камандзіру 5-й дывізіі наступнае загаданьне:

1. Авіявыведкай у змрок 25.7 выяўлены пачатак выгрузкі бронямашын і аўтамабіляй у раёне станцыі Дзурын. Па агентурных зьвестках там згрупоўваецца мэханізаваная часьць праціўніка для дзейства супроць левага флянгу VII корпуса.

2. II корпус павінен к поўдню 27.7 сабрацца ў раёне Купін, Карабчэяў, Смотрыч і перайсьці ў наступленьне разам з VII корпусам.

3. Дывізіі загадана выйсьці не пазьней 18 гадзін 26.7 у раён Купін, Карабчэяў, які ўтрымліваць да падыходу ўсяго корпуса.

## Уразуменьне задачы

Азнаёміўшыся з абстаноўкай камандзір дывізіі ўразумеў наступнае: дывізіі трэба зрабіць пераход каля 25 *км*. Апошні можа быць зроблены толькі днём, бо зараз войскі ня маюць магчымасьці працягваць рух. Марш будзе рабіцца пад пагрозай сутычкі з мэханізаванымі часьцямі праціўніка, бо ад месца разьмяшчэньня дывізіі да раёну, дзе заўважаны мэханізаваныя часьці,—90 *км*. Для прыкрыцьця маршу можна выкарыстаць р. Смотрыч, пераправы цераз якую трэба заняць перадавымі атрадамі.




Чарц. 25.

Прынятая на падставе ўразуменьня задачы і абстаноўкі рашэньне заключалася ў наступным:

1. Выступленьне галоўных сіл у 5 гадзін 27.6.

2. Для забесьпячэньня руху выслаць два перадавыя атрады сілай у батальён і артдывізіён кожны: адзін—у раён Людвіполь, Купін, другі—у раён Карабчэяў, Грыцкоў; задача атрадаў—захапіць тут пераправы, утрымліваць іх да падыходу галоўных сіл дывізіі, не даючы магчымасьці мэханізаваным часьцям праціўніка пераправіцца цераз р. Смотрыч; апрача таго леваму пярэдняму атраду зьнішчыць пераправы на р. Смотрыч. Перадавыя атрады безадкладна перакінуць у свае раёны на падводах.

3. Дадаць перадавым атрадам сродкі сувязі, якія даюць магчымасьць хуткай перадачы данясеньняў дывізіі.

4. Незалежна ад дзействаў перадавых атрадаў безадкладна выкінуць уперад на аўтатранспарце сапёраў з кулямётамі для зьнішчэньня пераправаў каля Людвіполь, Купін, Карабчэяў, Смотрыч, Чэрч.

Аддаўшы на падставе прынятага рашэньня папярэднія распараджэньні, штаб дывізіі працягваў вывучаць абстаноўку для таго, каб падрыхтаваць даныя камандаваньню для далейшай прапрацоўкі маршу. Работа штаба дывізіі выразілася ў наступным:

Былі падняты дарогі, якія вядуць з раёну згрупаваньня дывізіі—Глушкаўцы, м. Салабкоўцы, Тарасаўка—у раён, куды дывізія павінна прыбыць к 18 гадзі-

нам 27.6. Гэтых дарог было тры: першая—з Глушкаўцы на м. Салабкоўцы, Савінцы, м. Фрамполь, Куявы, Нов. Пясочна, Стар. Пясочна, Купін; другая дарога ідзе з м. Салабкоўцы на Ложкаўцы, у Дрыеўцы, Тамашоўка, Карабчэяўка і далей на захад; трэцяя дарога—з Тарасаўка на Фёдараўка, Тарнова-Польная, Тынна. Карабчэяў; чацьвертая—з Тарасаўка на Татарыска, Несьцераўцы, Лысагорка.

Потым былі заштрыхаваны вучасткі мясцовасьці ў паласе руху дывізіі, якія зьяўляюцца нязручнымі для дзейст а мэханізаваных часьцей і магчымымі сховішчамі для часьцей 5-й дывізіі. Гэта быў рад населеных пунктаў і лясоў, разьмешчаных па абодвы бакі і ўдоўж дарог, па якіх часьці дывізіі павінны заўтра пайсьці.

З апытаньня мясцовых жыхароў даведаліся, што, ня гледзячы на засушлівае надвор'е р. Смотрыч на вучастку на поўдзень ад м. Купін мае амаль усюды глыбіню большую за 1 м. Адсюль зрабілі вывад, што мэхчасьці здолеюць пераправіцца цераз гэту раку толькі па мастох і гацях, што і было адзначана на карце.

## Даклад начальніка штаба дывізіі

У рэзультаце ўсёй работы начальнік штаба зрабіў наступны даклад камандзіру дывізіі.

Будучы марш дывізіі пройдзе пад пагрозай сутычкі з мэханізаванымі часьцямі. Паколькі ноч цёмная і высадка пачалася толькі ўзмрок, то мэханізаваныя часьці пэўна выступяць са свайго раёну згрупаваньня толькі на расьвітаньні, г. зн. каля 3 гадзін. Ад месца выгрузкі мэхчасьцей да р. Смотрыч каля 65 *км*, значыцца, для таго, каб прайсьці гэту адлегласьць, ім трэба будзе ня менш 3 гадзін. Такім чынам, калі праціўнік выступіць на расьвітаньні, то р. Смотрыч будзе захоплена яго перадавымі часьцямі каля 6 гадз 27.7. Нашы перадавыя атрады, якія выступаюць у $22^{30}$, здолеюць прыбыць да р. Смотрыч раней. А іменна часьці пяхоты, пасаджанай на падводы, артылерыі, робячы па 5 *км* у гадзіну, прыбудуць у свае раёны к 3-*м* гадзінам. Астатняя частка пяхоты, для якой падвод ня хопіць, выйдзе да р. Смотрыч каля $6^{30}$. Увогуле нашы часьці могуць папярэдзіць праціўніка ў захопе пераправаў цераз р. Смотрыч, чым прымусіць яго або рабіць абход, або перапраўляцца з боем. І тое і другое затрымае яго. Каб ня ўвязвацца ў бой на р. Смотрыч, праціўнік пэўна пастараецца абыйсьці флянг нашых перадавых атрадаў.

Дзе праціўніку больш выгадней абыйсьці флянг—з поўначы ці з поўдня, і адсюль які кірунак для нас больш небясьпечны? Трэба лічыць, што мэханізаваныя часьці праціўніка будуць абыходзіць нас з поўдня, г. зн. адтуль, дзе яны ня сустрэнуць ніякага процідзейства з прычыны адсутнасьці нашых часьцей; абход праціўнікам дывізіі з поўначы сутыкнуў-бы яго з нашым правым перадавым атрадам і ахоўваючымі часьцямі VII стралковага корпуса. Адсюль ясна, што найбольш пагражальны кірунак для нас паўднёвы, значыцца найбольш небясьпечны флянг левы.

Калі-ж адбудзецца сутычка галоўных сіл дывізіі з галоўнымі сіламі мэханізаванага праціўніка? Калі лічыць, што апошняму прыдзецца рабіць абход з Гусяціна на Ляцкарунь, Чэрч, Балінаўка, Тынна, то яму трэба прайсьці адлегласьць у 110 *км*, што будзе патрабаваць ня менш 5 гадзін, таму сутычка можа адбыцца каля 8—9 гадзін, лічачы, што праціўнік выступіў на расьвітаньні ў 3 гадзіны.

У паласе руху дывізіі ёсьць тры добрыя дарогі з інтэрваламі ў 4 *км* паміж імі. Апрача гэтага з левага флянгу цераз Рудка, Тынна, Франполь праходзіць добрая ракадная дарога, якая можа адначасова зьявіцца добрым шляхам падыходу для мэханізаванай часьці і служыць для манэўру часьцей дывізіі.

Паласу, у якой праходзяць гэтыя дарогі, можна падзяліць на тры часткі. Першая—гэта вучастак ад раёну начлегу да лініі Савінцы, Удрыяўцы, Тарнова-Польная. Гэта частка шляху зусім адкрытая і зьяўляецца зручнай для дзейства мэханізаваных часьцей. Другая частка—гэта вучастак, які праходзіць праз сярэдзіну паласы руху, якая складаецца з раду населеных пунктаў, пералескаў і гаёў. Гэта частка шляху зьяўляецца нязручнай для дзейства мэханізаванага

праціўніка і зручная для абароны дывізіі супроць іх. Урэшце трэцяя частка шляху—гэта вучастак ад заходніх ускраін Куявы, Карабчэяўка, Тынна да р. Смотрыч. Гэта частка шляху становіць сабой часткай адкрыты на працягу 4—5 *км*, часткай пакрыты лесам вучастак.

Такім чынам трэба лічыць, што самым небясьпечным вучасткам зьяўляецца першы—працягам 10—12 *км*, і самым выгодным вучасткам зьяўляецца другі на працягу 8 *км*, які дае магчымасьць захаваць жывую сілу і замаскаваць разьмясьціць артылерыю і, разам з тым, перашкаджае манэўраваньню баявых павозак мэханізаванай часьці.

## Прыняцьце рашэньня на рух

Выслухаўшы даклад начальніка штаба, камандзір дывізіі прыняў наступнае рашэньне:

Дывізія выступае ў 5 гадзін 24.7. Пераход будзе рабіцца па трох дарогах палкавымі калёнамі.

Найбольш моцная калёна—левая. Тут пойдзе 15 с. п., ад якога ня былі ўзяты сродкі для перадавых атрадаў.

13 с. п., які пойдзе па правой дарозе, дадаць І дывізіён 5 а. п., 14 палку дадаць II дывізіён і 15 палку III дывізіён; 13 палку забясьпечыць дывізію справа, 15 палку зьлева.

Дывізійным абозам перасоўвацца толькі пад прыкрыцьцем цемнаты.

У выпадку сутычкі з мэханізаванымі часьцямі ў паласе да вв. Савінцы, Удрыяўцы, уся артылерыя адразу займае пазыцыі. Пяхота маскіруецца ў прыдарожных лагчынах.

У выпадку, калі сутычка адбудзецца ў паласе населеных пунктаў і пералескаў Савінцы, Куявы, Тынна, Тарнова-Польная, дзействы войск павінны праходзіць наступным чынам:

Калі праціўнік нанясе галоўны ўдар у флянг, то ўся артылерыя адразу займае пазыцыі. Пяхота палка, на флянг якога наносіцца ўдар, адразу займае маскіраванае палажэньне, астатнія часьці дывізіі ўваходзяць у населеныя пункты, дзе захоўваюцца да адбіцьця атакі.

Такім парадкам павінны праходзіць баявыя дзействы і на канцовым вучастку шляху.

Начальніку штаба і дывізійнаму інжынэру распрацаваць плян работ па загародах. Даць заяўку ў корпус на авіяцыю.

Камандзір дывізіі апрача таго паведаміў, што ён будзе рухацца ў галаве калёны галоўных сіл 14 палка.

Разбор. Разьбяром некалькі палажэньняў, паданых у зьмешчанай вышэй задачы.

П е р ш а е. У чытача можа ўзьнікнуць рад пытаньняў, якія не асьветлены ў гэтай задачы на марш дывізіі. Мы зусім разумеем, што задача апісана няпоўна, але мы і ня ставілі перад сабой такой мэты. Нам хацелася ў гэтай рабоце даць толькі фон, на якім можна было-б будаваць падрабязную задачу на марш палка, і разам з тым паказаць, якое месца гэты полк будзе займаць у маршавым парадку дывізіі. На гэтай задачы мы мелі таксама магчымасьць паказаць выпадак неабходнасьці высылкі перадавых атрадаў.

Такім чынам мы хацелі ў данай задачы паказаць толькі тыя асаблівыя ўмовы, у якіх марш стралковай дывізіі будзе праходзіць, і тыя пытаньні, якія зацікавяць штаб і камандаваньне пры маршы пад пагрозай нападу мэханізаваных часьцей.

Д р у г о е. Цяпер пяройдзем да самага разбору дзействаў штаба і камандаваньня 5-й дывізіі.

Мы лічым, што дзействы камандаваньня былі зусім правільныя. Добра зрабіў камандзір дывізіі, што адразу выкінуў перадавыя атрады, каб прымусіць праціўніка рабіць абход і гэтым самым атрымаць магчымасьць прайсьці частку шляху (а ў даным прыкладзе самую небясьпечную) без пагрозы нападу з боку мэхчасьцей.

Правільна таксама ўлічан час. Тут трэба сьпяшацца. Дорага кожная мінута. Інакш праціўнік папярэдзіць нас і сам сваімі перадавымі часьцямі захопіць пераправы цераз р. Смотрыч.

Зусім мэтазгодна ў даным выпадку выкарыстаньне загародаў,—гэта выкідваньне на аўтамабілях сапёр для зьнішчэньня пераправаў. Можа быць гэтыя машыны прышлося сабраць з усёй дывізіі, паколькі няма для гэтага спэцыяльнага атраду. Гэтыя дзействы даюць магчымасьць прымусіць праціўніка або наводзіць масты пад агнём, хоць і кулямётным, або-ж рабіць абход. Прычым выкідваньне уперад на аўтамабілях папярэджвае праціўніка нават у выпадку пачатку яго руху ноччу.

У адносінах групоўкі сіл дывізіі і насычэньня калён артылерыйскімі сродкамі можна прапанаваць і другое рашэньне. Правільна зразумела, што дывізія пойдзе па трох дарогах, але няма асаблівай патрэбы пускаць на небясьпечным флянгу найбольш моцны ў пяхотных адносінах полк. Для абароны ад мэханізаваных часьцей пяхота не патрэбна, бо яна зьяўляецца толькі афярай у гэтай барацьбе. Сюды трэба дадаць як мага больш актыўных сродкаў барацьбы— артылерыю.

Можна 14-ты полк, узмацніўшы яго 1 і II дывізіёнамі або нават I і III дывізіёнамі, пусьціць па левай дарозе. 13-ты полк з адным дывізіёнам 5 а.п. накіраваць па правай дарозе, а 15 полк з яго палкавой артылерыяй даць у сярэдзіну.

Пры такой групоўцы на левым флянгу пайшлі-б толькі два батальёны пяхоты, але артылерыі 18—21 гармата; на правым флянгу таксама два батальёны пяхоты і 12 гармат і ў цэнтры пад абаронай флянгавых палкоў рухаўся-б трохбатальённы полк з 6 гарматамі.

У даным выпадку найбольш небясьпечны флянг—левы, таму і калёна, якая ідзе па левай дарозе, была-б найбольш моцнай ня толькі з прычыны таго, што гэтай калёне прыдзецца першай змагацца з нерастроеным праціўнікам, але і таму, што левая калёна зьяўляецца нібы моцным бакавым атрадам усёй дывізіі і ад дзействаў гэтага атраду залежыць у многім пасьпяховасьць бесьперашкоднага маршу іншых дзьвюх калён дывізіі.

Добра таксама зрабіў камандзір дывізіі, што ўказаў войскам намётку дзействаў у выпадку нападаў мэханізаванага праціўніка на паходзе. Правільная і сама намётка. Сапраўды, на першым вучастку няма куды захавацца, і таму ўсёй дывізіі больш выгодна адразу спыніць рух і пастарацца найбольш мэтазгодна выкарыстаць гэту нявыгодную для сябе мясцовасьць. Іншая справа, калі сутычка адбудзецца на другім вучастку. Тут адразу залегчы павінна пяхота толькі тэй калёны, на якую напаў праціўнік. Часьці астатніх дзьвюх калён павінны працягваць рух для таго, каб зайсьці ў такі раён, дзе дзейства мэханізаваных часьцей будуць цяжкімі. Час, неабходны для таго, каб гэтыя раёны заняць, знойдзецца, бо праціўнік павінен прайсьці вядомую адлегласьць, каб наблізіцца да цэнтральнай і правай калён, і, апрача таго, ён будзе затрыманы барацьбой з першай калёнай. Зразумела гэты час будзе і пры нападзе праціўніка на першым вучастку шляху, але там проста няма куды захавацца, таму трэба адразу маскіравацца, каб папоўніць нявыгоднасьць мясцовасьці большай колькасьцю часу на маскіроўку і падрыхтоўку да барацьбы з праціўнікам.

У гэтай задачы мы ня ўказваем спосабу апавяшчэньня на выпадак нападу мэханізаваных часьцей. Мы падрабязна скажам аб гэтым у наступнай задачы.

## МАРШ СТРАЛКОВАГА ПАЛКА Ў ПРАДБАЧАНЬНІ СУТЫЧКІ З МЭХАНІЗАВАНЫМІ ЧАСЬЦЯМІ

## (Тактычны прыклад)

### Адданьне папярэдніх распараджэньняў

Камандзір 15-га с. п., атрымаўшы папярэдняе распараджэньне 5 с. д. аб маючым быць маршы (глядзі папярэднюю задачу), сам аддаў па тэлефоне папярэдняе распараджэньне батальёнам, артдывізіёну і іншым падразьдзяленьням палка.

„Заўтра ў 5 гадзін полк выступае ў раён Карабчэяў. Для забесьпячэньня руху дывізіі з захаду ў раёне м. Купін, Карабчэяў высланы два перадавыя атрады ад 13 і 14 палкоў. Пад'ём у 3[30]".

## Рашэньне камандзіра палка

У 24 гадзіны ў 15 с. п. быў атрыманы загад па 5 с. д. на будучы марш. Азнаёміўшыся з гэтым загадам[1]) і вывучыўшы абстаноўку па карце, камандзір палка прышоў да наступнага рашэньня (чарц. 26).

Палку трэба зрабіць 30-*км* марш пад пагрозай сутычкі з мэханізаванымі часьцямі праціўніка і прыкрываць марш дывізіі ад налёту апошніх з поўдня і поўдня заходняга.

А ц э н к а  м я с ц о в а с ь ц і. Паводле загаду па дывізіі, полк павінен пайсьці па дарозе Тарасаўка, Фёдараўка, Тарнова-Польная, Тынна, Карабчэяў. На вучастку ад Тарасаўка да Тарнова-Польная працягам у 14 *км* дарога праходзіць амаль па зусім адкрытай мясцовасьці; гэта частка шляху вельмі зручная для дзейства мэханізаваных часьцей. Ад Тарнова-Польная да гаю, што 1 *км* на захад ад в. Тынна, праходзіць вучастак, працягам у 6 *км*, які дае магчымасьць у выпадку нападу мэханізаванага праціўніка захаваць у населеных пунктах пяхоту і сустрэць праціўніка артылерыйскім агнём з замаскаваных пазыцый. Далей дарога ідзе па адкрытым месцы, але на захад ад ф. Шубкі да дарогі з поўначы амаль непасрэдна прылягае лес, які дае таксама магчымасьць у ім захавацца, калі-б праціўнік напаў на калёну на гэтым вучастку шляху.

Такім чынам дарога, па якой пойдзе полк, мае ўсяго даўжыню ў 30 *км*, на працягу 18 *км* зьяўляецца зручнай для дзействаў мэханізаваных часьцей, а 12 *км* шляху даюць магчымасьць захаваць жывую сілу за тэй або іншай перашкодай.

Мясцовасьць па абодвых бакох шляху руху і бліжэйшыя бакавыя дарогі цікавілі камандзіра палка з пункту погляду сваёй перасечанасьці, бо ад апошняй залежыла магчымасьць назіраць набліжэньне мэханізаванага праціўніка, магчымасьці руху бакавых атрадаў і падтрыманьня зрокавай сувязі паміж гэтымі атрадамі і галоўнымі сіламі.

Падрабязна азнаёміўшыся з картай, камандзір палка мог прыйсьці да наступнага заключэньня. Паралельная дарога ёсьць толькі зьлева на адлегласьці $3^1/_2$—4 *км* ад шляху руху галоўных сіл: ад в. Тарасаўка з пачатку на поўдзень і поўдзень заходні праз в. Татарыска і потым паралельна руху галоўных сіл, міма в. Несьцераўцы, праз в. Лысагорка і далей на захад.

Мясцовасьць, якая прылягае да шляху руху галоўных сіл, зьяўляецца ў асноўным адкрытай раўнінай, часткова ўзгоркавай і перасечанай лагчынамі і ярамі. Увогуле рух па гэтай мясцовасьці без дарог магчымы толькі для пяхотных часьцей без павозак і артылерыі. Наяўнасьць в. Несьцераўцы і ляскоў, прылягаючых да яе з поўдня і поўначы заходняй, некалькі звужае на гэтым вучастку назіраньне на поўдзень, што дае магчымасьць часьцям праціўніка падысьці паралельна незаўважанымі на даволі блізкую адлегласьць. Усюды мясцовасьць дае поўную магчымасьць падтрымліваць зрокавую сувязь часьцям бліжняга ахаваньня паміж сабой.

## Групоўка сіл на маршы

Прымаючы пад увагу высокую рухомасьць праціўніка і яго паражальнасьць, галоўным чынам ад артылерыйскага агню, камандзір палка імкнуўся свой паходны парадак стварыць такім, каб, па-першае, увесь яго насыціць артылерыяй, і па-другое, разрэдзіць яго, каб не падстаўляць адначасова пад удар вялікую колькасьць часьцей і разам з тым мець даволі згрупаваны парадак для барацьбы ня толькі з мэханізаваным праціўнікам, але з іншым праціўнікам у выпадку яго зьяўленьня. Асновай такога паходнага парадку зьявілася батальённая калёна, насычаная артылерыяй.

---

[1]) Загад не падаецца, але сутнасьць яго відаць з меркаваньняў камандзіра дывізіі ў папярэдняй задачы.

Канчаткова паходны парадак палка быў намечаны наступны: уперадзе авангард у саставе 1 батальёна і 6 гармат, з іх 3 гаўбіцы, за ім на аддаленьні 3 *км* ішоў II батальён без аднэй роты (адна рота ўзята для бакавога атраду) і 3 гарматы; далей у 1 *км* ззаду ішоў III батальён з 6 гарматамі, з якіх 3 гаўбіцы. Разьмеркаваньне артылерыі тлумачыцца наступнымі меркаваньнямі.

У авангардны батальён дадзена 6 гармат, таму што яму прыдзецца прыняць на сябе ўдар передавых часьцей праціўніка і потым прабіваць дарогу палку. II батальёну дадана толькі 3 гарматы, таму што яго сьпераду прыкрывае 1 батальён, з боку 4-я рота і з тылу—III батальён. III батальёну дадана 6 гармат, бо яму трэба прыкрываць увесь полк з тылу.

## Ахаваньне

Рухомае ахаваньне намечана ў выглядзе бакавога атраду ў саставе стралковай роты з батарэяй (3 пушкі). Для руху гэтага атраду ёсьць дарога ў 4 *км* ад шляху руху галоўных сіл. Гэта адлегласьць дае магчымасьць часьцям палка падрыхтавацца да бою ў выпадку нападу праціўніка на маршы і разам з тым падтрымліваць сувязь паміж бакавым атрадам і галоўнымі сіламі палка пры дапамозе сьветавых сыгналаў, г. зн. найбольш шпаркім спосабам. Паколькі паміж дарогамі палка і бакавога атраду ёсьць мясцовыя прадметы і месцамі рэльеф перашкаджае зрокавай сувязі, то апрача бакавога атраду распараджэньнем камандзіра батальёна будуць высланы заставы сілай у 1-2 аддзяленьні.

Нярухомае ахаваньне палком будзе выстаўлена пры праходжаньні галоўнымі сіламі палка і дывізіі найбольш небясьпечнага вучастку шляху, г. зн. ад в. Тарасаўкі да в. Тарнова-Польная. Адна батарэя будзе пастаўлена паміж Міцоўцы і Татарыска, потым пры прасоўваньні калёны далей на захад будзе выстаўлена батарэя ў раёне вышыні, што ў 2 *км* на захад ад Татарыска. Гэтыя батарэі будуць потым прыстройвацца да III батальёна, з саставу якога яны адразу і будуць узяты.

Сувязь паміж ахоўваючымі часьцямі і галоўнымі сіламі будзе падтрымлівацца сьветавая, ракетамі і лямпамі.

Апавяшчэньне аб зьяўленьні мэханізаваных часьцей праціўніка робіцца ракетамі. Для таго, каб адразу пазнаць, адкуль ідзе ўдар праціўніка, увесь паходны парадак трэба падзяліць на 4 сэктары і кожнаму сэктару мець свой колер ракет (чарц. 27).

Ня гледзячы на меры, якія ўжываюцца, камандзір палка прадбачыў, што часу для падрыхтоўкі да бою будзе вельмі мала (ня больш 15—20 мінут), таму ён загадзя намеціў будучы спосаб дзействаў палка ў выпадку нападу мэханізаваных часьцей праціўніка.

У выпадку сутычкі па-за населенымі пунктамі артылерыя адразу зьяжджае з дарогі ў той бок, адкуль пагражае напад праціўніка; пяхота і кулямёты выходзяць на другі бок дарогі і захоўваюцца ў лагчынах так, каб цераз іх галовы магла страляць артылерыя па баявых павозках няпрыяцеля, якія прарваліся ў тыл. Часьці пяхоты, якія будуць захоплены нападам у населеных пунктах, застаюцца ў іх, артылерыя-ж выяжджае на адпаведную ўскраіну для сустрэчы праціўніка агнём сваіх гармат прамой наводкай. Пасьля адбіцьця атакі або пасьля таго, як праціўнік пройдзе праз калёну палка, калі атака пойдзе з флянгу, полк паднімаецца і пад прыкрыцьцём дзьвюх батарэй ад I і III батальёнаў працягвае рух уперад. Потым гэтыя прыкрываючыя батарэі прыстройваюцца да сваіх батальёнаў.

Сваё канчатковае рашэньне аб парадку руху палка камандзір палка паведаміў начальніку штаба для складаньня загаду [1]), які прыняў выгляд наступнага дакумэнта:

---

[1]) Каб не паўтарацца, мы тут не перадаем распараджэньняў камандзіраў палка, якія зьявіліся-б да кароткай фармуліроўкі сваіх разважаньняў, перададзеных начальніку штаба ў імпэратыўнай форме.

Штаполк 15. № 15 б/ап. Карта Ів у 1 д. 7. 8. 29. 1. 30.

Тарасаўка.

1. Праціўнік абараняе р. Смотрыч, яго правы флянг каля м. Гарадок, У тылу ў яго ёсьць мэханізаваныя часьці, з якімі пэўна адбудзецца сутычка на маршы.

2. Дывізія аднначасова пераходзіць трыма калёнамі з раёну начлегу для заняцьця раёну Купін-Карабчэяў. У $23^{30}$ дывізіяй высланы перадавыя атрады для захопу раёнаў Купін і м. Смотрыч.

3. Полк з даданым III/5 а. п., рухаючыся аднэй калёнай, выступае ў 5 гадзін па дарозе Тарасаўка, Фёдараўка, Тарнова-Польная, Тынна, Карабчэяў, прыкрываючы паходны парадак дывізіі ад магчымага ўдару мэханізаваных часьцей з поўдня і поўдня заходняга, з задачай заняць к 18 гадзінам раён Карабчэяў і лес на поўдзень ад яго.

4. Справа па дарозе м. Салабкоўцы, Тамашоўка, Карабчэяўка рухаецца 14 с. п., зьлева нашых часьцей няма.




**Чарц. 27.**

5. Парадак руху: авангарду—1 батальён, 7 і 8/5 а. п., сапмаскузвод, аддзяленьне хімузвода—прайсьці хвастом калёны перакрыжаньне дарог, што $^1/_2$ *км* на поўдзень заходні ад Тарасаўка, у $4^{20}$.

6. II батальёну без аднэй роты з 1 батарэяй ПА прайсьці ўказанае перакрыжаваньне дарогі хвастом у $5^{15}$.

7. III батальёну з 9 і 10 батарэямі 5 а. п. прайсьці галавой калёны перакрыжаваньне дарогі ў $5^{30}$.

8. Тыльнае ахаваньне — застава ў саставе 1-га стралковага ўзвода і батальённай пушкі ад III батальёна.

9. Бакавы атрад у саставе 4-й роты II батальёна, 2-й батарэі ПА і аддзяленьня хімузвода рухацца па дарозе Тарасаўка, Татарыска, вышыня 143,8, Лысагорка. Выступіць з Тарасаўка ў $4^{55}$, рухацца на ўзроўні II батальёна.

10. Астатняе ахаваньне арганізаваць паводле схемы, якая прыкладаецца.

11. Органы ахаваньня забясьпечыць ракетамі адпаведнага колеру паводле тэй-жа схемы.

12. Я буду ў галаве калёне II батальёна.

*Камандзір палка*

*Начальнік штаба*

Апрача гэтага загаду камандзір палка выклікаў да сябе камандзіраў батальёнаў, дывізіёнаў і камандзіра 4-й роты (камандзір бакавога атраду) і даў ім указаньні:

1. Аб дзействах у выпадку сутычкі з праціўнікам.

2. Аб апавяшчэньні ў выпадку нападу мэханізаванага праціўніка. Увесь паходны парадак падзяляецца на чатыры сэктары, паводле схэмы, прыкладзенай да загаду (чарц. 26):

Сектар № 1 мае сінія ракеты, № 2—чырвоныя, № 3—белыя, № 4—дымныя. Зьяўленьне асобных броняпавозак сыгналізуецца дзьвюма ракетамі. Зьяўленьне масы танкаў сыгналізуецца бесьперапынным пусканьнем ракет (некалькіх). Ракеты пускаюць толькі тыя дазоры і заставы, у сэктары якіх зьявіліся машыны. Кожны сэктар пускае ракеты толькі свайго колеру.

## Сутычка з мэханізаванымі часьцямі

Часьці палка выступілі дакладна ва ўказаны ім час і к 9 гадзінам займалі палажэньне, указанае на чарцяжы 28.

У гэты час, г. зн. у 9 гадзін узьняліся адна за аднэй дзьве белыя ракеты; праз мінуту ракеты ўзьняліся некалькі ў другім баку: гэта наступны дазор прыняў сыгнал.

Гэтыя ракеты абазначалі зьяўленьне асобных машын праціўніка ў непасрэднай блізкасьці, прычым гэтыя машыны зьявіліся зьлева ўперадзе, бо белыя ракеты належылі сэктару № 1. Неўзабаве пачуўся кулямётны агонь і асобныя стрэлы гармат сьпераду і зьлева; як відаць авангард і бакавы атрад уступалі ў бой. У сапраўднасьці так яно і было. Авангард—I батальён—вёў барацьбу з некалькімі танкеткамі, бронямашынамі і кулямётамі на вышынях на захад ад Тынна. Бакавы атрад—4-я рота—толькі што мінуў Несьцераўцы, разьмясьціў тут-жа на дарозе сваю батарэю, якая вяла агонь па танках праціўніка ў кірунку вышыні 143,8, за якой танкі выходзілі, каб пайсьці ў абход лесу з усходу. Пяхота кінулася ў лагчыну справа ад дарогі і тут залягла.

Заўважыўшы сыгналы ракетамі II і III батальён адразу выкінулі сваю артылерыю: II батальён—улева ад дарогі на ўсходняй ускраіне Тарнова-Польная, III батальён—гаўбічную батарэю, справа ад дарогі, а пушачную—на ўсход ад вышыні 139,1.

Батальёны працягвалі рух: II батальён імкнуўся ўвайсьці ў Тарнова-Польная, а III батальён хацеў захавацца ў лагчыне, што ідзе ад вёскі на ўсход[1]).

Як толькі батальёны пачалі ўваходзіць у гэтыя пункты, сталі ўзьнімацца белыя і сінія ракеты па некалькі штук бесьперапынна. Гэтыя сыгналы абазначалі, што буйныя сілы праціўніка зьявіліся ў 1-м і 3-м сэктарах, г. зн. зьлева. Праз 1—3 мінуты зьявіліся асобныя танкеткі (як відаць, непасрэднае ахаваньне ўдарнай групы мэханізаванай часьці праціўніка).

5-я рота ўвайшла ў вёску, 6-я рота—зьбегла з дарогі ўправа і захавалася за невялікімі вышынямі.

З III батальёна 7 рота пасьпела зайсьці ў лагчыну, 9-я рота зьбегла з дарогі ўправа і захавалася ў седлавіне на поўнач ад вышыні 139,1 і 8-я рота захавалася за вышынямі ўлева ад дарогі.

Толькі роты пасьпелі залегчы, як з-за лесу, што на поўдзень ад Тынна, і з Несьцераўцы зьявілася каля 20 танкаў, якія рухаліся на поўнач усходнюю. Танкі суправаджаліся дзьвюма самаходнымі гарматамі.

Гаўбічная батарэя, што была дадана III батальёну, безадкладна адкрыла агонь па артылерыі праціўніка, між тым, як пушкі яго маўчалі, не жадаючы сябе выявіць заўчасным адкрыцьцем агню. Неўзабаве танкі захаваліся ў лагчыне, што ідзе ад Тарнова-Польная на поўдзень усходні, і калі яны з гэтай лагчыны вышлі, то былі сустрэчаны агнём 2 пушачных батарэй і батальённых пушак II і III батальёнаў, якія стралялі прамой наводкай з дыстанцыі ад 1 да 1½ *км*.

---

[1]) Каб быць некалькі ўкрытымі ад танкаў праціўніка.

Між тым танкі праціўніка хутка набліжаліся да дарогі. Калі яны падышлі да вышыні 139,1, то 2 з іх адразу спыніліся, падбітыя прамымі пападаньнямі знарадаў, астатнія-ж працягвалі рух уперад да дарогі, па якой рухаўся полк.

Тут яны заўважылі пяхоту, разьмешчаную невялікімі групамі. Гэтыя апошнія пачалі імі растрэльвацца. Самі-ж танкі таксама несьлі страты ад агню гармат дывізійных і батальённых, хоць і гарматны разьлік таксама парадзеў. Танкі ўжо страцілі яшчэ тры адзінкі, а з дзьвюма падбітымі раней у іх ужо не хапала 5 танкаў.

У гэты час, калі артылерыя была занята цалкам танкамі 1-га эшалёну і барацьбой з танкеткамі, якія абыходзілі пяхоту з тылу, паказалася другая калёна танкаў—каля 10 адзінак. Па гэтых танках, ім у тыл, страляла пушка, як відаць з бакавога атраду. Між тым частка танкаў 1-га эшалёну перайшла за дарогу, накіроўваючыся да калёны 14-га палка, другая частка вяла барацьбу з артылерыяй, якая сваім агнём адцягвала танкі ад залёгшай пяхоты.

Калі 2-гі эшалён танкаў падышоў да гармат, на дыстанцыю да 1 *км*, то па Ім адкрылі агонь па аднэй гармаце з кожнай батарэі, у якіх ужо працавалі толькі па дзьве гарматы з-за страт у асабовым саставе, у той час, як другая гармата працягвала барацьбу з танкамі 1-га эшалёну.

У гэты час пачуліся стрэлы артылерыі 14-га палка, якая, як відаць, адкрыла агонь па танках, што наблізіліся да другой калёны.

Неўзабаве да пяхоты падышоў і 2-гі эшалён танкаў, пакінуўшы на полі падбітымі тры танкі. Незатрымліваючыся, ён пайшоў далей на поўнач, накіроўваючыся да калёны 14-га палка. Па гэтых танках артылерыя 15-га палка вяла агонь з тылу, пакуль яны не захаваліся за вышынямі, што на поўнач ад дарогі.

Усё гэта камандзір палка назіраў з даху дому на ўсходняй ускраіне Тарнова-Польная. Ён ведаў ужо з данясеньня ад 1 батальёна, што апошні, убачыўшы сыгнал аб нападзе мэханізаванага праціўніка, пасьпеў увайсьці ў вёску Тынна, але на яе заходняй ускраіне быў сустрэчаны агнём вялікай колькасьці кулямётаў і некалькіх танкетак. Апошнія агнём артылерыі былі хутка адкінуты назад.

Камандзір палка зрабіў вывад, што атака на яго полк з боку мэханізаваных часьцей скончана. Цяпер трэба прывесьці ў парадак свае часьці і працягваць рух. Але гэтаму перашкаджалі часьці праціўніка перад фронтам, якія яго скоўвалі. Таму ён загадаў I батальёну, падтрыманаму агнём артылерыі, якая засталася, адкінуць праціўніка на захад, каб ачысьціць сабе дарогу ўперад. Праз паўгадзіны I батальён, які амаль не панёс ніякіх страт, пры падтрымцы 3 батарэй і 2 батальённых пушак, пачаў адкідаць праціўніка, які неўзабаве скрыўся.

К гэтаму часу сабраліся на дарозе парадзеўшыя батальёны і батарэі. Больш чым іншыя пацярпеў III батальён. Полк рушыў далей на захад.

**Разбор.** Цяпер разьбяром некалькі момантаў, якія недастаткова ясна асьветлены ў задачы.

Намі ўзят самы цяжкі выпадак для стралковай часьці, калі полк зьяўляецца флянгавым і першы падпадае пад напад сьвежых мэханізаваных часьцей. Гэта намі зроблена наўмысна, каб на цяжкім прыкладзе паказаць мэханіку дзейства такога палка.

Вельмі павярхоўна намі паказана работа авіяцыі, як чырвоных, так і сініх. Нават паведамленьне аб набліжэньні мэханізаванага праціўніка перадана не авіяцыяй. Зразумела ў сапраўднасьці баявой і выведчай рабоце мэханізаванай часьці будзе садзейнічаць авіяцыя, з якой стралковым часьцям прыдзецца змагацца як сваімі сродкамі, так і пры дапамозе спэцыяльна для гэтага прызначанай авіяцыі. Мы-ж глыбока гэтага пытаньня не закранулі, каб не ўскладняць і без таго такой цяжкой абстаноўкі і больш выпукліць пытаньні барацьбы з бронявымі часьцямі.

З усёй паданай задачы відаць, што самае галоўнае—гэта добрая выведка, ахаваньне і апавяшчэньне і загадзя распрацаваны плян дзействаў. Толькі гэта дало магчымасьць падрыхтавацца да барацьбы з мэханізаваным праціўнікам, бо прамежак часу ад атрыманьня сыгналу да ўступленьня танкаў у барацьбу з калёнай быў роўны толькі 15 мінут (танкам трэба было прайсьці ад Несьцераўцы і лесу на захад ад іх да вышыні 139,1—4 *км*, на што пры ско-

расьці руху 15 *км* у гадзіну патрэбна было 15 мінут). А гэта такі кароткі адрэзак часу, які ні ў якім разе нельга зьмяншаць дрэннай выведкай і апавяшчэньнем і за які, калі-б ня было загадзя распрацаванай наметкі дзействаў, нельга прыдумаць ніякага пляну барацьбы.

Мы толькі што спамянулі, што адным з асноўных момантаў арганізацыі і правядзеньня такога маршу зьяўляецца служба ахаваньня і апавяшчэньня. Органы гэтых апошніх вельмі часта ня будуць мецъ для сябе дарогі, таму ім прыдзецца ўказваць калённы шлях руху. Магчыма, што гэты шлях прыдзецца загадзя выведаць, калі гэта дазволяць зрабіць абстаноўка і час.

Інтэрвалы і дыстанцыі паміж органамі ахаваньня будуць зразумела зьмяняцца. На больш перасечанай мясцовасьці яны будуць меншыя, на менш перасечанай—большыя. Ва ўсякім разе трэба выходзіць з прынцыпу, каб паміж дазорамі захоўвалася зрокавая сувязь. Старшымі дазораў трэба назначаць малодшых камандзіраў, бо, як паказала практыка вучэньня, праведзенага адной дывізіяй, чырвонаармейцы вельмі часта падавалі сыгналы пры зьяўленьні любой машыны, чым сьцішалі марш.

Другараднае пытаньне—аб нумарацыі сэктараў. Мы тут узялі прынцыпы: справа—цотныя нумары, зьлева—няцотныя. Лік вядзецца з фронту ў тыл. Калі прывіць усюды такі парадак нумарацыі, то ніколі ня будзе блытаніны.

Робячы агульны вывад аб праведзенай барацьбе 15-га палка з мэханізаванымі часьцямі, мы бачым, што страты палка вялікія. Але-ж гэта ня дзіўна, бо полк зьяўляўся фактычна бакавым атрадам усёй дывізіі, прыняўшы на сябе ўдар сьвежага праціўніка. Бязумоўна, апошні панёс таксама страты, і яго дзействы па калёнах 14-га і 13-га палкоў былі ўжо больш слабымі.

## АБАРОНА СТРАЛКОВАГА БАТАЛЬЁНА НА МАРШЫ СУПРОЦЬ МЭХАНІЗАВАНЫХ ЧАСЬЦЕЙ

### (Тактычны прыклад)

(Плян В. Белаліпецкага; аркуш зборны і 5, 6, 8, 9 і чарц. 28).

**Абстаноўка.** 80 с. п., які меў задачай к канцу дня выйсьці з усходу ў раён Кавалі, Візгі, Агулец, знаходзіўся к 12 гадзінам 15.8 у палажэньні, указаным на чарцяжы 29.

Камандзіру II батальёна, які рухаўся ў талаве калёны галаўнога атраду ў саставе II батальёна, палкавога артдывізіёна і ўзвода сапёр, было вядома:

1. Пасьля баёў на р. Сьвіслач праціўнік адарваўся ад нашых часьцей, якія прасьледвалі яго, і знаходзіўся галоўнымі сіламі на лініі м. Новы Двор—м. Сідра. Яго коньніца стыкалася з нашай коньніцай, якая падтрымлівалася матарызаванымі часьцямі. Каля $7^{30}$ нашы часьці былі адкінуты ад м. Кузьня і нідзе не перайшлі на заходні бераг р. Ласосна.

2. Лічылася магчымым зьяўленьне матарызаваных і мэханізаваных злучэньняў праціўніка, у сувязі з чым камандзірам батальёна была арганізавана служба назіраньня, сувязі і апавяшчэньня, і адпаведным чынам пабудаваны парадак паходнага руху батальёна (чарц. 30).

3. Было атрымана ўказаньне аб неабходнасьці дасягнуць сёньня ўказанага раёну, каб пакінуць р. Ласосна за сабой.

Надвор'е пахмурае, але сухое і цёплае. Дарогі добрыя. У паветры роўнавага авіяцыі абодвых бакоў.

1-шы эпізод. У $6^{30}$ па калёне быў прыняты сыгнал „паветра“, а праз пяць мінут над калёнай паказаўся самалёт, які даваў пазыўныя сыгналы: „Я самалёт чырвоных, дзе пост?“

Па загаданьні камандзіра батальёна было выкладзена сыгнальнае палотнішча, якое паказала нумар часьці, пасьля чаго лётчыкам быў скінуты вымпел. Лётчык паляцеў у бок праціўніка. У вымпеле аказалася данясеньне наступнага зьместу: „Па шашы на захад ад м. Новы Двор на ўсход бачыў калёну з аўтамашын даўжынёй каля 4 *км* і другую да $^{1}/_{2}$ *км*, якая зварачала на гасьцінец каля Кузьня. Лётчык-назіральнік Цыэмгал“.

Камандзір батальёна безадкладна далажыў гэта данясеньне камандзіру палка, які ехаў разам з ім (камандзір палка пасьля гэтага накіраваўся ў галоўныя сілы), і перадаў па калёне:

„Авіявыведчык заўважыў калёну мэхчасьці праціўніка на захад ад Новы Двор. Чакаю сутычкі з ёй на вучастку № 2".

Разбор. Лётчык з корпуснага авіяатраду праводзіў бліжнюю авіявыведку на дывізію. Распазнаўшы ў калёне, якая хутка рухалася міма м. Новы Двор, аўтамабільныя і бронявыя часьці, лётчык безадкладна вярнуўся назад, каб




Чарц. 29.

паведаміць перадавым часьцям аб бронявай небясьпецы. Выканаўшы гэту задачу, ён паляцеў назад, бо відавочна яго выведчая работа ня была поўнасьцю скончана. Дзякуючы безадкладнаму паведамленьню войск аб зьяўленьні мэхчасьці праціўніка (што ўдалося выявіць з прычыны відочнага недагляду зьнішчальнікаў праціўніка), у камандзіра батальёна аказалася каля 35—45 мінут часу да зьяўленьня мэханізаваных часьцей [1]). Гэта дазволіла яму ня

[1]) У момант выяўленьня калёны ад яе да галаўнога атраду было 25 *км*. Гэту адлегласьць самалёт пралятае ў 10 мінут. Дададзім 5 мінут на адшуканьне калёны і ўстанаўленьне сувязі з ёй. Атрымліваецца 15 мінут. Мэхчасьць пры скорасьці руху ў 25 *км* у гадзіну акажацца пасьля апавяшчэньня самалёта перад галаўным атрадам праз 1 гадзіну без 15 мінут, г. зн. праз 45 мінут.

прымаць безадкладна баявы процібранявы парадак, а прайсьці яшчэ ўперад $1^1/_2$—2 *км* і знайсьці ўкрыцьце ад бронявых часьцей.

Прыняты-ж плян разгортваньня і процібранявы парадак, бесьперапыннае дасьледваньне на паходзе ўсімі камандзірамі тапаграфічных і маскавальных уласьцівасьцяй мясцовасьці дазваляла хутка перайсьці ў гэты парадак па ўмоўным сыгнале „бронявая трывога“.

Такім чынам выгоды апавяшчэньня самалётам вельмі вялікія.

Хуткасьць і ступень папярэджаньня наземных сродкаў значна ніжэйшая ня толькі з-за розьніцы глыбіні, выведкі, але і сродкаў перадачы. Выведка, выкінутая ўперад на 12 *км*, пры сутычцы з мэхчасьцямі паведамляе калёну: пры дапамозе матацыклу (скорасьць 40 *км* у гадзіну) праз 10—12 мінут; пры дапамозе сыгнальных (ракетных пастоў): 10 пастоў $^1/_2$ мінуты на перадачу— праз 5 мінут.

У першым выпадку калёна будзе мець часу на нарыхтоўку: $\left(\frac{60}{25} \cdot 12\right) - 10 =$ $=$калля 20 мінут.

$$\text{У другім } \left(\frac{60}{25} \cdot 12\right) - 5 = 25 \text{ мінут.}$$

Таксама выгодны перадачы пастамі, якія трэба дубліраваць матацыклам. За 20—25 мінут пяхота пасьпее прайсьці $1^1/_2$—2 *км*.

Атрыманьне даных выведкі аб зьяўленьні матачасьцей павінна было прымусіць усіх камандзіраў рот і батарэй выведаць прылягаючы да дарогі раён мясцовасьці. Гэта адносіцца ў роўнай ступені да камандзіраў як пяхоты, так і артылерыі. Першыя павінны знайсьці ня толькі ўкрыцьці ад танкаў для пяхоты, але і кулямётныя пазыцыі для сустрэчы небраніраванага праціўніка (аўтакулямётныя і аўтастралковыя часьці мэхбрыгады). Другія павінны адшукаць пазыцыі, задавальняючыя задачы прыкрыцьця пяхоты ад бронявых часьцей і паражэньня апошніх прыцэльным агнём.

**2-гі эпізод.** Галава калёны батальёна падыходзіла да дарогі на Клінчаны, калі ўперадзе быў прыняты сыгнал „бронявая трывога“ (чарц. 30).

Сыгналіст пры камандзіры батальёна прыняў гэты сыгнал. Камандзіры рот безадкладна зьвярнулі свае роты да ўказаных ім па пляне процібранявой абароны мясцовых прадметаў. Уперадзе перад ротамі выскачылі палкавыя батарэі і пайшлі галопам у вызначаныя ім месцы.

Палова 6-й роты (палова яе была ў галаўной заставе) з аднэй гарматай павярнула назад на Дубовая, куды зьвярнулі павозкі батальённага абозу.

Камандзір батальёна, які выскачыў на горку на поўнач ад гасьцінцу, бачыў, як каля вышыні 109,3 разгарнулася галаўная застава, пакінуўшая поблізу дарогі абедзьве батальённыя пушкі, накіраваныя ўдоўж дарогі.

Праз 10 мінут пасьля сыгналу артылерыя стаяла на агнявых пазыцыях, а праз 15 мінут у полі і на дарозе ня было відаць ні аднаго пехацінца. Толькі ад Клінчаны камандзір палкавога дывізіёна з двума выведчыкамі ехаў да доўгага гаю, ды на дарозе быў відаць рэдкі ланцужок зьвязных.

Сьпераду пачулася парастрэлка, па дзьвюх паўбраніраваных машынах праціўніка, якія імчаліся ад Сял. дв. да 109,3, застава адкрыла згрупаваны агонь з кулямётаў і пушкі, які прымусіў павярнуць іх назад. Камандзір батальёна паехаў у в. Клінчаны.

Праз некалькі мінут пачалася кулямётная і артылерыйская стральба: зьявілася 5 танкетак і 3 броняаўтамабілі на гасьцінцы. Ня гледзячы на агонь пушак, якія падбілі броняаўтамабіль, ім удалося хутка праскочыць міма Клінчаны і накіравацца да в. Дубовая. На поўнач усходнюю ад Клінчаны была чутна артылерыйская і кулямётная стральба. Відавочна праціўнік напаў і на калёну суседняга палка.

**Разбор.** Можна было-б разгарнуць часьці ў процібранявы парадак зараз-жа пасьля атрыманьня данясеньня ад паветранай выведкі. У гэтым выпадку батальён меў-бы больш часу для падрыхтоўкі сустрэчы з мэхчасьцямі праціўніка. Аднак полк меў задачу безадкладнага дасягненьня ўказанага раёну. Таму камандзір батальёна парашыў рухацца ўперад да атрыманьня сыгналу бранявой трывогі ад наземнай выведкі. Гэта рашэньне тлумачылася жаданьнем прасу-


Кузьня
4 вучастак
1 БТР.
2 БТР.
3 вучастак
1 БТР
2 БТР.
Падлiпкi
Пн.
Пд.
Гал. пах заст
Стр. узвод
Кул. узвод
2 бат. пушкi
Кул. р. 4 с. р. 1 бтр. 5 с. р. 2 бтр. 6 с. р.
ЛЕГЕНДА:
Кожнаму вучастку маршруту адпавядае свой варыянт разгортваньня у процiбран. парадак
2 вучастак
Клiнчаны
4 Р. + 1 БТР.
1 вучастак
6 Р. + 1 г.
4 С.Р. + 1 БТР.
Лужкi
6 С.Р.
Дубовая
5 С.Р. + 2 БТР.
Кул. рота паўзводна ў с. роты
5 Р. + 2 БТР. − 1 г
СЛУЖБА НАЗIРАНЬНЯ і АПАВЯШЧЭНЬНЯ
1 Па калёне: ланцужок парных пастоў праз 1/2 км з ракетамі
2 Бакавыя парныя пасты – конныя для сувязі з калёнамі
1 0 1 2 3 км

Чарц. 30.

нуцца ўперад яшчэ на 2 *км* і тым наблізіцца да мэты свайго маршу і апраўдвалася тым, што ўперадзе былі мясцовыя прадметы, якія маглі зьявіцца ўкрыцьцем ад бронявых часьцей. Пры адсутнасьці такіх укрыцьцяў адыход з раёну Дубовая, Лужкі, які меў рад процібранявых укрыцьцяў, на адкрытае месца быў-бы неразважным, бо выгоды мясцовасьці ня былі-б выкарыстаны поўнасьцю.

Галаўная паходная застава павінна была разгарнуцца на адкрытым месцы, сядлаючы дарогу; але галаўная паходная застава не становіць сабой буйнай цэлі. Яна, будучы разгорнутай у баявы парадак, 1) лёгка маскіруецца, 2) не зьяўляецца прывабнай мішэньню для мэханізаваных часьцей, якія маюць на мэце разгром галоўных сіл калён, 3) лёгка можа быць падтрымана артагнём часьцей калёны, якія разгарнуліся ззаду, 4) сама павінна адыграць ролю першай перашкоды для руху колавых бронямашын (мае батальённыя пушкі), і першай заслоны супроць скоўваючых аўтастралковых і аўтакулямётных часьцей праціўніка, якія могуць разгарнуцца з фронту.

**3-ці эпізод.** Камандзіру батальёна, трапіўшаму на заходнюю ўскраіну Клінчаны, было відаць, як на гасьцінцы з-за грэбеня вышыні 110,7 зьявілася невялікая аўтамабільная калёна. Некалькі машын рухалася і па дарозе на Клінчаны. Трапіўшы пад кулямётны агонь залёгшай заставы, якая страціла пушку і аддзяленьне ручных кулямётаў, растрэленыя танкеткамі, машыны адкрылі агонь з кулямётаў, але павінны былі адыйсьці за закрыцьце пасьля стрэлаў пушкі з Клінчаны, якая падбіла адну машыну. На вышыні 110,7 дзьве гарматы адкрылі агонь па 109,3.

У кірунку на Іванаўцы хутка ўзьнік, потым спыніўся шум артылерыйскага бою. Назіральнік на даху данёс, што з-за гаёў на Поўнач ад Клінчаны паказаліся танкі, якія хутка рухаліся на Клінчаны і на ўсход ад іх. Каля 10 ішло прама да Клінчаны і значна больш у кірунку на в. Дубовая. Назіральнік налічыў іх больш за 20.

Было відаць, як асноўная група танкаў бяз усякіх перашкод перасекла гасьцінец каля Дубовая, абыходзячы яе з захаду і з усходу, у той час, як правае крыло танкаў наткнулася перад Клінчанамі на агонь пушкі, якая стаяла на паўночнай ускраіне. Пяць танкаў павярнулі на гэту пушку і па агародах накіраваліся на вёску. Аднак некалькі запаленых дымавых шашак захавалі ад танкаў гармату, засланіўшы дымам як будынкі, так і прамежкі паміж імі. Танкі, наткнуўшыся і зламаўшы пару хлявоў і страціўшы ад пушкі адзін танк, павярнулі і хутка пайшлі міма вёскі.

Некалькі гранат разарвалася на поўнач і на поўдзень ад вёскі. Гэта страляла па вёсцы батарэя, стрэлы якой былі чутны на поўнач ад вёскі.

Было відаць, што на ўсход ад Клінчаны ідзе на поўдзень яшчэ адзін эшалён танкаў, лікам да 15. Танкі настолькі хутка рухаліся, што агонь пушак з Клінчаны, доўгага гаю і Дубовая, суправаджаючы іх рух не нанёс ім ніякай шкоды. Толькі адзін танк засеў, перайшоўшы гасьцінец, у глыбокай канаве і быў зьнішчаны прамым пападаньнем пушкі з доўгага гаю.

Агонь, адкрыты самаходнай батарэяй, якая ішла за танкамі, з Дубовая, запаліў адну хату ў вёсцы. Сухі будынак хутка загарэўся, дым панёсься на захад, засьцілаючы апошнія групы танкаў, якія адышлі на поўдзень і адкрылі моцную артылерыйскую стральбу. Праціўнік адышоў на поўдзень, напаўшы ўжо на наступную калёну.

**Разбор.** Танкеткі і аўтабронямашыны, якія зьявіліся на шырокім фронце з захаду, устанавілі лінію, дасягнутую нашымі перадавымі часьцямі, і прайшлі далей у тыл для далейшай выведкі. Іх зьмяніў эшалён аўтакулямётных часьцей, якія скавалі нашы часьці з фронту і наклікалі на сябе агонь кулямётаў і гармат. Удар быў нанесены групай скараходных танкаў (каля батальёна), якія ўклініліся паміж калёнай 80-га і 81-га палка і ўдарылі на перарэз на поўдзень у кірунку на Адэльск. Удар быў па першых эшалёнах дывізіі, што тлумачыцца нязручнасьцю дзействаў танкаў у раёне на ўсход ад гэтага кірунку, у якім шмат лясоў і балоцістых рэчак. Відавочна праціўнік меў на мэце: нанесьці паражэньне калёнам чырвоных да выхаду на лінію р. Ласосна і тым палегчыць выхад сваіх войск, якія пераходзілі ў наступленьне, за гэту лінію. Танкі не нанесьлі ніякай шкоды войскам, якія сваячасова захаваліся ў населеных

пункты і лес. Яны маглі зразумела праціўніка паведаміць пра сваю прысутнасць і ўдасканаліць агонь, бо зразумела прайсьціся паўвёсцы, але яны рызыкавалі быць зьнішчанымі нават зьвязкамі ручных гранат, кідаемых з-за дамоў, і нават у лепшым для іх выпадку яны патрацілі-б шмат часу на зусім бескарысную для іх работу. Таму яны накіраваліся на поўдзень з мэтай нанесьці флянгавы ўдар па іншых калёнах.

Мы спыняем увагу па мэтазгоднасьці выкарыстаньня дымавых шашак (дымавых прыбораў), якія перашкаджаюць як руху, так і вядзеньню агню танкамі.

Палкавыя пушкі, размешчаныя паасобку ў населеных пунктах і гаі, не маглі нанесьці сур'ёзнага паражэньня скораходным танкам па наступных прычынах.

Перш за ўсё іх было мала накіравана ў бок танкаў—частка гармат была накравана на захад; па-другое, флянгавы агонь ў адносінах да баявога курса танкаў ня мог быць сапраўдным з-за вялікай вуглавой скорасьці перамяшчэньня танкаў і непаваротлівасьці палкавых гармат. Агонь у лоб танкаў быў-бы значна больш сапраўдным.

У нашым выпадку артылерыя не адыграла ролі актыўнага фактару барацьбы з танкамі: яна была распылена па гарнізонах і таму выконвала асобныя задачы абароны і прыкрыцьця жывой сілы ў кожным гэтым гарнізоне. Але ва ўсякім разе гэту апошнюю ролю яна выканала, спрабуючы (менш удала) выраашыць і сваю першую задачу.

Мы бачым, што кіраўніцтва батальёнам выразілася толькі ў адданьні распараджэньняў і кантролі за выкананьнем падзяленьня, у якім па артылерыйскай частцы гэтага падзяленьня прыняў удзел камандзір палкавога дывізіёна, які абʼехаў гарнізоны.

У час падзялельня камандзір батальёна ня мог натуральна ўзьдзейнічаць чым-небудзь на ход бою, даючы свабоду дзействаў камандзірам рот.

Прыняты баявы парадак (трохвугольнікам) быў вызначаны зразумела ўмовамі мясцовасьці і нічым іншым, але ён быў надзвычайна ўдалы ў сэнсе працідзейства аўтастралковым і аўтакулямётным часьцям, для чаго неабходна было арганізаваць кулямётны агонь па магчымасьці на больш шырокім фронце і ўбольш глыбокім раёне.

4-ты эпізод. Небясьпека танкавага ўдару мінула, трэба было ісьці ўперад. На фронце ішла лёгкая перастрэлка з аўтакулямётнымі часьцямі.

Камандзір батальёна загадаў: „Батальён рухаецца ўперад на м. Кузьня, зьбіваючы аўтакулямётныя часьці праціўніка. 4-й роце з 2-й батарэяй выступіць з Клінчаны па прасёлку на Падліпкі. 5-й роце з 2 гарматамі 1-й батарэі наступаць па гасьцінцы і лявей". Абодва загаданьні ён перадаў асабіста спачатку 4-й роце, потым пераехаў у гай да 5-й роты.

6-й роце ён паслаў пісьмовае загаданьне: „Безадкладна выступіць па пераранаму маршруту і рухацца ў 1 *км* за 4-й і 5-й ротамі, забясьпечваючы назіраньнем на поўнач і поўдзень бясьпеку флянгаў і тылу 4-й і 5-й рот".

Камандзіру палкавога дывізіёна было загадана: „Пакінуўшы ў падначаленьні камандзіраў рот батарэі, прыняць захады да хутчэйшага адкрыцьця агню ўсёй артылерыі па аўтакулямётах праціўніка".

Начальніку галаўной заставы: „Пасьля перакату цераз заставу 4-й і 5-й рот далучыцца да 6-й роты".

Падтрыманыя агнём 5-ці гармат і ўсіх кулямётаў, роты перайшлі ў наступленьне і лёгка зьбілі аўтакулямёты праціўніка (каля 10), якія адышлі за вышыню 110,7, адкуль прыкрылі свой адыход агнём двух кулямётаў і 2 броня-машын. Пад агнём артылерыі аўтамашыны адышлі за Падліпкі. Прайшоўшы да Падліпкі, камандзір батальёна спыніў батальён і паслаў уперад паходную заставу з палкавой гарматай прывесьці батальён у парадак.

Разбор. Небясьпека танкавага нападу пакуль мінула. Трэба было выкарыстаць гэты момант і рухацца безадкладна ўперад, каб як мага хутчэй выйсьці за р. Ласосна і пакінуць гэту значную рачную перашкоду ззаду за сабой. Таму камандзір батальёна парашыў безадкладна аднавіць рух.

Гэты рух уперад быў зьвязаны са зьбіваньнем аўтакулямётаў праціўніка, якія знаходзіліся перад фронтам батальёна. Гэта задача была вырашана лёгка і хутка дзякуючы таму, што па-першае батальён ня быў растроены танкавай атакай, а па-другое палажэньне яго ў дзьвюх групах на фронце і аднэй ззаду было вельмі зручнае для безадкладнага наступленьня. Гэтаму спрыяла і наяўнасьць дзьвюх дарог на Падліпкі.

## Агульнае заключэньне

Мы маем прыклад, як можна бесьперашкодна ўнікнуць усіх вынікаў масавага танкавага нападу (больш за батальён). Такі ўдалы рэзультат (страты былі нязначныя і адносіліся галоўным чынам да зьнішчэньня павозак, якія не насьпелі захавацца ў Дубовая) тлумачыцца наступнымі акалічнасьцямі:

1. Загадзя прынятым і паведамленым усім камандзірам плянам процібранявой абароны і добра арганізаванай службай паведамленьня, да якой мы адносім і данясеньне самалёта, дазволіўшага спакойна ажыцьцявіць намечаны варыянт пляну процібранявой абароны, што пазбавіла мэхчасьць аднаго з важнейшых фактараў посьпеху—раптоўнасьці.

2. Спрыяючымі ўмовамі мясцовасьці і выкарыстаньнем усіх выгад яе для процітанкавага дзейства. Тут трэба заўважыць, што мясцовасьць у цэлым не ўяўляла з сябе ніякіх перашкод для руху танкаў; ня было вялікіх лясоў, балот, рэк, абрываў, але ў той-жа час асобныя мясцовыя прадметы, разьмешчаныя поблізу ад шляху руху, давалі цэлы рад укрыцьцяў.

Нават калі-б танкі паставілі сабе задачай зьнішчыць пяхоту, якая захавалася ў населеных пунктах [1]), то яны на рашэньне гэтай задачы патрацілі-б шмат часу, іх сфэра дзейства зьвялася-б да вельмі абмежаванага раёну, закранаючага вельмі нязначную колькасьць вайскавых часьцей, што дазволіла-б усім астатнім або ўвільнуць ад удару, або арганізаваць зьнішчэньне танкавых груп, захопленых боем у населеных пунктах.

Неабходна адзначыць наступнае: нават наяўнасьць аўтакулямётных і аўтастралковых часьцей у мэхбрыгадзе не вырашае пытаньня барацьбы і зьнішчэньня пяхоты, якая захавалася ў мясцовых прадметах. У нашым выпадку яны былі надзвычайна слабыя (магчыма, што значная іх частка была пакінута на прыкрыцьце пераправаў цераз р. Ласосна для забесьпячэньня бесьперашкоднага звароту мэхчасьцей на захад, за р. Ласосна) і аказалі нязначнае ўзьдзеяньне на ход бою.

## АБАРОНА СТРАЛКОВАЙ РОТЫ НА ПАХОДЗЕ СУПРОЦЬ МЭХАНІЗАВАНЫХ ЧАСЬЦЕЙ

### (Тактычны прыклад)

### (Плян В. Белаліпецкага; аркушы—зборны і 5,6,8,9).

Абстаноўка па задачы на абарону батальёна на маршы.

Камандзір 4-й роты, якая рухалася ў галаве калёны, меў на руках графічны плян процібранявой барацьбы для батальёна (чарц. 29) і склаў сабе свой уласны плян, які быў вядомы ўсім камандзірам узводаў. Ён заключаўся ў наступным: пры ўсякіх умовах сутычкі рота падзялялася ў трохвугольнік стралковых узводаў з вяршыняй, накіраванай у бок руху. Гэты трохвугольнік павінен быў укладацца ў мясцовы прадмет, які выкарыстоўваўся як абарончы пункт і ўкрыцьцё, пры падзяленьні на адкрытай мясцовасьці разыходжаньне вызначалася ўмовамі маскіроўкі і магчымасьцю прыкрыцьця гэтага трохвугольніка артылерыяй, якая была пры роце. Узводы павінны былі абараняць адпавядаючыя іх кірункам сэктары супроць аўтастралковых і аўтакулямётных часьцей. Кулямётны ўзвод павінен быў разьмяшчацца па ўказаньні камандзіра роты ў адпаведнасьці з абстаноўкай кожнага данага выпадку.

---

[1]) Танкі ня маюць ніякіх пераваг перад пяхотай у барацьбе за населеныя пункты. Наадварот, апошняя аказваецца ў больш выгодных умовах.

З камандзірам батарэі, якая падтрымлівала роту, камроты дагаварыўся аб наступным: у залежнасьці ад кірунку разгортваньня пяхоты, адбываецца і разгортваньне артылерыі. Так, пры броняваай небясьпецы з фронту і знаходжаньні ўкрыцьця ўперадзе перад калёнай, першай выскаквае ўперад батарэя і прыкрывае пяхоту ў час яе падзяленьня і дасягненьня ёй назначанага ўкрыцьця. Наадварот, пры знаходжаньні намечанага ўкрыцьця ззаду за калёнай, батарэя разгортваецца на месцы і адыходзіць назад ужо пасьля таго, як пяхота падзялілася і дасягнула ўкрыцьця, што знаходзілася ззаду.

1-шы эпізод. У час маршу камандзір роты вывучае мясцовасьць і выварае яе з картай з пункту погляду таго, што на карце ня можа быць адзначана, але можа мець вялікае маскавальнае значэньне: нязжатыя пасевы, дробныя зарасьлі хмызьняку, высокая трава, невялікія лагчынкі, асабліва з абрывістымі спадамі.




Чарц. 31.

Ён павінен выразна ўяўляць сабе, што ў кожны даны момант трэба рабіць паводле намечанага пляну. Бесьперапынная арыентыроўка на мясцовасьць— першая ўмова посьпеху пры налёце мэхчасьці.

Атрымаўшы ўказаньні камандзіра батальёна: „Авіявыведчык заўважыў матакалёну праціўніка каля м. Новы Двор. Чакаю нападу на вучастку № 2", камандзір роты загадаў камандзірам узводаў:

„1. Па маім сыгнале „броневая трывога" наша рота паверне на Клінчаны, дзе і будзе чакаць налёту.

2. І узводу з кулямётным узводам заняць заходнюю ўскраіну вёскі, II—паўночную, III узводу— паўднёва-ўсходнюю.

3. 2-я батарэя нас прыкрывае і разьмяшчаецца па-гарматна ва ўзводных сэктарах".

Камандзір батарэі паслаў на Клінчаны камандзіра ўзвода кіраўніцтва і двух выведчыкаў для выведкі вёскі і подступаў да яе. Коньнікі галёпам паехалі ўперад. Праз 15 мінут яны вярнуліся і далажылі: разьмяшчэньне будынкаў цеснае, хаты дзеравяныя, завулкі ёсьць па 2—3 на кожны бок вуліцы, вакол вёскі месца адкрытае. Камандзір батарэі зараз-жа паведаміў аб гэтым камандзіру роты.

**2-гі эпізод.** Пры падыходзе да стыку гасьцінца з дарогай на Клінчаны камандзір роты прыняў сыгнал „броьявая трывога“ і перадаў яго далей. Рота зараз-жа павярнула на Клінчаны. Міма роты галёпам паехала туды-ж батарэя. У вёсцы ўзводы і батарэя безадкладна занялі палажэньне, указанае на чарцяжы 31. Каля аколіцы і ў завулках на дахах і на зямлі былі выстаўлены процітанкавыя сакрэты, узброеныя зьвязкамі ручных гранат і дымавымі шашкамі. Камандзір батарэі абсталяваў на даху высокай хаты назіральны пункт. Сам-жа ён хутка верхам аб‘ехаў разьмяшчэньие гармат.

Узводы хутка зрабілі завалы з бярвеньня ў завулках і на вуліцы для таго, каб затрымаць рух танкаў. Камандзір роты пераходзіў ад I узвода да II, калі I узвод адкрыў агонь па танкетках праціўніка. Гармата № I дала некалькі стрэлаў і падбіла адну танкетку.

**3-ці эпізод.** Камандзір роты хутка залез на падстрэшша, дзе быў ужо камандзір батарэі. Камандзір роты бачыў агнявы бой заставы з танкеткамі і броня-машынамі праціўніка, а павярнуўшы галаву на шум артылерыйскага бою на поўнач, убачыў групу танкаў (аб якой было далажана камандзіру батальёна, які стаяў на вуліцы, пасьля чаго ён таксама залез на падстрэшша).

Гэта група танкаў накіроўвалася на вёску. Пасьля адбіцьця атакі (глядзі папярэднюю задачу) камандзір батарэі загадаў гармаце № 2 перамясьціцца на ўсходнюю ўскраіну, Клінчаны для стральбы па танках, якія праходзілі на ўсход ад Клінчаны на поўдзень. Дзьве гарматы адкрылі агонь па I-му эшалёну танкаў.

У той-жа час I стралковы і кулямётны ўзводы роты вялі агонь з кулямётаў па аўтакулямётах праціўніка, якія насядалі на прыціснутую да зямлі галаўную заставу.

**4-ты эпізод.** Пасьля прахаджэньня танкавай групы на поўдзень і атрыманьня загаду на аднаўленьне руху камандзір роты загадаў перавесьці ўсе гарматы на заходнюю ўскраіну і адкрыць агонь па аўтакулямётах праціўніка. Пад прыкрыцьцем агню гармат і станкавых кулямётаў I узвод пайшоў у наступленьне, за ім рушылі і астатнія ўзводы. Назіральніку на даху дому было загадана сачыць за зьяўленьнем танкаў і сыгналізаваць аб гэтым ракетамі і сыгнальным ражком. Канец знаходжаньня яго на даху быў вызначаны дасягненьнем батальёнам в. Падліпкі. Прамежны пост устанаўліваўся на дарозе на поўнач ад сялянскага двара.

**Разбор.** Процітанкавая абарона 4-й роты зьяўляецца ўдалым выпадкам як у адносінах выкарыстаньня мясцовасьці, так і ўсёй загадзя прадуманай арганізацыі. Уласьцівасьці закрытай унутранай прасторы населенага пункта дазволілі зрабіць некаторы манэўр гарматамі. Рота павінна была адбіваць і націск з фронту аўтакулямётных часьцей і ўдар у флянг танкаў. Гэта ўдалося зноў-такі дзякуючы выгодам разьмяшчэньня ў населеным пункце.

Зразумела не заўсёды удаецца аказацца ў такіх выгодных умовах. Мы прасьледвалі ў данай задачы мэту паказу, як можна заўсёды выкарыстаць усе выгоды мясцовасьці.

У наступнай задачы мы коратка разглядаем выпадак арганізацыі барацьбы на адкрытай мясцовасьці, дзе танкі засьцігаюць пяхоту ў менш спрыяючых умовах.

## АБАРОНА СУПРОЦЬ МЭХАНІЗАВАНЫХ ЧАСЬЦЕЙ НА МАРШЫ Ў НЯСПРЫЯЮЧЫХ УМОВАХ МЯСЦОВАСЬЦІ

### (Тактычны прыклад)

### (Плян В. Белаліпецкага, аркуш і чарц. 32).

III батальён 37. с. п. з даданым палкавым артдывізіёнам ідзе ў галаўным атрадзе калёны палка і ў 11 гадзін займае палажэньне, указанае на чарцяжы. Управа ад дарогі—няскошаная сенажаць з высокай травой. Паласа ўлева ад дарогі—могілкі і нязжатае жыта. На захад ад могілак, у лагчыне—скошаная сенажаць: копы нязьвезены. На поўдзень ад лагчыны, на паўднёвых спадах вышыні 77,0—папар, на якім няма маскавальнага пакрыцьця. Ручай на ўсход ад дарогі мае глыбіню $^1/_2$—$^3/_4$ *м*. Могілкі з крутым ровам і каменнай сьценкай у $^3/_4$ *м* вышыні.

Камандзір батальёна ідзе ў галаве калёны; ён бачыць ракеты на поўначы; ад перакрыжаваньня з крыжам едзе баец з бакавога коннага дазору з данясеньнем (славесным): „па гасьцінцы на поўдзень ідуць танкеткі“. Сам камандзір батальёна пачуў артылерыйскія стрэлы на поўначы. Ён безадкладна аддаў наступныя вусныя распараджэньні:

„Танкавая небясьпека з поўначы. Батарэям прыкрыць пяхоту. 7-й роце захавацца ў кустох па беразе рэчкі. 8-й роце—на могілках і на захад ад іх. 9-й роце—права з дарогі ў кусты і на сенажаць па беразе рэчкі. Кульроце на вышыні на поўнач ад могілак“.

Чарц. 32.

Камандзір дывізіёна загадаў: „1-й батарэі асядлаць пазыцыяй гасьцінец; стральба на поўнач. 2-й батарэі—пазыцыі на вышынях на поўнач ад каталіцкіх могілак; стральба на поўнач“.

На вышыню, на поўнач ад могілак, паехалі камандзір батальёна і камандзір дывізіёна. Перад гэтым камандзір дывізіёна выслаў ад сябе двух выведчыкаў на вышыню 93,2 для назіраньня на поўнач заходнюю і апавяшчэньня аб танках.

Падразьдзяленьні калёны занялі палажэньне, указанае на чарцяжы.

Ва ўмовах гэтай мясцовасьці 6 гармат, даданых батальёну, зразумела, ня ў сілах былі справіцца з батальёнам танкаў. Так або інакш танкі падавілі-б або зьнішчылі ўсе гарматы: у лепшым выпадку гарматы здолелі-б падбіць 10—12 танкаў. Астатнія танкі, падавіўшы гарматы, пайшлі-б зьнішчаць пяхоту, пазбаў-

левую сваіх актыўных абаронцаў. Трэба ясна ўяўляць сабе тое становішча, якое магло-б быць. Выпадкі падбіцьця аднэй гарматай некалькіх танкаў, як гэта было ў імпэрыялістычную вайну, могуць быць рэдка і толькі пры надзвычайна спрыяючых умовах для артылерыі. Такіх умоў ні даная мясцовасьць, ні абстаноўка зьяўленьня танкаў не даюць. Такім чынам нельга разьлічваць на пасьпяховы канец няроўнага бою. Але аднак трэба памятаць наступнае: 1) магчыма падзеленая калёна ня будзе заўважана танкамі, якія пройдуць міма; 2) задача танкаў ня вычэрпваецца нанясеньнем паражэньня толькі данаму батальёну, а заключаецца ў паражэньні больш буйных некалькіх калён; 3) таму перад кожным пяхотным начальнікам, які трапляе пад удар танкаў, павінна стаяць задача: выбіць як мага больш танкаў, каб яны дайшлі да наступнай калёны ў меншай колькасьці, г. зн. паслабленымі і няздольнымі да моцнага ўдару [1]), па магчымасьці замаскіраваць і падзяляць жывую сілу.

---

[1]) Для выведчага атраду можа скласьціся і іншая процілеглая праблема: пры спрыяючых умовах мясцовасьці ухіліцца ад артбарацьбы з танкеткамі, каб захаваць сябе, застаўшыся незаўважаным.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Мы прысьвячаем наша заключэньне практычным вывадам для тактыкі процібранявой абароны толькі на паходзе, мяркуючы, што процібранявая барацьба ў абароне даволі падрабязна асьветлена ў нашых задачах.

1. Наяўнасьць дальняй і бліжняй выведкі дае магчымасьць усім падрыхтавацца да бою і артылерыі заняць пазыцыі, але ўсё-ж такі часу так мала, што трэба абавязкова распрацаваць папярэдні плян дзействаў, які-б устанаўліваў іх адзінства, асабліва ўзаемадзейства пяхоты і артылерыі.

2. Неабходна авіявыведка, таму што яна адна можа даць карціну агульнага манэўру мэханізаванага злучэньня. Дальняя наземная выведка можа даць толькі зьвесткі аб перадавых часьцях мэханізаванага злучэньня і то пры ўмове, калі будуць дадзены адпаведныя сродкі сувязі.

3. У барацьбе з мэханізаваным праціўнікам пяхота мае некаторыя перавагі: яна можа лепш прыстасавацца да мясцовасьці, чым браніраваныя павозкі, не процітанкавыя сродкі з земнай пазыцыі могуць паразіць танк на адлегласьці, у 2-3 разы большай за дыстанцыю, з якой танк можа паразіць гэту процітанкавую гармату.

Артылерыйскае ўзбраеньне стралковай дывізіі па сваіх якасьцях і колькасьці недастатковае для рашучай перамогі над мэханізаваным злучэньнем у спрыяючых для апошняга ўмовах мясцовасьці.

Аднак пры правільнай арганізацыі марша, добра наладжанай выведцы, ахаваньні і сувязі, умелым выкарыстаньні наяўных сродкаў і выгодных уласьцівасьцяй мясцовасьці, надвор'я і часу сутак стралковая дывізія павінна разьлічваць на посьпех адбіцьця або ўхіленьня ад атакі танкаў. У прыватнасьці трэба ўмець рабіць начныя маршы.

4. Чоткая дысцыпліна, даведзены да нізоў плян барацьбы, палітыка-маральная ўстойлівасьць войск, аснованая на рэальным уяўленьні ўласьцівасьцяй тэхнікі праціўніка,—павінны даць бясьпеку, свабоду дзействаў стралковых часьцей і іх посьпех барацьбы з мэханізаваным праціўнікам.

5. Мэханізаванае злучэньне вельмі рухомае: калі другі бок не будзе мець такіх-жа рухомых сродкаў барацьбы, а толькі пяхоту і артылерыю, якая павольна рухаецца і дзейнічае, то яго страты будуць вялікія, і свабода руху будзе скавана. Лепшымі сродкамі барацьбы з мэханізаваным праціўнікам зьяўляюцца спэцыяльныя процітанкавыя пушкі, буйнакалібравыя кулямёты, якія павінны быць матарызаваны, танкі і мэханізаваныя часьці.

6. Узбраеньне пяхоты павінна адбывацца шляхам даданьня пяхотных процітанкавых сродкаў у выглядзе буйнакалібравых кулямётаў і процітанкавых гармат. Іх трэба дадаваць батальёнам па наступных прычынах: 1) глыбіня паходнага парадку палка настолькі вялікая, што процітанкавая гармата можа не пасьпець да патрэбнага вучастку; 2) батальён зьяўляецца вышэйшай пяхотнай адзінкай і асновай пабудовы паходнага парадку, таму ён павінен мець у сваім саставе ўсю зброю, неабходную для сучаснага пяхотнага бою.

Для пасьпяховай барацьбы ў няспрыяючых умовах мясцовасьці з мэханізаваным праціўнікам неабходна наяўнасьць сваіх мэханізаваных часьцей (артылерыі і танкаў). Першыя прызначаюцца для выведкі, прыкрыцьця і барацьбы з тылам мэханізаванага злучэньня, другія дадаюцца дывізіі для барацьбы з ударнай групай яго. Абавязкова абслугоўваньне авіяцыі, якая ўказвае рух ударнай групы мэхзлучэньня і дапамагае змагацца з ёй. Дывізіі неабходна дадаць сродкі сувязі, якія даюць магчымасьць хуткай дастаўкі данясеньняў (матацыкл, аўтамабіль, радыётэлефон). Бяз іх дальняя выведка ў большасьці выпадкаў траціць свой сэнс за выключэньнем выпадку, калі яна дзейнічае як перадавы атрад.

7. Апрача спэцыяльных сродкаў для пасьпяховай барацьбы неабходна добрая пяхота, навучаная ў барацьбе з мэханізаваным злучэньнем.

Толькі процітанкавыя сродкі барацьбы, якія стаяць на ўзроўні сучаснай ваеннай тэхнікі, мэханізаваныя часьці, танкі і добра навучаная пяхота могуць пасьпяхова змагацца з мэханізаваным праціўнікам і захаваць за стралковымі часьцямі апэратыўную і тактычную свабоду дзействаў. Калі стралковыя часьці будуць добра ўзброены тэхнічна, і дзействы іх будуць правільныя і ўдалыя тактычна настолькі, што напад мэханізаванай часьці будзе адбіты, то ўсё-ж такі затрымка руху стралковай дывізіі адбудзецца, бо для барацьбы з мэханізаванымі часьцямі патрэбна будзе разгортваньне, а потым пабудова нанова паходнага парадку для далейшага руху. Такім чынам тактычна дывізія можа і ўстоіць, але апэратыўна яна ўсё-ж такі будзе зьвязана.

Выключэньнем можа зьявіцца толькі той выпадак, калі сродкі барацьбы ў выглядзе мэханізаванай часьці, якая абслугоўвае стралковую дывізію, настолькі моцныя, што гэта мэханізаваная часьць, высланая на сустрэчу, разаб'е свайго праціўніка і не дасьць яму падыйсьці да стралковай дывізіі.

Які-ж агульны вывад? Ці можа наша стралковая дывізія з яе сучасным узбраеньнем змагацца з мэханізаваным злучэньнем, ці апошняе настолькі мацнейшае, што стралковая дывізія процістаяць яму ня можа і ў адкрытым баі заўсёды будзе пераможана?

На гэта мы даем наступны адказ.

Калі стралковая дывізія добра падрыхтавана да барацьбы з мэханізаванымі часьцямі, правільна арганізуе і праводзіць маршы, то яна, як мы ўказвалі, здолее вывесьці са строю 40—45 проц. баявых адзінак ударнай групы мэханізаванай брыгады.

Таму мы гаворым, што стралковая дывізія можа і павінна змагацца з мэханізаванай брыгадай, прычым пасьпяховасьць гэтай барацьбы будзе залежаць ня толькі ад наяўнасьці вядомай колькасьці актыўных сродкаў барацьбы, але і ад ўменьня камандваньня правільна арганізаваць і яшчэ больш правільна правесьці марш.

Другую частку нашага заключэньня мы лічым патрэбным прысьвяціць пытаньням падрыхтоўкі войск проціганкавай абароны на паходзе, лічачы, што проціброневая барацьба у нярухомай абароне значна лягчэй арганізуецца, больш знаёма каманднаму саставу і атрымала даволі шырокае асьвятленьне ў нашых статутах і ўсіх указаньнях па падрыхтоўцы часьцей у проціпегласьць проціброневой абароне на маршы.

Пасьпяховасьць ажыцьцяўленьня проціброневой абароны ў любых палажэньнях залежыць ад наступных ўмоў:

1. Ня толькі тэарытычнага, але галоўнае практычнага веданьня тактычных і тэхнічных уласьцівасьцяй новага роду зброі (мэханізаваных часьцей у цэлым і танкаў у прыватнасьці).

2. Веданьня спосабаў і прыёмаў барацьбы з імі.

3. Уменьня поўнасьцю выкарыстаць уласьцівасьці мясцовасьці на сваю карысьць.

4. Уменьня хутка арганізаваць абарону, вынікаючую з умоў мясцовасьці, тактычнай абстаноўкі, наяўных сродкаў барацьбы і магчымага спосабу дзействаў праціўніка.

5. Добрай натрэніраванасьці войск у адносінах тэхнічнай вывучкі і звычак ва ўзаемадзействе родаў войск і маральнай устойлівасьці.

Першыя чатыры ўмовы адносяцца да падрыхтоўкі каманднага саставу, а апошняя да падрыхтоўкі войск.

Некаторая частка гэтага пытаньня зьяўляецца агульнай з проціпаветранай абаронай,—у прыватнасьці служба назіраньня, сувязі і апавяшчэньня мае так шмат агульнага, што можна прызнаць агульнымі ня толькі прынцыпы, але і тэхнічныя прыёмы.

Мы ня спыняемся на падрыхтоўцы каманднага саставу: сутнасьць гэтай падрыхтоўкі вельмі ясна вынікае са зьместу як тэарытычнай, так асабліва практычнай часткі нашай кніжкі. Правядзеньне лятучак на мясцовасьці і картах павінна зьявіцца

лепшым мэтадам падрыхтоўкі каманднага саставу. Камандны састаў павінен асабліва добра разьбірацца ва ўласьцівасьцях мясцовасьці—спачатку на карце (падрыхтоўка маршу), потым на самай мясцовасьці. І тое і другое лішні раз падкрэсьлівае неабходнасьць цьвёрдых тапаграфічных ведаў, тактычных разьлікаў і вывадаў, вынікаючых з яснага ўяўленьня аб уласьцівасьцях мясцовасьці.

Але асабліва важнае значэньне мае падрыхтоўка саміх падразьдзяленьняў і часьцей, якая павінна заключацца ў паказных і трэніровачных вучэньнях і практыкаваньнях; практыкаваньні могуць арганізоўвацца самастойна або праводзіцца, як эпізод, ва ўсіх іншых вучэньнях (асабліва маршах).

Паказныя вучэньні павінны праводзіцца перад усёй наступнай падрыхтоўкай і ахопліваць па сваім зьмесьце ўзаемадзейства пяхоты і артылерыі. Само сабой зразумела, што праціўнік павінен быць прадстаўлены або макетамі, або рэальнымі машынамі. Умоўнасьць павінна знайсьці найменшае месца ў гэтых вучэньнях.

Трэніровачныя тактычныя і страявыя практыкаваньні павінны заключацца ў наступным:

Для пяхоты:

1. Умець хутка пераходзіць ад маршавых страёў да процібранявых парадкаў. Пры спрыяючых умовах мясцовасьці: хутка дасягаць намечаных укрыцьцяў, разьмяшчацца ў іх з захаваньнем падразьдзяленьня ў руках яго камандзіра, адбіваць сваімі сродкамі напад бранявога праціўніка, хутка займаць ранейшы маршавы парадак.

Для няспрыяючых умоў мясцовасьці (адкрыты раён): умець хутка разыходзіцца так, каб не зьяўляцца буйнымі цэлямі для танкаў і выкарыстаць усе маскавальныя ўласьцівасьці мясцовасьці для ўкрыцьця ад танкавага назіраньня.

Абазначэньне праціўніка можа быць: пры наяўнасьці дарог пры дапамозе павозак або колавых аўтамабіляй, або (без дарог) пры дапамозе конных, якія рухаюцца па мясцовасьці ў заданым кірунку, з заданай скорасьцю (часьцей за ўсё гэта будзе рысь—12—15 *км* у гадзіну), адзначаных асобным умоўным адразьняльным знакам (флажок, шчыток і г. д.). Нават такое прымітыўнае абазначэньне праціўніка дае войскам правільнае ўяўленьне аб неабходнай шпаркасьці іх дзействаў і неабходным тэмпе рэагаваньня войск.

2. Умець пераходзіць у процібранявы парадак, не перашкаджаючы разгортваньню артылерыі.

Такія практыкаваньні трэба праводзіць як асобныя эпізоды ў час ротных вучэньняў. Паколькі ўдзел артылерыі нават у ротных вучэньнях прызнаецца неабходным, то і ў ротным вучэньні (у час руху да месца вучэньня або пры звароце) можна лёгка разыграць падобныя эпізоды, таксама, як на ўсякіх вучэньнях мы стараемся даваць эпізоды проціпаветранай абароны.

Трэба трэніравацца ў арганізацыі хуткага ўтварэньня дымавой заслоны [1]).

Для артылерыі:

1. Перш за ўсё аб трэніроўцы стральбы па цэлях, якія хутка рухаюцца. Такія практыкаваньні павінны заключацца спачатку ў стральбе з добра абсталяванай загадзя пляцоўкі па мішэнях, якія хутка рухаюцца. Наяўнасьць укладнога дробна калібравага ствала павінна было-б значна павялічыць лік агнявых практыкаваньняў гармат. Гэтыя практыкаваньні для асобнай гарматы зразумела павінны праводзіцца як мага часьцей. Неабходны практыкаваньні і без баявой стральбы, але з абавязковай умовай магчымасьці кантролю наводкі па мішэні, якая рухаецца, і кіраваньне апошняй па жаданьні кіраўніка: напрыклад, спыненьне руху у момант спуску курка для праверкі правільнасьці наводкі і вытварэньня стрэлу. Гэтыя практыкаваньні тэхнічнага парадку.

2. Потым артылерыя павінна трэніравацца ў хуткіх выездах у патрэбным кірунку з калёны і хуткім прыстасаваньні да вядзеньня агню па цэлі, якая рухаецца; апошняе пытаньне зьяўляецца асабліва важным для нашай матэрыяльнай часткі ўзору 1902 г. (76-мм).

Адшуканьне спосабаў палепшаньня паваротлівасьці (у гарызантальнай наводцы) нашай 76-мм пушкі зьяўляецца неабходным. Відавочна тут трэба мець нешта накшталт падхобатавага бруса які ўжываецца намі пры стральбе, але не патрабуючага ўкопваньня, як дзеравяны. Пытаньне аб падрыхтоўцы і кваліфікацыі тэхнічнай і тактычнай нашага камандзіра гарматы павінна быць вырашана безадкладна з станоўчым рэзультатам. Формы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў значнай меры павялічваюць магчымасьці больш хуткай і дасканалай падрыхтоўкі гарматы ў цэлым.

Перад камандзірам гарматы ў баі супроць танкаў будзе стаяць часьцей за ўсё пытаньне выбару цэлі, бо заўсёды на адну гармату будзе прыпадаць некалькі танкаў. Самы просты разьлік гэта даказвае. Пры абароне дывізіі на фронце ў 8 *км* на 1 *км* прыпадае 6 гармат. На 1 *км* праціўнік можа даць ад 10 да 30 танкаў, г. зн. у сярэднім на 1 гармату прыпадзе 3 танкі. Гэта ва ўмовах абароны ў манэўраным баі пры невялікіх нормах танкавага насычэньня. Зусім відавочна, што пытаньне аб выбары цэлі прыдзецца вырашаць не каму іншаму, як камандзіру гарматы. Ён павінен добра ведаць уласьцівасьці і баявую работу танкаў. Адсюль вынікае істотны вывад для нас: бранявая пісьменнасьць малодшага камандзіра павінна быць падвышана.

Правільнае вырашэньне пытаньня аб тактычнай падрыхтоўцы ў нізавых зьвеньнях каманднага саставу зьяўляецца залогам посьпеху барацьбы супроць танкаў.

[1]) Прыкрыцьце пяхоты дымавой заслонай ставіць пытаньне аб неабходнасьці мець дымавыя шашкі ў кожнай стралковай роце або ва ўсякім разе ў стралковым батальёне.

Адсюль і практычны вывад аб неабходнасьці спаборніцкіх прызавых стрэльб і вучэньняў паміж гарматамі. Гэты прынцып работы (сацыялістычнага спаборніцтва паміж гарматамі) павінен стаць асноўным прынцыпам баявой падрыхтоўкі, у першую чаргу—палкавой артылерыі.

Узаемадзейства пяхоты і артылерыі, якое прапрацоўваецца спачатку ў тактычных і страявых вучэньнях, пачынаючы з ротных, павінна атрымаць поўнае разьвіцьцё на атрадных вучэньнях. На іх павінны быць прапрацаваны: 1) у абароне—узаемнае разьмяшчаньне пяхоты і процітанкавых гармат, 2) на паходзе—узаемнае палажэньне пяхотных і артылерыйскіх падразьдзяленьняў у калёне, 3) узаемадзейства ў момант выхаду з калён для разгортаньня ў процібранявы парадак. 4) узаемадзейства ў часе самага бою супроць бранявых часьцей, 5) узаемадзейства пры звароце да паходнага парадку.

Ужываньне нават і ў атрадных вучэньнях спыненьня па сыгнале адначасова ўсіх дзействаў для праверкі ўзаемных палажэньняў асабліва карысна для такіх вучэньняў, каб можна было дакладна устанавіць дапушчаныя памылкі.

Само сабой зразумела, што абазначэньне праціўніка павінна быць на атрадных вучэньнях асабліва поўным і рэальным, прычым танкамакеты, якія ўжываюцца намі, і перасоўваюцца людзьмі, не могуць быць прызнаны для ўсіх выпадкаў годнымі апрача (і то часткова) абароны, з прычыны малой скорасьці іх руху. Відавочна неабходна пабудова танкамакетаў, якія-б перасоўваліся са скорасьцю блізкай да 15—20 *км* у гадзіну.

Абмежаваны лік атрадных вучэньняў наўрад ці дазволіць адвесьці час на асобныя самастойныя тэмы па процібранявой абароне. Таму апошнюю прыдзецца ажыцьцявіць у выглядзе эпізодаў, якія праводзяцца на вучэньнях, як асобныя вучэбныя мэты агульна-тактычных тэм.

Асабліва рэкамэндуецца ўводзіць напады скораходных танкаў у час палкавых вучэньняў, дзе трэба карыстацца рухам часьцей як да выходнага палажэньня, так і зварот з вучэньня, г. зн. ўкараненьне элемэнтаў процібранявой абароны павінна ісьці тымі-ж мэтадамі, што і ўкараненьне элемэнтаў процілаветранай і хімічнай абароны.

Мы спадзяемся, што тэарытычная і практычная частка кнігі (задачы) дапаможа як ва ўразуменьні зьместу процібранявой абароны, так і ў адшуканьні адпаведных тэм і абстаноўкі для арганізацыі „процібранявых“ практыкаваньняў, якія павінны шырока праводзіцца ў баявой падрыхтоўцы войск, каб нам не апынуцца ў палажэньні 7 с. д. 12-й арміі паўднёва-ўсходняга фронту пад Ковелем у 1920 г.

---